Першая
кніга
празаіка

# АЛЯКСЕЙ ДУДАРОЎ



# СВЯТАЯ ПТУШКА

Апавяданні




Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1979

# Святая птушка

Адвячоркам жнівеньскага дня, загнаўшы машыну ў гараж, калгасны шафёр Сцяпан Пузырэвіч каціў да свае хаты старое, зламанае кола. Выпрасіў у конюха дзядзькі Патапа, са смехам паабяцаўшы за гэта бутэльку з палучкі. Вуліца была пубязлюдная. Сцяпан раз-пораз штурхаў сваё кола і пудскаўся подбегам услед за ім. Амаль каля самага двара яму сустрэўся брыгадзір Мікола Тарэйкін.

«От чэмер! — падумаў Сцяпан.— Цягнуць жа яго чэрці! Калі трэба, дык днём з ліхтаром не знойдзеш... А зараз...»

Гаварыць з брыгадзірам у яго не было ахвоты.

— Куды ты гэта? — спытаў той Сцяпана, кіўнуўшы на кола.

Сцяпан з нейкай смешнай беражлівасцю прытуліў кола да нагі, выцер аб штаны рукі і папрасіў:

— Ты закурыць не дасі? — Яму хацелася пазбегнуць гаворкі пра гэты падарунак дзядзькі Патапа і пра тое, што ён задумаў.— Пагодка ў гэтым годзе стаіць! Скажы, як па заказу...

— Навошта яно табе? — усё ж спытаў Тарэйкін.— Запчасткі для свайго грузавіка збіраеш?

— Ды гэта... гэта...— Сцяпан закашляўся і махнуў рукой.

— Калёсы вырашыў паціху сабраць? — усміхнуўся брыгадзір.

— Ага! — узрадаваўся Сцяпан.— А што? Па дровы з'ездзіць ці на рынак калі...

— У цябе ж машына.

— Яно-то так, але... На калёсах неяк цікавей... Едзеш сабе, конік хвастом памахвае...

— Ну, давай. Каці яго ў двор.

Сцяпан пакаціў. Больш ніхто ўжо яму не сустракаўся, і тлумачыць нічога не давялося. Азірнуўшыся па баках, ён адчыніў свае веснічкі і піхнуў кола ў двор. Паразганяўшы куранят, яно віхлява пракацілася па траве і грукнулася аб ганак.

— Што ты прывалок? — азвалася з сенцаў жонка.

Сцяпан, задаволены і радасны, прайшоўся па двары. Тут, за гэтымі веснічкамі, ён заўжды адчуваў сябе ўпэўнена і незалежна. Гаспадар!

— Ці чуеш, што пытаюся? — зноў крыкнула жонка.

— Хадзі зірні. Агрыгат!

Жонка Таццяна, на галаву вышэйшая за Сцяпана, з мокрымі рукамі выйшла на ганак.

— Навошта табе гэтая дрэнь?

— Верталёт рабіць буду,— сур'ёзна адказаў Сцяпан.— Праз тыдзень на ферму, як Баба Яга, лётаць будзеш... Фыр-ррр — і тамачкі!

— Фу-ты, пустабрэх!.. Па дровы б калі-небудзь выбраўся лепей...

— Алешнік твой не вавёрка — не збяжыць. Хай таўсцейшы расце.

— Недарэка. Цягае на двор усякае ламачча... На якую трасцу? — Жонка сярдзіта плюнула і пайшла зноў у сенцы.

Сцяпан доўга і руплів аглядаў сваё кола, мацаў рукой, ці трывалыя яшчэ шэрыя ад засохлай гразі спіцы, схадзіў на дрывотню, прынёс сякеру і, усеўшыся пад ліпай, доўга і старанна вастрыў яе.

— Хадзі вячэраць! — гукнула жонка.— Чым там заняўся?

— Спакойна,— азваўся Сцяпан, здымаючы з ліпі-

ны паблекла-зялёны з патрэсканым абмылкам рукамыйнік.— Не ў бірулькі гуляем...

Таццяна выйшла на ганак, калі муж прыстаўляў да дрэва лесвіцу.

— Што й та ты прыдумаў? Вешацца палезеш? Дык вяроўку, вяроўку вазьмі...

— І вяроўка спатрэбіцца.— Сцяпан засунуў за дзягу сякеру, далез да першых галін і пакараскаўся далей на вершаліну.

— Што ў тваёй галаве? Куды ты? — крычала знізу жонка.

— Да бога ў госці! — са смехам адказаў Сцяпан.— Сёння ля Міхалёўкі мне анёлы ў кабіну заляцелі, паселі на плечы дый кажуць: вялікі ты пакутнік, Сцёпа... Загрызла цябе твая выдра ўшчэнт... Хрыстос глядзіць зверху і плача ад жалю... Лезь, кажуць, вечарком на ліп... Ай, ёлкі-маталкі, усю руку абдзёр!..

— Дурань, звалішся — галаву скруціш...

— Спакойна.

— Які шал у чалавека ўлез?

Сцяпан ужо схаваўся ўвесь у густым лістоўі ліпы і ўпарта шкробся на самую вершаліну.

— Не памрэш ты сваёй смерцю,— патрэсла кулаком угару Таццяна.— Я цябе чакаць не буду! Чуеш?

— Еш,— крыкнуў з ліпы Сцяпан.

— Павячэраю, а што застанецца — свінням аддам. Цьфу, ірад! — Таццяна пайшла ў хату.

Ашчаперыўшы рукамі вершаліну, Сцяпан трохі адпачыў і аддыхаўся. Зверху ўся вёска ляжала як на далоні.

«Прыгажосць! — падумаў Сцяпан.— От жа птушкам добра! Захацелася на дрэва — пырх, і —гатова. І во, любата, прастор... А то і ў неба можна... Буслы вунь пад восень, калі маладняк лятаць вучаць, так высока залятаюць, што і зусім не відаць. Як яно там?..

Чакай, а хто гэта ў Таўкачовай бульбе дрыхне? Хе-ге... Ды гэта ж сам Таўкачык... А Таўкачыха, дурніца, ля магазіна яго шукае... Смяхоцце!»

Сцяпан як зручней уладкаваўся сярод голля, выцягнуў з-за дзягі сякеру і, трымаючыся рукой за сук, пачаў раз-пораз цюкаць па вершаліне. Праз колькі хвілін ссечаная вершаліна зашамацела галінамі і, патрэскваючы тонкімі сучкамі, паляцела ўніз. Сцяпан пусціў за ёю сякеру, выцер далоняй узмакрэлы лоб і стаў спускацца сам...

Пашукаўшы ў каморы вяроўку, ён зайшоў у хату.

— Ты вяроўкі не бачыла?

Жонка засмяялася.

— Ты, можа, і сапраўды... гэта...

— Пацярпі крыху. Не сёння. Дзе вяроўка?

— Сядзь ды паеш, госпадзі... Скажы, што хочаш рабіць?

Лагодны тон жонкі не абяцаў ніякіх насмешак, і Сцяпан прызнаўся:

— Хату буслам будую. Трэба кола зацягнуць...

Таццяна разгублена ўтаропілася ў мужа.

— На якое ліха яны табе?

— Хай жывуць... У вёсцы ніводнага гнязда няма, а вунь у Міхалёўцы аж тры...

Жонка не зразумела.

— Дык што з таго? Жылі без буслоў — і нічога.

— А цяпер з буслямі будзем. Святая птушка... Хай клякоча над нашай хатай.

— Фу-ты! Святая... Яны ж увесь двор запаскудзяць...

— Прыбярэм... Ты скажаш, дзе вяроўка, ці не?

Спрачацца з жонкай і даказваць, чаму так захацелася, каб жылі ў іх вёсцы буслы, Сцяпан не мог. Ён і сам не ведаў... Было ўжо даўно нейкае вострае, шчымлівае жаданне, каб гэтыя белыя птушкі лягалі над вёскай, выводзілі птушанят, прылятаді напрадвесні і

радасна клекаталі па вечарах, калі за старым, разбураным млынам за вёскай садзіцца на елкі ружовае сонца... Было толькі адно жаданне. І магчымасць... Высокія дрэвы ёсць, вёска на ўзвышшы стаіць, балота побач... Толькі і клопату, што кола ўсцягнуць.

— Дзе вяроўка? У каморы на цвіку вісела.

— У хляве, у хляве яна... Ідзі цягні... Каб цябе самога куды-небудзь... Як блазнюк той, чэснае слова! Якая з іх карысць?

— Ціха, не пыхці,— буркнуў Сцяпан, выходзячы з хаты.— Я во завалаку яго туды, а табе калі не спадабаецца, лезь заўтра і здымай...

Добра прывязаўшы адзін канец вяроўкі за вобад, а другі за руку, Сцяпан зноў палез на ліпу. Ля самай вершаліны ён выбраў тоўсты сук, перакінуў вяроўку цераз яго і пачаў падымаць кола. Сцяпан ажно засопся, пакуль узняў яго да першых галін. Наматаўшы вольны канец вяроўкі на руку, ён хацеў адпачыць, але сук, на якім Сцяпан стаяў, раптам, бы вужака, выслізнуў з-пад ботаў, і ён, трэснуўшыся лбом аб гэты ж пракляты сук, стрымгалоў паляцеў уніз з канцом вяроўкі. Знізу, нібы рэактыўны снарад, ламаючы галлё, шуганула кола на макаўку дрэва.

— А маць тваю за нагу! — толькі і паспеў крыкнуць Сцяпан, ужо боўтаючы нагамі метры на два ад зямлі. Кола засела на вершаліне паміж двух сукоў, а Сцяпан павіс на вяроўцы.

«Памяняліся месцамі,— усміхнуўся Сцяпан. Спалохацца ён не паспеў.— Гэта ж як піць даць можна было зайграць на той свет...»

Трэба было вызваліць ад вяроўкі руку і саскочыць на зямлю. Але Сцяпан скеміў, што варта толькі выпусціць вяроўку з рук, як кола чабурахнецца ўніз, яму на галаву. Пэўна, і адскочыць не паспееш. Так і прыплюшчыць да зямлі.

— Во папаўся дык папаўся,— сам сабе прабубніў Сцяпан.— Таццяна-а-а! Таццяна! Чорт! Гэтак жа і рука можа парвацца... Таццяна!

У сенцах бразнула клямка.

— Ну чаго, чаго ты равеш на ўсё горла? Чаго раскрыч... Вой! Вой! А бо-о! А людцы! Мамачкі мае!

Таццяну як абухом па галаве стукнулі. Яе вочы зрабіліся па яйку, калі яна ўбачыла мужавы ногі ў працёртых на халявах ботах, што боўталіся высока над зямлёй. Вісіць чалавек! Палова тулава Сцяпанава была заслонена густым лістоўем.

— Сцё-па-а! — Таццяна так завішчала, што на суседнім двары выскачыла з кануры і заскавытала сучка Арда.

— Сціхні! — закрычаў Сцяпан.— Не сарамаці сябе!

Белая як прасціна жонка, учуўшы яго голас, перастала лямантаваць, падбегла да ліпіны. Выцягнуты Сцяпан вісеў на правай руцэ, нібы спрабаваў нешта дастаць. Ледзяны халадок пачаў адпаўзаць ад Таццянінага сэрца.

— Ну, чаго вытрашчылася? Лесвіцу падстаў. Рука зараз у плячы вырвецца... Хутчэй жа!

— Ах ты, вулдыр мардаты! Гэтак напужаць!.. Каб ты сапраўды засіліўся, бусел куртаты... Ледзь у труну не загнаў... Ну, паразіт, я табе зараз пакажу!

Таццяна вылецела з сенцаў з каромыслам і стала лупцаваць па нагах, бразгаючы пачапкамі:

— От табе кола! От табе буслы! От табе вяроўка!

— Таццяна, слухай... Канчай, кажу! Далібог, у косці дам! Вой, рука!

— От табе, от табе!..

Не маючы больш цярпення і сілы, Сцяпан выпусціў вяроўку і чмякнуўся на зямлю.

— Ратуйся, дурніца! — схапіў ён жонку за рукаў і тузануў ад дрэва.

Зверху ў той жа момант зашамацелі, затрашчалі галіны, і кола, цягнучы за сабой вяроўку, гахнулася пад плотам, якраз на тое месца, дзе толькі што стаялі Сцяпан з жонкай. Абцярушанае лістоўе доўга яшчэ ляцела долу.

— Во,— цяжка дыхаючы, прамовіў Сцяпан.— Я цябе ад пагібелі ўратаваў. А мог бы і адзін адбегчы... Ну, чаго ты маўчыш? Сварыся, махай каромыслам, лупі мяне за гэта! Э-эх!

Сцяпан у роспачы махнуў рукой і пайшоў у хату.

Вячэралі позна, памірыўшыся ўжо.

— Ты нічога не разумееш,— сёрбаючы халодны крупнік, гаварыў Сцяпан жонцы.— Буслы гэта не так сабе, а птушкі асаблівыя... Яны шчасце чалавеку прыносяць...

— Маўчы,— тужліва ўздыхнуўшы, папрасіла Таццяна.

— Во хоць бы вясна... Ты думаеш, яна па лістках календара прыходзіць? Га! Разагналася, і на табе... Буслы з выраю вяртаюцца, і яна з імі...

— Ой!

— Гракі, шпакі і ўсялякая іншая драбяза — гэта адно толькі цьфу! А буслы... Яны вунь якія разумныя. Заўжды ля чалавека.

— Ну-ну... Можа, і ты ад іх розуму набярэшся. Толькі парасон не забудзь прыдбаць...

— Парасон?..

— Бо праз двор спакойна не пройдзеш. Як свісне каторы зверху — толькі сцеражыся... Вунь міхалёўскі дуб — бачыў? — аж срэбны ад іх...

Сцяпан адкусіў хлеба і ўздыхнуў:

— Што ні кажы,— з'едліва прыжмурыўся ён,— але калі ў чалавека на галаве хустка — капцы. Розуму ні каліўца. Падумай. Спакон веку ўсе людзі гэтых птушак прывячалі. На стрэхах бароны спецыяльна клалі, каб яны жылі побач. Усе ім рады. Забіць бус-

ла — гэта за самы цяжкі грэх лічылася. Святая птушка! А як яны кружацца пад восень. Ты думаеш, гэта так сабе? Жаб наеліся і пацяшаюцца? Гм... Не, даражэнькая, развітваюцца з домам перад далёкай дарогай. Сумуюць. Ды што табе казаць! Ці бусел, ці сарока — табе ўсё роўна...

— Добра, добра, еш ты ўжо. Буслятнік. Нешта ўбіў сабе ў галаву.

— І зноў жа дзеці... Народзіцца немаўлятка — кажуць, бусел прынёс. Думаеш, гэтым толькі дзятву падманваюць? Не-е, Таццяна. Старая прыкмета. Буслы, яны...

Сцяпан пашкадаваў, што нагадаў пра дзяцей. Не трэба было. Жонка спахмурнела, ніякавата разгладзіла фартух на каленях, паклала лыжку, сумна адышла да акна.

— Калі ўжо за пятнаццаць год нічога,— ціха і журботна прамовіла яна,— тут ужо, Сцёпа, і святыя твае птушкі...

Сцяпан крэкнуў, устаў з-за стала, падышоў да жонкі. Хацелася сказаць ёй нешта ласкавае, пяшчотнае, а атрымалася толькі:

— Ты гэта... як-небудзь... Чаго там? Ну, зацягну я гэта кола. Хай жывуць. Горай жа не будзе!

— Глупства ўсё... Малака хочаш?

— Ну, канечне, глупства! Лухта! Забабоны! Знахарак вунь усе на чым свет лаюць. Шарлатанкі! Не ўводзьце народ у зман! А як прыспічыць, як бяда падапрэ — ідуць! Не вераць, а ідуць. Тыдзень назад міліцыянерава жонка свайго меншага да Лазнячыхі вадзіла. Пужаецца нечага малец. Вадзіла ж... Ат, ды што там! Усе мы разумныя! Усе з гэтым...— Сцяпан не дагаварыў і, ляпнуўшы дзвярыма, выйшаў з хаты. Сеў пад ліпінай ля варот і доўга курыў, задуменна гледзячы на цёмную вуліцу...

«А на свеце ўсё можа быць»,— падумаў ён.

Ранкам наступнага дня кола было на вершаліне. Ды не трапіла буслам пасяліцца ля хаты Сцяпана. Дні праз тры над вёскай пранеслася бура. Сцяпанаву ліпу не парушыла, і кола, добра замацаванае дротам, засталося на дрэве. Вецер паклаў старое, дуплістае дрэва, што стаяла каля хаты Рыгора Таўкача. Паваліўшыся, ліпа парвала электрычныя правады і пакамечыла кабіну Таўкачовага трактара.

— Спілаваць іх усе к чортавай матары,— загадаў ранкам брыгадзір.— Трухляціна, а не дрэвы. Яшчэ пры панах вунь садзілі. Быў тут некалі шляхцюк Любамірскі. Дзеля нейкай сваёй пацехі загадаў сялянам ля кожнага двара па ліпе пасадзіць. І ўзнагароду паабяцаў: чыя будзе вышэйшая — таму задарма карову падорыць. Во і насадзілі! Цяпер хадзі па вёсцы і сцеражыся. У мінулым годзе адна каля лазні грымнулася, а цяпер вось гэта шкоды нарабіла... Спілаваць!

Сцяпан якраз снедаў, калі да яго на двор увайшлі Мішка Шпынь і Мікола Пугач — абодва з будаўнічай брыгады.

— Дзядзька Сцяпан! — вышчарыўся круглатвары Пугач.— Гатуй сівуху! Зараз мы табе дроўцаў нарыхтуем. Усю зіму паліць будзеш.

Мішка Шпынь па-гаспадарску абышоў двор, выбраў месца, куды спляжыць дрэва.

— Плот трэба разабраць. Во на вуліцу і пакладзём. Давай пакуль трохі падпілуем... От тут...— Шпынь цюкнуў з аднаго боку сякерай.

І тут выбег Сцяпан.

— Вы што гэта задумалі?

— Зямельку во тваю вызвалім,— пажартаваў Пугач.— Годзе панскай дылдзе спажыву з зямлі смактаць.

Шпынь прысеў ля ліпы, дзынкнуў пілой.

— Ну, давай... А ты, Сцёпа, пакуль што агароджу разбяры, а то патрушчым. Таўшчэзная ж, зараза.

Сцяпан зразумеў, што да чаго.

— А ну... адсюль! — ён збег з ганка, турнуў убок Пугача і, выхапіўшы з рук Шпыня пілу, шпурнуў яе цераз плот на дарогу.

— Ты што, не апахмяліўся яшчэ? — падскочыў да яго Шпынь.— Чаго кіпяцішся? Нам брыгадзір загадаў. Дрэва аварыйнае.

— Я вам зараз самім аварыю зраблю! — пагрозліва сціснуў кулакі Сцяпан.— Ужо і секануць паспеў, падла! Ты яе садзіў? Садзіў?

— Ды ўсе ж пілуем,— умяшаўся вясёлы Пугач.— Ля Андроніхі паваліді, каля сельсавета дзве. Сёння ноччу ледзь Таўкача не ўходала. Чаго ты злуеш?

— Ненармальны,— пацісnуў плячыма Шпынь.

— Марш адсюль! Ідзіце ў свае двары і там хоць усю траву выскубіце, а тут... Дыбайце, я вам кажу...

Будаўнікі разгублена пацісnулі плячыма і, падабраўшы свае прылады, пайшлі скардзіцца брыгадзіру.

Тарэйкін, выслухаўшы іх, ускіпеў:

— Чаго ён ерапеніцца?

— А чорт яго ведае?! — адказаў Шпынь.— Кола на ліпіну ўсцягнуў і буслоў чакае.

— Чыкнулі б без усялякіх размоў і — гамон.

— Ага! Ён жа збялеў увесь, трасецца, быццам яму самому прыйшлі галаву адрэзаць. Навошта яму гэтыя буслы? Поліўку з іх будзе варыць, ці што? — развёў рукамі Пугач.

Брыгадзір адышоў на сярэдзіну вуліцы і злосна скасавурыўся на Сцяпанаву хату:

— Дзяцей няма, дык ён сам дзяцініцца... Бусел бяскрылы! Каго-небудзь прыдушыць гэтай ліпінай, а мне адказвай...

У той жа дзень пасля абеду вяртаўся Сцяпан з рэйса. Вазіў зерне на здачу. Машына лёгка ўскочыла на апошні пагорак перад вёскай.

«От ёлупні! — высунуўшыся з кабіны, падумаў шафёр.— Абстрыглі вёску. Як аладка цяпер. Нейкая стала шчарбатая, прыплюснутая. А гэтыя ліпы яшчэ сто год стаялі б... Цяпер толькі адна мая і засталася».

Але і яго хата здалася яму нейкай чужой, незнаёмай. Ён убачыў, што і яго ліпа з разбітым колам ляжала сярод вуліцы ў гразі з яшчэ зялёным, сакавітым лісцем. Пад'ехаўшы да хаты, Сцяпан не ведаў, што рабіць. Сварыцца з жонкай, што недагледзела? Дык яна на ферме. Хата замкнёная. Бегчы да брыгадзіра? Той яго і слухаць не стане... Пасноўдаўшыся па двары, ён маркотна прысеў ля свежага пня і, паглядзеўшы ў неба, заўважыў над вёскай белыя крыжы буслоў. Яны ніколі не лягалі над іхняю вёскай. Усё над полем, а цяпер... Кружаць, кружаць... Аж ля самых снежных аблокаў.

Сцяпан схіліўся над жоўтым пнём ліпы і, абшчаперыўшы галаву рукамі, ціха заплакаў.

Дзівак чалавек!

## Кола

У шаўца вясковага КБА Івана Грамулькі скруцілі з веласіпеда пярэдняе кола. Пакуль той сядзеў у сталоўцы са сваім сябрам-аднадумцам пенсіянерам дзедам Бадзекам, нехта і пастараўся. Калі Грамулька, гучна спрачаючыся з дзедам пра тое, трэба лятаць у космас ці не, выйшаў на ганак, яго веласіпед стаяў пад бярозай, як хворы конь, у якога падкасіліся ногі. Звернутая набок фара сумна разглядала недакуркі ў траве.

— Гы! — здзівіўся дзед Бадзека.

Угледзеўшы такое гора, Грамулька адразу ж забыўся пра спрэчку, хістка даклыпаў да бярозкі і, утрапёна гледзячы на веласіпед, абшчаперыў рукамі задняе кола і заплакаў шчодрымі, гарэлачнымі слязьмі.

— Гэта ж не прыдумаеш, чым назваць,— даводзіў ён праз паўгадзіны ўчастковаму Парошку.— Гангстэрства, адно слова... У такі час!.. Мы, можна сказаць, на пяцігодкі накідваемся, як... Ну, адным словам, выконваем... Лічы, што ў камунізм датупалі. Сумленнасць разводзім паўсюль, а тут працоўны велік развінцілі сярод белага дня...

Парошка незадаволена ўздыхнуў.

— Ну, ладна,— паспрабаваў суняць ён Грамульку.— Ты сваю пяцігодку па гарэлцы за тыдзень адужаеш... Ударнік!

— А я ціхі... Не б'юся, не хуліганю,— адрэзаў Грамулька.— Маю права... Хведаравіч, во знайдзі толькі маё кола...— Грамулька грымнуў сябе сухім кулаком

у вузкія грудзі.— Я табе... Я цябе... што хочаш! Напаю, аж звалішся! Во...

Участковы пагрозліва ўстаў з-за стала.

— Выйдзі! — загадаў ён Грамульку.— А то ў цверазілаўку ў раён адпраўлю...

— Нельга, я пацярпелы,— запярэчыў шавец, але, убачыўшы сур'ёзны твар Парошкі, пакорліва пацягнуўся да дзвярэй.— Боты пашыю,— паабяцаў ён.— Задарма... Самі на службу хадзіць будуць... Толькі... толькі гэта,— вочы яго зноў жаласліва пачырванелі.— Знайдзі кола... Прашу, як роднага...

— Ідзі! — трацячы цярпенне, выгукнуў участковы.

— Усё, усё... Паляцеў я...— ужо з-за дзвярэй сказаў Грамулька, а сышоўшы з ганка, зацягнуў:

— Палюбі-і-ла касманаўта-а-а,
А ён на Меся-яц паляце-еў...

Сашку Лявонава маці ўскруціла яшчэ на досвітку.

— Злазь! — стоячы з чапялой каля пунькі, дзе Сашка спаў, загадала яна.

— Чаго ты? — Сашка спрасонку ленавіта высунуў з-пад кажуха белабрысую галаву.

— Злазь і кажы, што натварыў!

— Што я натварыў? — нічога не разумеў Сашка.

— Прызнавайся, я табе кажу! — Чапяла чмякнула па сене.

— Не лазіў я ўчора ў сад! — пачаў апраўдвацца Сашка.— Кіно скончылася, і спаць пайшоў. Чаго ты?

— А кола? — налятала маці.— Нашто яно табе было? Як мандаліна тая... Каб табе...

— Якое кола? Што ты гаворыш? — абурыўся Сашка.

— Ты ў Івана-шаўца кола сцібрыў?

— Якое кола?

— З веласіпеда.

— На які чорт яно мне? У нас жа веласіпеда няма...

— Сынок, кажы! — злосна патрабавала жанчына.

— Ай, ну хай я... хай, калі трэба ўжо так,— ён махнуў рукой і адвярнуўся да сцяны дасыпаць.

Гэта пакорлівая абыякавасць упэўніла жанчыну, што сын не вінаваты.

— Да Парошкі цябе выклікаюць,— паведаміла маці.— Нехта ўчора ў гэтага п'янтоса кола сцягнуў, а на цябе думаюць... От яна, гэта балалаечка! Сыграў на сваю галаву — усё цяпер будзе на цябе, усё...

Так, [redacted] балалайкай Сашку, канешне, не пашанцавала... Па недарэчнасці запісалі ў дробныя злодзеі і, пэўна, не так хутка і выпішуць. А было во што... З месяц назад прыязджаў у вёску з горада канцэрт. Вечарам у клубе вераб'ю клюнуць некуды было. Сядзелі, дзе толькі можна, нават на падаконніках. Нагледзеліся ўсяго... Тоўсты, усмешысты мужчына ўвесь вечар расказваў вясёлыя гісторыі, жарты... Хударлявая, белая, аж празрыстая, спявачка пела старадаўнія рамансы, быў нават і балет. Сашку Лявонаву больш за ўсіх спадабаўся балалаечнік — малады, дзябёлы хлапец у бліскучай, доўгай кашулі з вышываным поясам. Ён выйшаў на сцэну, паставіў крэсла, сеў, неяк пяшчотна правёў рукамі па сваёй балалайцы і... Проста ўявіць немагчыма, што ён толькі тады вырабляў... Вясёлыя, гарэзлівыя мелодыі, здавалася, злятаті са сцэны ў залу і насіліся сярод расчырванелых ад духаты людзей. Лёгкай птушкай білася каля струн спрытная рука музыканта. Сашка сядзеў як зачараваны, з адкрытым ротам. Такога ён яшчэ не чуў... Па радыё, праўда, іншым разам перадаюць, але не, гэта не тое... Хлапец скончыў іграць, пакланіўся і пайшоў у бакоўку за кулісы... Сашка здзівіўся, калі заўважыў, што балалайка мала каму спадабалася... Так, для адчапнога, абыякава папляскалі ў далоні — і ўсё. А Сашка прыйшоў дадому і не мог за-

снуць. Звінела, пераліваласся ўвушшу балалайка... Так прыгожа! Здавалася, што вазьмі ён яе зараз у рукі, прыцісні адной рукой струны — і яна абавязкова запяе, заграе... Два дні хадзіў задуменна па вёсцы Сашка Лявонаў, а на трэці залез у пусты клуб цераз разбітую шыбіну і ўзяў з шафы ў бібліятэцы запыленую, старую мандаліну. Балалайкі не было. Палову ночы дрынькаў на ёй у сваёй пуньцы. Музыкі ў яго не атрымалася. Не хацела мандаліна іграць. А раніцой да іх прыйшоў участковы Парошка. Прапажу вельмі ўжо хутка агледзелі... Дні са два разбіраліся. Дасталася добрая прачуханка ад маткі, даведаліся ў школе. Хапіла... І нікому ж нічога растлумачыць нельга было... Вырашылі ўсе, што хацеў завезці ў горад і прадаць. І як толькі дадумаліся да такога? А цяпер во Парошка выклікае яго за Грамулькава кола... Усё, канешне, з-за той няўдалай мандаліны.

Сашка выспаўся, паснедаў, выслухаў ад маці парады на будучую размову з участковым і пайшоў да сельсавета. Ён не баяўся. А чаго там? Не браў ён гэта кола і нават не чуў пра яго. Толькі за ранейшы грэх і выклікалі.

З акна КБА, убачыўшы Сашку, высунуўся кругла违 носы Грамулька з малатком.

— Што, Лявон белагаловы? З балалаек на велікі перайшоў? Во ідзі, ідзі... Табе там усыплюць...— гугнява сказаў шавец, паказаўшы рукой на дзверы пакоя ўчастковага.

— Каб ты на кладзішча на гэтым веліку заехаў, выпіваха,— без злосці пажадаў яму Сашка.

— Яно ясна. Каб бацька быў, дык зняў бы штаны і хварасцінай, хварасцінай... Ведай, сабачы брат, што чужое браць нельга! А што адна матка з гэткім бэйбусам зробіць?

Бацькі, і праўда, у Сашкі няма, і ніколі не было, і во чамусьці людзям падабаецца пры кожным выпадку

гаварыць пра гэта. Прама асалоду нейкую адчуваюць, калі гавораць. Усе.

— Такі малы, а ўжо зладзюга,— уздыхнуўшы, разважаў далей Грамулька.— Ці ж з яго што будзе? З такімі да камунізма і не дапаўзеш, не тое што...

— Ах ты, абцас стаптаны! — наўмысна злосліва выгукнуў Сашка, прыгнуўся і, зрабіўшы выгляд, што нешта падхапіў з зямлі, махнуў рукой.

Грамулька палахліва нырнуў з акна і патыліцай так урэзаўся ў раму, што аж шыбы запелі. Сашка зарагатаў.

Старшы сержант Мікола Парошка сядзеў за сталом з заклапочана-строгім выразам твару. Пасярэдзіне пакоя ён паставіў табурэтку. Ціха ўвайшоў Сашка. Прывітаўся.

— Пастукацца трэба,— не гледзячы на яго, сказаў Парошка.

Сашка павярнуўся да дзвярэй і разы са два грымнуў па іх кулаком.

— Выйдзі! — бліснуўшы вачыма, загадаў сержант.

Сашка пакорліва выйшаў, асцярожна пастукаў, яшчэ раз сказаў: «Дзень добры». Усё як трэба.

— Сядай,— важна прапанаваў Парошка.

Сашка сеў.

— Ню-у? — уперыў у яго дапытлівы і пранікнёны позірк участковы.

— Я кола не браў,— заявіў Сашка.

— Не браў, кажаш?

— Не.

— Кола?

— Ну.

Парошка важна і павольна, як гэта робяць следчыя ў фільмах, устаў з-за стала і, закінуўшы рукі за спіну, прайшоўся па пакоі.

«Гусак»,— падумаў хлапчук пра яго.

— Кажы праўду,— патрабаваў участковы.

— Якую? — абурыўся Сашка.

— Чыстую.

— Дык што ж казаць, калі я ні чыстай, ні бруднай не ведаю.

Парошка спыніўся ля Сашкі і, сагнуўшыся, інтымна папярэдзіў:

— Ты дажартуешся некалі, малец.— І раптам зусім нечакана і гучна спытаў: — Дзе быў учора?

— На возеры. Купаўся.

— А тады, калі кола сцягнулі?

— А калі яго сцягнулі?

— Не ведаеш?

— Я ж сказаў...

Аб нечым філасафічна разважаючы ў думках, участковы зноў прайшоўся па пакоі. Потым спрытна закурыў (пачак «Арбіты» ў яго заўжды на стале), кінуў газавую запальнічку ля тэлефона, важна падышоў да акна. От жа наглядзеўся фільмаў пра следчых... Паглядзіць кіно па тэлевізары, а потым у гэтым пакоі гуляе ў яго... У вёсцы Парошку завуць Штырліцам.

— Не хочаш гаварыць, значыць? — пыхкаючы цыгарэтай, спытаў Парошка.

— Я не ведаю,— у каторы раз паўтарыў Сашка.

— А калі б ведаў — сказаў?

— Не,— адразу ж, не падумаўшы, адказаў Сашка і зразумеў, што гэтага гаварыць не трэба было.

— Ясна,— гледзячы на калматую белую галаву Сашкі, уздыхнуў Парошка.— Будзем лічыць, што ведаеш.

— Ну,— буркнуў Сашка.— У сне мне саснілася.

Парошка нахіліўся да яго цераз стол, абапёршыся на локці.

— Вось што, Лявонаў,— ціха і неяк абыякава загаварыў ён.— Давай гаварыць, як разумныя людзі... Ведаеш жа, што ты ў мяне вось тут во,— ён сціснуў

далонь у кулак.— Балалаечку памятаеш? От. У сады лазіў? Лазіў... Цяпер кола...

— Ды не браў я! — ад крыўды Сашку перахапіла горла.

— Цяпер кола...— упарта паўтарыў Парошка.— Да гэтага яшчэ плюс тое, што расцеш без бацькі...

Зноў бацька! Што ім гэты бацька? Раней хоць толькі гаварылі, а зараз во яго, Сашку, і нібы вінавацяць. Быццам ён нешта мог зрабіць з гэтым чортавым бацькам, якога і ў вочы не бачыў.

— Ну і што, што без бацькі?

Але ўчастковы яго не слухаў. Загінаючы доўгія пальцы, ён разважаў:

— Атрымліваецца комплекс... Дастаткова майго хадайніцтва ў раёна, і цябе, сябрук, адправяць у лепшым выпадку ў дзіцячы дом, а мо і далей... як цяжка выхоўваемага...

— Не браў я...— у Сашкі засвярбелі вочы.— Я ўчора і каля сталоўкі не быў...

— А я не кажу, што ты браў. Можа, хто з сяброў? Не ведаеш?

Сашка маўчаў. Не ведаў ён гэтага.

— Ну, калі не ведаеш, значыць, даведаешся. Згода? Пагавары там, разведай...

Вунь што! Зразумеўшы, куды гне Парошка, Сашка нават перастаў палохацца гэтага дзіцячага дома. Халодная хваля абурэння накацілася на яго, і ён не памятае, як злосна і смела заляпіў:

— Упацееш!

— Што-о? — зморшчыў твар участковы.

— Заморышся, пакуль я буду вынюхваць...— трохі змякчыў свой голас Сашка.

З Парошкі ў адно імгненне зляцела вытрымка і ветлівасць культурнага следчага. Ён выскачыў з-за стала і даў Сашку лёгкую аплявуху.

— Чаго ты рукі распускаеш? — устаў з табурэткі хлапчук.

— Ідзі адсюль, байструк! — турнуў яго да дзвярэй Парошка.— І глядзі... Не скажаш пра кола, іншая размова будзе...

На ганку Сашка заплакаў. Не, не з-за аплявухі. Ліха з ёй... Крыўдна стала за байструка і за тое, што могуць адправіць у гэты дзіцячы дом.

Ідучы дадому, усё думалася пра Парошку. Свой жа малец, вясковы. Гадоў на сем толькі старэйшы за Сашку. Калі Сашка быў малы, ён вазіў яго на веласіпедзе, бывала, што і абараняў ад тых, хто спрабаваў пакрыўдзіць... Разам некалі ў вайну гулялі, у лапту... А во паставілі ўчастковым — ходзіць па вёсцы, як гусак... Што з чалавекам зрабілася?

Аднак у дзяцінстве ўсё хутка забываецца. Гадзіны праз дзве Сашка ўжо і не думаў пра Парошку і пра тое праклятае шаўцова кола. Ён супакоіўся... Пра дзіцячы дом участковы, канешне, злухціў... Кола ён не браў, а за так яго ніхто туды не пашле... Сашка ляжаў у садзе пад старой яблыняй, грыз недаспелую антонаўку і думаў пра тое, як скончыць школу, паступіць вучыцца і стане афіцэрам... Не якім-небудзь там сяржантам, як Парошка, а сапраўдным, маракам, як іх сусед Алесь Халіманкоў... Апанаваны такімі прыемнымі думкамі, ён не заўважыў, як заснуў... І прымроілася яму, што прыбег з-пад сельсавета Грамулька Іван, босы і расхрыстаны, і на ўсё горла закрычаў:

— Аддавай кола, зладзюга! Аддавай!

Сашка не паспеў яму нічога і адказаць, як Грамулька размахнуўся і штосілы шпурнуў у яго малатком... Малаток ляціць прама ў галаву, а Сашка ні засланіцца, ні адвярнуцца не можа... Галава і рукі як не свае... Ад страху Сашка нават прачнуўся. Толькі вочы расплюшчыў, і тут, бы прадаўжэнне сну, нешта балю-

ча, аж маланкі заскакалі, чмякнула пад левае вока. Яблык!

— Ну, падла! — крыкнуў Сашка і, схапіўшы гэты яблык, кінуўся да плота. Зараз ён некаму пажартуе!

Вуліца была пустая. Цераз дарогу калупаўся ў пяску суседскі хлопчык. Але ён быў яшчэ малы, хадзіў і сам ад сябе валіўся, не дакінуў бы...

«Хто ж гэта так трапна запусціў?» — разгублена падумаў Сашка, аглядаючыся, і раптам здагадаўся — яблык сам упаў з вершаліны... Чарвякі, пэўна, падтачылі і во... трэба ж яму было трапіць акурат Сашку ў галаву... Паціраючы вока, хлопец засмяяўся.

Маці прыляцела з работы нейкая вельмі ўжо рашучая і злосная.

— Сашка,— на дзіва ласкава і лагодна звярнулася яна да сына.— Ты мне адной скажы... Чэсна скажы... Браў ты гэта шаўцова кола ці не?

Сашка роспачна ўздыхнуў.

— Не бойся, сварыцца я не буду...

— Мама! Парошка і той паверыў, а ты...

— Пайшлі! — маці рашуча ўзяла Сашку за руку.

— Ай, кінь ты... Ну яго,— спрабаваў адмовіцца Сашка.

— Не, пойдзем! — яна пацягнула сына да сельсавета.— Я гэтаму шалудзіваму начальніку, гэтаму Шырліцу, гэтаму Хведаронку кірпатаму пакажу! Гэта яму не пры немцах! Ён у мяне паскача...

У кабінеце старшыні сельсавета маці турнула збянтэжанага Сашку да стала.

— Во, Васіль Панасавіч, во, глядзіце! Як хлапца змардаваў...— маці пачала выціскаць з сябе слёзы. Усю ж дарогу ішла і злосна лаялася, а во тут, у кабінеце, трэба ёй, канешне, заплакаць...

Старшыня чамусьці ўважліва зірнуў Сашку ў вочы і спытаўся:

— Хто гэта яго так?

— Хто? Парошка ваш...— Маці зусім скрывіла твар.— Ён думае, што калі без бацькі малец расце, дык і абараніць яго некаму...— яна заплакала падманнымі слязьмі.

Сашку зрабілася прыкра... Калі маці шчыра плакала, яна закрывала левай далоняй вочы, і тады яе было шкада... Вельмі шкада... А цяпер во моршчыцца, падціскае губы — усё напаказ... І пра гэтага чортавага бацьку ўставіла...

— Прычапіўся да дзіцяці за нейкае кола... Допыт устроіў... Збіў на горкі яблык... Каб бацька быў...

— Мама! — злосна крыкнуў Сашка.

Васіль Панасавіч кашлянуў і зноў уперыўся Сашку ў твар.

— Гэта Парошка?

— Што? — нічога не разумеў хлопец.

— Ён цябе ўдарыў?

Сашка здзівіўся, што і старшыня і маці ведаюць пра аплявуху, якую ён атрымаў ад Парошкі, але нічога не сказаў... Скардзіцца ён не любіў.

— Ну, ну...— уздыхнуў старшыня і падняў трубку тэлефона.— Мікола? Гэта Панасенка... Зайдзі-тка да мяне... Ага... Справа адна... Далікатная.

Маці выцерла слёзы. Вочы ў яе радасна заблішчалі.

Прыйшоў участковы. Прывітаўся.

— Ты яго сёння выклікаў? — спытаў Васіль Панасавіч.

— Ну. Кола ў Грамулькі сцягнулі.

— Ён?

— Не ведаю... Мандаліну ж у яго знайшлі...

— Я пытаю, кола ён узяў?

— Не браў я,— сказаў Сашка.

Старшыня строга паглядзеў на ўчастковага.

— Ужо і рукамі пачаў махаць? — спытаў ён.— Важнай птушкай зрабіўся?

— Што здарылася? — горда запытаўся Парошка.

Старшыня кіўнуў на Сашку.

— Ну-ка зірні,— сказаў ён.— Ведаеш, чым гэта пахне?

Толькі цяпер Сашка здагадаўся, пра што ідзе гаворка. Пад яго вокам той яблык, пэўна, зрабіў добрую адмеціну, а думаюць, што гэта Парошка. Сашка ўзрадаваўся... Во ён і адплоціць гэтаму гусаку і за байструка, і за аплявуху... Самога ў які-небудзь дзіцячы дом пашлюць!

Парошка зірнуў на яго левае вока і змяніўся з твару. Чым гэта пахне, ён здагадаўся.

— Гэта... гэта...— запалым голасам збянтэжана загаварыў участковы,— не я гэта... што вы?

— Што ж ты думаеш, сам ён сабе, ці што? — з'едліва запыталася маці.— А мо скажаш, гэта я яго? Эх, ты-ы...

— Васіль Панасавіч, не верце! Мана ўсё гэта... За мандаліну хочуць са мной расквітацца.

«Ну, усё,— злосна падумаў Сашка.— Цяпер табе гамон! Сыграеш ты ў мяне не на мандаліне, а на сякеры!»

— Як табе не сорамна, нахабныя твае вочы,— паківала галавой маці.— Васіль Панасавіч, ён жа нічога мне не гаварыў, не скардзіўся... Ён у мяне такі, што хоць забі — ні на кога не скажа... Спытайце ў. старой Анціпіхі, яна ўсё бачыла...

— Што яна бачыла? — спужаўся Парошка.

— Сустракаецца са мной ды пытае: чагой-та твайго сына да Парошкі звалі? Так і так, кажу, кола нейкае... А яна мне...— маці ўсхліпнула, прыкра затрэсла скрыўленымі вуснамі.— Выйшаў, кажа, твой малец з сельсавета, за вока трымаецца, а слёзы па бабіне. Я дадому — і во... Вока аж запухла ўсё... Што ж гэта такое? Дзе ж праўда?

— Ну што ж, Мікола, усё ясна,— цяжка сказаў старшыня.— Факт, як кажуць, на твары...

Парошка спалохаўся. Калі ўжо старая Анціпіха ў сведках — справы дрэнь... Яна чаго хочаш можа наплесці і дадасць: «далібог жа, чыстая праўдачка, сваімі вачыма бачыла...»

— Ну, не я ж гэта...— бездапаможна развёў ён рукамі.

— А хто?

— Мо ён з сябрамі пабіўся, ці не бывае... Навошта ж на мяне казаць?

Старшыня запытальна паглядзеў на Сашку.

— Я сёння ўвесь дзень дома сядзеў,— проста сказаў той. І гэта была праўда.

— Ну нельга ж так! — хвалюючыся, загаварыў Парошка.— Навошта ж, слухай, напрасліну казаць, Сашка?

Ён сказаў гэта вельмі звычайна, шчыра, сказаў, як чалавек, якому да зарэзу трэба было пачуць праўду і хацелася справядлівасці. Куды толькі дзелася яго важнасць і начальніцкі выгляд. Участковы Парошка стаў проста Колем.

— Ну, не я ж табе гэты сіняк пасадзіў? — гледзячы ў вочы хлапцу, пытаўся ён.— Ну? Не я ж... Сам жа добра ведаеш...

— А я кола не браў.

— Я на цябе і не думаю. І паверыў адразу.

Сашка трохі памаўчаў, а потым зірнуў на старшыню і, дакрануўшыся рукой да вока, прамовіў:

— Не ён гэта.

— Ну во! — узрадаваўся Парошка.

Старшыня недаверліва паглядзеў на іх.

— Няпраўда, няпраўда гэта, Васіль Панасавіч... Ён баіцца сказаць,— загаварыла маці.

— Чаго мне баяцца?

— Не ён? — прыжмурыўся старшыня.

— Не.

— А хто?

— Ніхто. У садзе пад яблыняй спаў, яблык зляцеў і пад вока плясь... Я і не заўважыў...

— Вось,— з палёгкай уздыхнуў Парошка.

Старшыня [redacted] кіслай усмешкай глядзеў на Сашку. Той зразумеў — не верыць! Ну, вядома! Лягчэй падумаць, што Сашка мандаліну ўзяў, каб прадаць, і што гэты недарэчны сіняк пасадзіў Парошка, а не яблык.

— Ну, дык я пайду,— зноў незалежна і абыякава сказаў Парошка.

— Ну, ну... Толькі глядзі мне! Глядзі, Мікола...— старшыня паляпаў па стале пальцам.

— Васіль Панасавіч...— [redacted] мяккім дакорам у голасе прагаварыў участковы і выйшаў.

Старшыня паглядзеў на дзверы, потым па-змоўніцку падміргнуў Сашку.

— А цяпер кажы праўду і не бойся... Нічога ён табе не зробіць...

— Дык я ж сказаў! — пачаў злавацъ хлапец. Зноў нейкай праўды ад яго дамагаюцца!

— Кажы! — раздражнёна ўмяшалася маці.— Чаго ты? Дома ж казаў, што ён цябе ўдарыў... Што ты, як рак, назад пнешся?..

— Ну, ударыў адзін раз... Лёгенька, далоняй па патыліцы... Дык не пад вока ж... Што ён, не ведае, куды біць?

— Ну во, бачыце, Васіль Панасавіч!

— Значыць, яблык? — усміхнуўся старшыня.

— Яблык.

— Ну, ну... Ну, калі так, што ж...— старшыня стаў некуды званіць.

— Пень дурны! — накінулася на Сашку маці, калі выйшлі з сельсавета.— Ёлуп кудлаты! Ці язык бы адваліўся, каб сказаў на гэтага Хведаронка?

— Ну, дык не ён жа...

— Ну і што! Хай бы атрымаў на абаранкі, ёсць за

што... У-у-й! Яго б'юць, а ён і адплаціць не можа... Будуць на табе ваду вазіць, во пабачыш... У каго ты такі недарэка?

— У бацьку! — злосна крыкнуў хлапец.

Сказаў і пашкадаваў. Маці адразу ж змоўкла, а вочы ў яе сталі сумнымі-сумнымі... Сашку да слёз стала шкада яе.

Каб яно згарэла, гэта Грамулькава кола!

## Перад страшным парогам

Запазнілася ў гэтым годзе вясна, не прыйшла ў час... Праўда, у канцы лютага марозы адпусцілі і з тыдзень стаялі ціхія і яркія сонечныя дзянькі. Весела спяваў капеж, блішчалі пад стрэхамі хат доўгія зіхоткія ледзяшы. Злежаны і спрасаваны злымі зімовымі дуйкамі снег пачаў быў пакрысе чарнець, пакрывацца празрыстай скарынкай. Павесялела наваколле. Людзі чакалі вясны. Але ў першых днях сакавіка вецер нечакана нагнаў цяжкіх снегавых хмар, прынёс з поўначы моцны мароз. Памутнелі ледзяшы, стары, што толькі пачаў раставаць, снег зноў прыкрыўся новым, драбнюткім і сыпкім, як крупы. На двары за дзень-другі яго намяло велізарныя вастраверхія сумёты, аж да самых акон хаты дзеда Мікіты. Завея ўжо каторы дзень скуголіла на вуліцы сваю тужлівую песню. Цяжка было яе слухаць пасля пагодлівых дзён і яшчэ цяжэй было ад лянівага шэрага святла, што плыло ў хату праз засіўленыя шэранню маленькія вокны.

Дзед Мікіта хварэў. Хварэў ціха, спакойна, без стогнаў, без скаргаў, пэўна, ужо апошні раз. Чаго тут скардзіцца, ды і каму? Прыйшла пара — нідзе не дзенешся. Дзякуй богу, і так даволі пажыў... Сем дзесяткаў у цяперашні час не кожнаму адведзена... Вунь у мінулым годзе Мікола Кісель ад рака памёр. Трыццаць сем гадоў чалавеку было... Жонка, двое дзяцей засталося. Яму б жыць дый жыць, а во нагнала ж аднекуль ліха... Такі малады... Ну, а дзеду чаго ж шкадаваць? Дзяцей усіх сваіх выгадаваў, вывучыў. Усе ўжо даўно на сваім хлебе... Унукаў во дачакаўся... Што ж, можна

ўжо... Толькі во старую адну шкада пакідаць. Як яна без яго ў хаце будзе?.. Сыны па гарадах, толькі на свята тады-сяды прыязджаюць. Кепска ёй адной будзе, цяжка... А ў горад жа, пэўна, ні за што не захоча паехаць... Грэх сваю родную хату пустой кідаць... Не згодзіцца...

З месяц дзед Мікіта ляжаў у бальніцы. Адразу неяк пасля Новага года занядужаў, ну і паклалі. Увесь час паілі парашкамі, калолі. Ніяк не лепшала. А потым яшчэ і ногі адняліся, бы чужымі зусім сталі.

Малады, чарнавокі доктар на кожным ранішнім абыходзе жартаваў з ім, гаварыў, што яго хвароба — глупства. Толькі во паляжаць трохі трэба, дык і вылечым. Маўляў, і не такімі спраўляліся, вунь якая ў нас медыцына. Напачатку дзед Мікіта верыў яму. Не тое што абяцанні ды жарты пераконвалі яго ў тым, што доктар кажа праўду, а проста... чамусьці хацелася верыць, што так і будзе. Але аднойчы раніцай дзед прачнуўся яшчэ задоўга да світанку і, лежачы ў цёмнай палаце, упершыню падумаў: «Хлусіць жа ён. Пэўна, ужо наўрад ці ўстану».

І спачатку злосць разабрала на гэтага чарнявага прыгажуна. Што ж ён маніў, абяцаў, угаворваў? Сам, пэўна, даўно ўсё ведае, а яму во плявузгае: паправішся, дзед, будзеш жыць, шчэ ўнукаў сваіх пажэніш і праўнукаў няньчыць давядзецца... Чорта лысага ўжо што-небудзь будзе! Як кажуць, гасі лямпу — збірайся ў далёкую дарогу...

І хоць падсвядома дзед і разумеў, што вінаваціць доктара няма за што, гэта яго работа — супакойваць ды абнадзейваць, але злосць і незразумелая крыўда душылі дзеда ў тую раніцу і хацелася сказаць доктару што-небудзь нядобрае, колкае. Праўда ж ёсць праўда... Што яе прычэсваць ды прылізваць?.. Усё роўна не схаваеш... Але да прыходу доктара ўсё кудысьці адышло, на душы паспакайнела. Зніклі злосць і крыўда,

засталася толькі цяжкая ўпэўненасць у блізкім і немінучым канцы.

Дзень тады выдаўся добры. Млявае чырвонае сонца ляжала на бальнічных коўдрах. За акном было ціха. Толькі дзесьці за бальнічным садам зрэдку загудзе машына, бразне нейкая жалезіна ў кузаве, і зноў цішыня.

Дзед Мікіта выпіў горкую таблетку, без апетыту, па звычцы, з'еў сняданак і чакаў доктара. Ранішні абход тут быў кожны дзень.

Доктар з дзвюма медсёстрамі, маленькай, кірпатай Марыляй, якую хворыя клікалі Мышкай, і тоўстай, сур'ёзнай Кузьмінічнай, прыйшоў гадзін каля дзесяці. Ён гучна павітаўся, а потым зайшоў у кут да першага ложка, дзе ляжаў пасля апендыцыту сухаваты, злосны і вечна ўсім незадаволены Сёмка — трактарыст міжкалгасбуда.

Дзед слухаў іх размову.

— Ну што? Усё ныеш? Скідай-ка коўдру, жывот паглядзім.

Сёмка пачырванеў, пачаў злосна і абурана сапці. Мышка ледзь прыкметна ўсміхнулася, адвярнулася, пачала папраўляць коўдру на суседнім ложку.

— І калі вы толькі мяне выпусціце адсюль? Ёлкі зялёныя! Надакучыла...

— Як быццам нам прыемна цябе тут трымаць? Дзівак. Зрасцецца — і ідзі сабе гуляй.

— Я ўжо чурбаном у вас зрабіўся. Ляжу і ляжу...

— Нічога, нічога, не бурчы. Апендыкс у цябе адзін — больш не трапіцца...

— Во нецярпячка бярэ чалавека,— незадаволена ўставіла мажная Кузьмінічна.— Дай яму волю — з распоратым жыватом пабяжыць...

Сёмка, нацягваючы коўдру, зласліва зірнуў на яе:

— Ды не волю трэба — а штаны...

— Чаго ерапенішча?.. Чытаў бы кніжкі...

— Ай!..

Дзед Мікіта ўздыхнуў. Эх, чалавеча! Цяжка, бачыш ты, яму тыдзень — другі паляжаць для свайго ж здароўя... Каб можна было, дык і год бы тут пракачаўся, і парашкі, і манку еў бы за дваіх, каб толькі палепшала... толькі б устаць...

— Дзень добры, дзеду! — Чорныя вочы доктара весела ўсміхаліся.— Нешта вы сёння не так выглядаеце... Дарэмна. Радавацца трэба... Мы смяёмся — хвароба плача, мы плачам — яна смяецца... Так ці не? Вунь сёння сонейка выглянула... Хутка вясна. Трэба ўжо нам з вамі далечвацца... Вясной, кажуць, па гаспадарцы работы шмат?

Мышка, сумна ўсміхаючыся, вадзіла пальцам па бліскучай спінцы дзедавага ложка. Кузьмінічна штосьці запісвала.

Дзед Мікіта прыўзняў з падушкі сваю сівую галаву, задуменна і пранікнёна паглядзеў на маладога доктара і зусім нечакана і не да месца выпаліў:

— Што?.. Кажаш, капцы паціхеньку падкрадваюцца?

Доктар не зразумеў:

— Як, як?

— Сам ведаеш як,— дзед лёг.

— Та-ак,— доктар ужо не ўсміхаўся. Зразумеў.— Вы пакуль што без мяне,— сказаў ён Кузьмінічне і Мышцы. Сеў на ложак ля дзедавых ватных ног, пакруціў у руках бліскучую доктарскую трубачку.— Ну, на вас гэта ніяк не падобна. Чэснае слова... Вы ж самы лепшы з маіх хворых, і раптам такі песімізм... Што гэта такое?.. Ды вы на свяце Перамогі яшчэ гарэлку ваўсю піць будзеце... Не тое што...— і зноў заўсміхаўся.

Дзед Мікіта сцяў зубы, настойліва і цвёрда папрасіў:

— Сціхні, малец. Не трэба...

Доктар змоўк. З клапатлівай стараннасцю пачаў рукой нешта страсаць з коўдры. Яму было ясна: угаворы ды жарты тут ужо нічым не дапамогуць. Ён разгублена адводзіў убок вочы. Дзеду стала нават шкада яго.

— Што ж ты мяне за блазнюка слінявага лічыш,— ён паспрабаваў усміхнуцца.— Я, брат ты мой, за сваё жыццё разы чатыры спрабаваў капыты адкідваць... І на вайне, і пасля... Справа знаёмая... Так што дарма ты гэтулькі распінаўся ды хлусіў... Дарма... Лепш ужо б праўду казаў...

Доктар ніякавата кашлянуў, сашчаперыў пальцы і ўважліва-ўважліва іх разглядаў.

— Ты во што,— сказаў дзед Мікіта,— давай выпісвай мяне адсюль... Хопіць мне тут бакі абіваць.

Вельмі хацелася доктару супакоіць старога, неяк абнадзеіць, адагнаць гэтыя думкі. Толькі як? Супакоіць можна таго, хто хвалюецца, панікуе, а не так разважліва і холадна гаворыць. А абнадзеіць... Разумны дзед, яго не абдурыш, не дзіця...

— Ну, а чаго вам дадому ехаць? — доктар проста і сумна зірнуў на схуднелы дзедаў твар.— Тут жа ёсць каму аб вас клапаціцца, даглядаць... Хіба дрэнна?

— Яно-то так, але ў сваёй хаце лепей... Спакайней... Мяне маці некалі і нарадзіла ў сялянскай хаце, трэба ўжо там і дацягваць. А ў вас тут занадта бела... Ды і нашто я тутацькі? Навукі з мяне, браце, аніякай не зробіш... Вунь высах на быліну. Ды і...— дзед не дагаварыў і проста запытаўся: — З месяц працягну яшчэ ці не?

Доктар незадаволена ўздыхнуў, узрушана і ніякавата правёў рукой па густой чупрыне.

— Ну ладна, ладна, ты не чмыхай і не хлусі... Я ўжо тваіх баек наслухаўся ўдосталь. Хоць раз праўду скажы-тка...

— Не турбуйцеся, дзеду,— доктар гаварыў сур'ёзна

і шчыра.— Да лета дажываце, а мо і больш... Та-ак,— яму было няёмка. Так даводзілася гаварыць упершыню.

— Ды мне да лета не так ужо і трэба... Хоць бы да вясны, пакуль зямля трохі адагрэецца... Мёрзлая яна. Ну...

— Разумею.— Доктар праглынуў колкі камяк.

— Ну во. Ды ты пазваніў бы сённі да нас у Засценкі, хай прыедуць забяруць...

— А мо застанецеся?

— Не-а, паеду... Там ужо са старой як-небудзь. Пазвані, пазвані...

— Добра,— доктар узняўся з ложка. Строгі і злосны.— На «хуткай дапамозе» вас завязём. Я дамоўлюся... Як у вас там з дарогай?

— А нічога. Шлях, аўтобус ходзіць. То ты не баўся з гэтым,— дзед Мікіта стаміўся ад размовы. Доктар кіўнуў, пайшоў па палаце.

Пасля абходу зноў падышоў да дзедавага ложка.

— Баішся, што румзаць пачну? — нявесела пажартаваў дзед Мікіта.— Не баісь...

— Ды не, не за гэтым,— ён зноў быў звычайным, як і заўжды.— Во пытанне з вамі хачу адно высветліць...

— Ну то давай пасвецім.

— Вы во даволі шмат пражылі, пэўна, і благое і добрае зведалі?

— Было, анягож...

Доктар сеў, пакорпаўся ў кішэні, дастаў быў цыгарэту, але, схамянуўшыся, хутка схаваў яе. Крыху падумаў, а затым спытаўся:

— Во скажыце, ніколі ў жыцці вам не хацелася памерці? У маладосці, напрыклад.

Дзед Мікіта здзівіўся.

— Гэта калі жыццё за гарлянку моцна схопіць? Не, хлопча, не хацелася. Вядома, моташна зробіцца і

свету белага не ўбачыш, а ўсё адно ж думаеш, што не ўвесь век так будзе... Пацісне, пацісне, ды і адпусціць. Чаго ж паміраць?

— Ды справа не ў тым... Як бы вам растлумачыць гэта?.. Разумееце, іншы раз нейкая дурная, незразумелая цікаўнасць бярэ: а як яно ТАМ? І гэта зусім не ў благія хвіліны...

— Дзе — там? — перасцігнуў яго дзед.

— Ну там — пасля смерці...

Дзед прыўзняўся на ложку, абапёрся на локці і недаверліва ўперыўся ў доктара. Няўжо зноў будзе супакойваць ды нешта абяцаць? Але не... Вочы ў доктара былі разгубленыя і заклапочаныя. Відаць, думаў ён пра нешта цяжкае і турботнае.

— А што ж пасля смерці? — спытаў дзед і зараз жа развёў рукамі.— Нічога.

— Так-то яно так,— доктар хваляваўся.— А во чорт ведае, чаму хочацца гэта праверыць. Самому ўпэўніцца.

— Ды ты, пэўна, у бога верыш? — уразіўся дзед.

Доктар засмяяўся:

— Куды там... Які з мяне веруючы? Філасофію і атэізм у інстытуце на пяцёрку з плюсам ведаў.

Дзед Мікіта трохі памаўчаў, абдумваючы тое, што толькі што пачуў.

— Чакай, ну а як жа ты гэта самае праверыш? Якім чынам?

Той толькі цепнуў плячыма.

— У тым уся і загвоздка, што спосаб толькі адзін...

— Памерці? — дзед яшчэ болей здзівіўся.— Ды ты што-о? Плюнь тры разы.

— Пляваў, не дапамагае... Не, не, вы не думайце благога: жыць я хачу, ды і смерці баюся, але што зробіш, калі такія думкі дапякаюць, спакою не даюць?

— Ай, кінь ты дурноту пароць! Найшоў пра што думаць... Няма там анічагусенькі... Цемень, халадзіна.

Доктар пакорліва паківаў галавой у знак згоды:

— Можа, і так. Мне б вашу ўпэўненасць... Кажаце, цемень? Магчыма. А хто яе бачыў? Халадзіна? Дык хто яе адчуваў? Га?

Дзед разгублена залыпаў вачыма:

— Ну, малец, ты мяне заблытаў. Трэба ж... І як толькі ў цябе галава не распухне ад гэтага?..

— Трывае пакуль што... Разумееце, сказаць, што нічога няма — прасцей простага... А вось...— доктар раптам засмяяўся.— І тых, хто раней памрэ, не спытаеш. Так? Толькі ўжо сам і даведаешся, ёсць там штонебудзь ці няма. Цікава...

На твар дзеда Мікіты лягла задуменная заклапочанасць.

— Дык што? Можа, там бог? Чэрці?..

Доктар махнуў рукой.

— Гэта наўрад. Людзі проста рознага навыдумлялі самі сабе. І зноў-ткі менавіта таму, што не ведаюць дакладна...

— А-а, зараз жа ўсё кажуць, што няма анідзе нічога. Дакладна пра гэта гавораць.

— Так, кажуць... і можа правільна,— доктар паглядзеў у столь.— А вось вам ніколі не здавалася, што вы раней ужо жылі?.. Яшчэ да свайго жыцця?

— Чаго-о? Як гэта?

— Раней да свайго асабістага нараджэння... Год за трыста, к прыкладу?..

Дзед не ведаў, што і сказаць.

— А я іншым разам, чытаючы якую-небудзь гістарычную кніжку, цьмяна адчуваю, што недзе ўжо гэта чуў ці бачыў. І, здаецца, больш падрабязна, дакладна. Смяюся з сябе, бо ведаю ж — глупства, дый годзе, а ўсё адно... З вамі ніколі нічога накшталт гэтага не было?

Дзед Мікіта ўзрушана закруціўся на рыпучым ложку.

— Слухай, прынясі вады,— папрасіў ён.

Доктар узяў на тумбачцы пустую шклянку і выйшаў з палаты. Дзед стомлена правёў рукой па ўспацелым ілбе. Ён ніяк не мог уцяміць, як гэта ў такога маладога, разумнага хлапца могуць быць такія думкі. І, здаецца ж, правільна ён разважае... Сапраўды, як жа так можа быць, што чалавек, не парсюк там які-небудзь шалудзівы, а чалавек ды раптам назаўжды знікае. І во здорава ж ён падмеціў: хто гэта ведае, што няма там нічога?.. Вядома, ніхто не ведае, што і ёсць, але і іншага ж ніхто не бачыў... Адтуль не вернешся, не раскажаш... Трэба ж... Як гэта ён да такога дадумаўся? Разумны малец, ой разумны... І яшчэ гэта жыццё за жыццём... А што ты думаеш, можа быць усё... Свет — вунь які складаны і незразумелы!.. Дзед нават заўсміхаўся.

— Што, пераканаў? — з'едліва спытаў Сёмка, павярнуўшы да дзеда Мікіты сваю лысую галаву.

— Чаго?

— Чуў я, як ён табе вечнае жыццё суліў... Ён языком малоце, бы сабака хвастом, а ты ўжо і рад, вушы развесіў... Эх, стары, хіба не разумееш?

— Ды, браце, тут цяжкавата ўразумець усё. Гэта... гэта не простая штука.

Сёмка зняважліва шмыгануў вялікім носам.

— Хлусня гэта, во што. Адзін балтае, а другі на вус матае...

— Як? — дзед насцярожыўся.— Дык ты думаеш, што ён...

— Канешне, хлусіў. Ён табе тут чаго хочаш наплесці зможа. Толькі слухай, дык паабяцае, што анёлам з крыльцамі пасля смерці будзеш... Хы-хы... Бач ты,— Сёмка скрывіўся, намацаў на тумбачцы цукерку, адкусіў,— за трыста год да нараджэння жыў! Смяхоцце адно! — смачна пачмокаў.— Не-е, ёлкі зялёныя, жыць на зямлі трэба так, каб аж пыл курэў, а там...

там толькі адно: чарвякоў частаваць будзем... Усе... І ты, і я, і ён...

Дзедаў сусед па ложку, заўсёды маўклівы і ціхі, раптам злосна накінуўся на Сёмку:

— Чаго ты лезеш да чалавека, даўбня гнілая? Што табе трэба?.. Ляжаў бы спакойна ды пупок свой гладзіў... Дык не, гундосіць, ные, квохча... Абармот чортаў!

— А ну вас усіх... Дурні.

Доктар прынёс вады, сеў на ложак, падаў шклянку дзеду Мікіту.

— Ну дык як? — задуменна спытаўся ён.

Дзед не стаў піць, паставіў шклянку на тумбачку..

— Цябе, хлопча, як завуць?

— Міколам.

— З цябе б добры поп атрымаўся, Коля, во што я скажу. Занадта ты ўжо здатна языком усялякую лухту мелеш.

— Ды што гэта вы, дзеду? — пакрыўджана і чула спытаў доктар.

— Ладна! — дзед Мікіта адвярнуўся ад яго.— Ідзі пазвані, каб прыехалі па мяне.

Доктар падняўся, агледзеў палату. Сёмка закрыў вочы і прыкінуўся, што спіць.

— Та-ак,— уздыхнуў доктар і пайшоў з палаты. Ля дзвярэй азірнуўся і ціха прамовіў:

— Я не хлусіў, дзеду. Чэсна.

Дзед Мікіта нічога не адказаў.

Вечарам яго адвезлі дахаты.

Стогне на двары вецер, шамаціць па страсе, па шыбах снег. І калі скончыцца гэта непагадзь? Палова ж сакавіка ўжо хутка. За пасцілкай, якой адвешаны дзедаў ложак, гарыць святло, тупае ля печы старая... Ціха цікаюць на сцяне ходзікі. Фіранкі на вокнах, здаецца, варушацца. Во дык вецер!

Рана яшчэ, але дзед Мікіта даўно ўжо не спіць. Ляжыць, думае, успамінае... Сыны во-во павінны прыехаць з унукамі. Даўно ўжо не бачыў іх. Калі гэта яны апошні раз былі? Ага, яшчэ летам... У старэйшага водпуск быў, і малодшы з сям'ёй неяк выбраўся... Весела было тады ў хаце, шумліва, святочна... Меншага ўнука Воўку з печы было не сагнаць... Тут буду спаць, і ўсё... Аладкі драныя яшчэ любіць са смятанай.

— Марфа! — слаба гукае дзед Мікіта.

— Чаго? — азвалася ад печы старая.

— Ці напісалі Валерку?

— Аняго... Усім чыста напісалі, неўзабаве прыехаць павінны...

Дзед нейкі час маўчыць, слухае завею. Потым зноў:

— Марфа! Можа б, ты драных аладак сённі напякла? Га?

— Не будзеш жа есці ўсё адно.

— Можа, з'ямо...

— Ладна.

Бабка Марфа ўздыхае, завіхаючыся ля загнета, садзіцца чысціць бульбу. Ружовыя водсветы ад печы бегаюць па яе маршчыністым твары, па стомленых старэчых вачах. Неахвотна круціцца бульбіна ў яе наврэджаных за жыццё цяжкіх руках. Валіцца ў чорны чыгунок белае шалупінне. Раптам з-за занавескі чуецца ціхенькі, стрыманы смех дзеда Мікіты. І праз смех яго слабы, сіпаты і здзіўлены голас:

— Ну, людзі! — і зноў смех з вясёлай роспаччу.

Бабка Марфа зазірае за пасцілку.

— Чаго й та ты?

Дзед Мікіта ссохлай рукой паказаў на дынамік.

— Ваююць! — ён смешна пацiскае плячыма.— Б'юцца!

Радыё перадавала апошнія паведамленні.

— У-у-у, знайшоўся з чаго дзівіцца,— бабка зноў пайшла да печы.— Заўжды ваююць. Не там, дык там...

— А чаго? Навошта? — дапытваўся дзед у жонкі.

— Ды, відаць, людзі ўжо такія — не могуць спакойна ды мірна жыць... Павінны адзін на аднаго лезці і малаціцца.

— Дурні.

— Чаго-о?

— Дурні, кажу... Як быццам ім рабіць больш няма чаго, толькі хрыбты адно другому ламаць... Каб жа хоць жылі доўга, а то ж... Колькі там кожнаму адмерана? Мізер нейкі... Разумныя, а дурні... Караблёў касмічных навыдумлялі, па месяцу пешшу ходзяць, а ўсё адно ніяк не зразумеюць, што вайна гэта...

— Чаго ты разбубніўся? Сам жа ваяваў.

— Ты не раўняй... То трэба было... то за Радзіму...

— А мо і ім прыспічыла. Сказалі ваяваць — і ваююць... Дый трэба людзям вайна, ой трэба... Заеліся ўсе, душой азызлі... Вунь хаця б наш брыгадзір...

Дзед Мікіта закашляўся.

— Кінь трындзіць, нялюба слухаць... Гаворыш, як у бубен б'еш. У нас за такія словы па галоўцы не пагладзяць... Закон ёсць закон. Во будзеш дзе-небудзь казаць, што вайна трэба,— год на пяць у турму ўпякуць за агітацыю... І правільна, будзе за што.

Бабка Марфа ўражана. Зноў падыходзіць да ложка.

— Ды ну-у!.. Хіба ёсць такі закон?

— А ты думала...

— Ты глядзі...— бабка садзіцца на палок насупраць ложка.— Як табе сённі?

— А нічога... Палягчэла неяк, ды і баліць, здаецца, слабей.

— Змарнеў во ўвесь, косці адны... Не ясі нічога.— Бабка тужліва ківае галавой.

— Ай, ладна табе... Во аладак з'ем...

— Ну то згатую.

Маўчаць. У печы вясёлы трэск бярозавага палення. Бабка ўздыхае.

— Марфа,— просіць нясмела дзед.— Ты б мо пляшку сёння ўзяла? Захацелася нешта.

— А-а бо-о-о,— здзіўлена пляскае далонямі бабка,— ужо чуць ліпіць, і ўсё адно наўме... Во каб меней піў раней, здаравейшы быў бы...

Дзед Мікіта пакутліва моршчыцца.

— Ну, хо-опіць, хопіць... Выела ты мне ўсе пячонкі за жыццё з гарэлкай гэтай, хоць бы зараз памаўчала...

— Чаго ты, чаго,— спакайнее адразу бабка.— Я пра тое, што пашкодзіць яна табе...

— Ды ладна... Горш не будзе, чым ё.

— Адчыніцца магазін — і вазьму, ці ты думаеш, шкада?

— Кума Косціка пакліч... Хай зойдзе... Пагамонім, вып'ем... Трэба мне ў яго пра нешта спытаць...

«Ці скора ўжо скончыцца завіруха?» — думае дзед, разглядаючы сучкі ў пажоўклых дошках нізкай столі. Кашляе. Неспакойныя думкі мільгаюць у галаве. Ціха шчоўкаюць ходзікі.

Дзябёлы, каржакаваты Косцік тупае ля парога, абіваючы з валёнак снег...

— Во вясна ў гэтым годзе!.. Дзень добры ў хату.

Бабка Марфа ўваходзіць следам, разматвае тоўстую хустку, страсае з яе прыліпшую снегавую крупу, дастае з кішэні ватоўкі халодную бутэльку. Распранаецца.

— Мікіта!.. Заснуў, пэўна. За ўсю ноч вокам не зміргнуў. Ты, Косцік, распранайся, распранайся... Зараз аладак дастану, яешню... Гуркоў салёных унесці? Га?

— Чаго ўнясеце, то і ладна...

— Ну, ідзі туды. Ля ложка прыладзімся на табурэтцы,— грыміць бабка засланкай.

Косцік старанна выцірае ногі, праходзіць у хату. Адхінае пасцілку, разгублена спыняецца... Азірнуўся, ніякавата патаптаўся на месцы, пацёр рукой шчаку, ціха пасунуўся назад.

— Цётка Марфа!

— Га?

— Гм... Гэта... Памёр дзядзька Мікіта, здаецца...

Бабка здранцвелым позіркам глядзіць на яго шырокімі вачыма. Парэпаныя старэчыя вусны дрыжаць.

— Ды што й та ты кажаш? Што ты!..— з чапялой кідаецца да ложка...

Дзед Мікіта ляжыць спакойны, вастраносы, яшчэ больш схуднелы. Яго твар, сцяты ў нейкай цяжкай заклапочанасці, ненатуральна бялее на чырвонай навалачцы.

— А мой жа ты Мікі-і-ітухна! Нашто ж я цябе аднаго пакі-і-інула? А табе ж, можа, што-небудзь трэба было, а можа ж, я б табе чым дапамагла-а-а... А нічога ж ты мне не сказаў, не развіта-а-аўся...

— Ладна, цётка, не трэба,— як мага цвярдзей кажа Косцік, падымаючы бабку Марфу з ложка.— Нічым бы ты ўжо тут не дапамагла яму... Чаго там?..

— А і дзеткі ж яшчэ не прые-е-ехалі... І ніколі ж ужо яны яго жывога не ўбачаць зусі-і-ім...

Косцік лезе па цыгарэту, ніякавата моршчыць лоб, потым кажа:

— Ты во што, цётка... Схадзі-тка па Ніну... Хай сёння на работу не ідзе... Трэба яго прыбіраць... Я пакуль што тут пабуду... ідзі... Яшчэ нагалосішся, будзе час.

Дапамог старой апрануцца, адчыніў дзверы. Бабка Марфа, усхліпваючы, ідзе па Косцікаву жонку.

Косцік сядзіць ля стала, курыць, гледзячы на бутэльку.

— Бач ты, выпіць хацеў перад сваёй цёмнай дарогай... Гм... Шкада, дзядзька, што мы крыху спазнілі-

ся... Шкада,— зацягнуўся, хукнуў дымам на агеньчык цыгарэты, устаў, выключыў радыё, якое недарэчна весела гаварыла ў хаце, потым спыніў маятнік ходзікаў. Стала ціха. Уздыхнуў, зазірнуў за занавеску, пагля-дзеў.— А ўсё да вясны хацеў дажыць, да цёплага... Каб жа не ў мёрзлую зямлю ісці... Чаму? Якая тут ужо розніца?..

За акном злы вецер круціў снегавы пыл. Апошнія дні гаспадарыла халодная і доўгая зіма. Вясна — на парозе...

# Цацкі

Трактарыст Сямён Шпак прыйшоў дадому позна ўвечары. Грукнуўшы нагамі па абмерзлым ганку, ён звыкла намацаў халодную жалезную клямку і злосна пацягнуў непрыемна зарыпелыя дзверы.

Жонка сядзела на канапе, захутаная ў цёплую хустку, і вязала пальчаткі. Белы пушысты коцік ляніва качаў па падлозе клубок з ніткамі. Пасярод пакоя ў шэрай бляшанай печцы весела і роўна гуло полымя, і ў хаце было горача — ці мо Сямёну гэта здалося з двара?

Ён хутка і ўзрушна распрануўся і кажух свой не павесіў, як звычайна, а проста кінуў яго на лаўку ля акна. Туды ж паляцеў шалік і скураная вушанка. Прысеў на лаўку, палез у кішэнь па цыгарэту.

— Ужо скончылася? — Жонка адарвалася ад свайго занятку і соладка пацягнулася, адвёўшы назад рукі.

— Скончылася,— буркнуў Сямён, нервова зацягнуўшыся цыгарэтай.

— Цікава?

— Трэба было схадзіць і паглядзець.— Сямён быў не ў гуморы і таму адказаў груба.

— А чаго ты такі надзьмуты? Кіно дрэннае?

— Дрэннае,— гледзячы на падлогу, па якой жвава скакалі водбліскі ружовага полымя, сумна прамовіў Сямён.

— Ну вось,— уздыхнула жонка,— а ўсе хвалілі толькі ды хвалілі... Вячэраць будзеш?

— Не хачу.

Прыкра было на душы ў Сямёна. Прыкра і цяжка.

Хацелася зубамі скрыпець ад пякучай крыўды і неўтаймаванай злосці ў грудзях. І вось, здаецца ж, і не адбылося нічога такога, а так яму было моташна, што нават хацелася выпіць. Толькі позна ўжо, дзе ж тут вып'еш?

«Чаму вось душы ў людзей сталі такія заскарузлыя, закамянелыя, такія засушаныя, нібы леташнія грыбы?» — думаў Сямён, нерухома седзячы на лаўцы. Ён доўга моўчкі курыў, а калі агеньчык цыгарэты пачаў прыпякаць яго жоўтыя пальцы, кінуў недакурак у загнет і раптам, нібы штосьці прыгадаўшы, рашуча ўзняўся, прайшоў да печкі і, невядома чаму хвалюючыся, запытаўся:

— Міколка спіць?

Жонка Марыля кінула позірк на печ, дзе спаў іх чатырохгадовы сын:

— Спіць... А што?

— Так... Нічога...— Сямён задуменна прайшоўся па пакоі, глыбока засунуўшы рукі ў кішэні штаноў. Жонка адлажыла сваю справу ўбок, з заклапочанасцю паглядзела на мужа.

— А што ён нарабіў такога?..

Сямён, нічога не адказаўшы, падняў аднавухага жоўтага зайчыка, што валяўся каля фікуса, і раптам нечакана і сурова запытаўся:

— Дзе яго астатнія цацкі?

— Тут дзесьці... Вунь грузавік, стрэльбу я таксама дзесьці бачыла. А што?

— Збяры ўсе сюды.— Сямён паклаў зайца на крэсла, што стаяла непадалёк ад печкі. Сам прысеў, плюнуў на пальцы і адхапіў шчарбатыя дзверцы. Падкінуў дроў.

— Ці, можа, ён чужое што ўзяў? — спалохана спыталася жонка, трымаючы ў руках вялікі зялёны грузавік.

Сямён паставіў яго побач з зайцам і сказаў:

— Нясі астатнія.

— Нічога ж чужога, здаецца, я ў яго не бачыла... А што такое?

— Што, што... Сказана збяры, дык збірай!

Марыля памаўчала і, уздыхнуўшы, пачала шукаць сынавы цацкі. Праз хвіліну-другую шмат старых і новых цацак ляжала на крэсле. Марыля трэскай выграбла з-пад шафы празрысты слюдзяны месяцаход без колаў.

— Вось. Нічога чужога няма.

— Усё?

— Здаецца, усё.

— А гэта? — Сямён кіўнуў на рыжага плюшавага мядзведзя, што стаяў на тэлевізары.

— Дык гэта ж наш. Ты ж сам яго купіў.

— Нясі сюды.

— Навошта?

Сямён нічога не адказаў, спакойна ўзняўся, падышоў да тэлевізара, узяў мядзведзя сам.

Цацка была новенькая і прыгожая. Чырвоны, гладкі плюш прыемна лашчыў пальцы. Сямён купіў гэтага мядзведзя тыдні са два назад у раёне, куды ездзіў на нараду сельскіх механізатараў. І грошай тады ў яго было не вельмі ўжо шмат — адна пяцёрка ўсяго, але як толькі ён зайшоў у магазін і ўбачыў на прылаўку гэтага няўклюднага і мурлатага Мішку і ўявіў шчаслівы сынаў твар, калі ён атрымае гэту цацку,— не вытрываў і палез па грошы.

На білет прыйшлося пазычаць у калгаснага конюха дзядзькі Мікіты, якога Сямён сустрэў на аўтобуснай станцыі. Мікіта працягнуў яму рубель і, паскробшы пальцам нsyголеную сківі... інтымна хіхікнуў:

— Трохі, значыцца, не разлічыў фінансы?

Дзядзькаў нос быў ужо даволі-такі чырвоны, і менавіта таму Мікіта быў у гуморы. Сямёну стала зра-

зумела, на што дзядзька намякаў, але расказваць яму, што да чаго, не стаў.

Ужо ў аўтобусе дзядзька заўважыў нарэшце Сямёнаву пакупку і запытаўся:

— Жонцы што купіў?

— Сыну! — Сямён задаволена ўсміхнуўся і адкрыў акуратную папяровую скрынку: — Вось.

Мікіта нізка нагнуўся над цацкай, бы дрэнна бачыў, потым асцярожна дакрануўся да яе рукой і іранічна шмыгнуў сваім ружовым носам:

— І колькі ж ты за гэта грошай уляпаў?

— Пяцёрку ўсяго,— Сямён закрываў скрынку.

— Га? — здзіўлена ікнуў Мікіта.— Пяць рублёў?

— Але ж затое цацка якая! Ключык вунь пакруціш — і ён лапкамі махаць пачынае, і галавой матляе, ды яшчэ і раве.

— Доўга ён не нараве,— весела засмяяўся Мікіта.— Твой Міколка хутка развінціць яму ўсе вантробы... Толькі пяцёрку на вецер выкінуў...

— Табе якая справа! — Сямён раззлаваўся.— Не твае ж гэта грошы.

— Выпіў бы лепш, а то... Ты, Сёма, гэта... крышачку не таго,— Мікіта зрабіў у сябе перад носам няпэўны жэст рукой і адвярнуўся да акна. Да самай вёскі яны маўчалі.

Цацка Міколку вельмі спадабалася. Цэлы вечар ён бясконца заводзіў мядзведзя, ставіў яго перад сабой на падлогу, весела смяяўся, гледзячы, як той няўклюдна махае лапамі і паважна ківае галавой. Першыя дні ён закінуў усе свае старыя цацкі і толькі гуляў з новай, але праз тыдзень Марыля, прыбіраючы пакой, знайшла мядзведзя пад ложкам за старымі чамаданамі. Міколка выпадкова закінуў яго туды і забыўся. Ключыка, якім мядзведзь заводзіўся, не знайшлі і цацку паставілі на тэлевізар...

Сямён нейкі момант разглядаў мядзведзя, потым падышоў да печкі і паклаў яго побач з астатнімі цацкамі. Спытаўся яшчэ раз:

— Усе?

Жонка, нічагусенькі не разумеючы, кіўнула і разгублена стаяла, чакаючы, што будзе далей. Сямён са спакойнай рашучасцю адчыніў дзверцы печкі, зазірнуў у яе, трэскай рассунуў цемнаватае вуголле, па якім гарэзліва бегалі блакітныя агеньчыкі, а потым левай рукой намацаў мядзведзя і таксама спакойна, нібы робячы самую звычайную справу, кінуў цацку ў агонь. Мядзведзь спачатку задымеў густым шызаватым дымам, а потым у адно імгненне ўспыхнуў яркім полымем.

У Марылі ад здзіўлення нібы аднялася мова: яна спрабавала штосьці гаварыць, але нічога не выходзіла. Сямён паспеў укінуць у полымя яшчэ адну цацку і ўжо браўся за месяцаход, калі Марыля апамяталася.

— Што ты робіш?! — выгукнула яна, хапаючы мужа за руку.

— Не лезь! — скрозь зубы цвёрда прамовіў Сямён і адвёў яе руку.

— Божухна! Дзіцячыя цацкі паліць!

— Не твой клопат, не лезь...

Бліскучы месяцаход паляцеў у полымя.

— А людцы! — спалохана залямантавала Марыля.— Ашалеў чалавек, з глузду з'ехаў! Што ты робіш?!

— Цацкі палю.

— Навошта?

— Трэба, не твая справа.

— Ды ты што, сённі сербануў лішняга, ці што?

— Адчапіся, кажу.— У Сямёна на калене хруснула прыгожая Міколкава стрэльба. Лакіраваны драўляны прыклад ад яе таксама пайшоў у грубку, а чорную бляшаную рулю Сямён сагнуў і кінуў на падлогу.

— Сам жа купляў... і паліцы!

Марыля мітусілася па пакоі, не ведаючы, як спыніць мужа.

Сямён спакойна рабіў сваё.

— Сямён,— ні то злосна-іранічна, ні то сур'ёзна запыталася жонка, назіраючы за гэтай расправай,— можа, ты захварэў?

Ён маўчаў. Тады яна спакойна і нават лагодна спыталася:

— Ты чаго? Што здарылася?

Гэты яе спакойны тон трохі ацверазіў Сямёна. Ён трымаў у руках сынаў грузавік, не ведаючы, што з ім рабіць, бо цацка была бляшаная.

— Ну чаго ты? — Марыля прысела на пустое крэсла насупраць мужа і, невядома чаму, спачувальна паглядзела яму ў вочы. Сямён няёмка пакруціў у руках грузавік, потым паставіў яго на падлогу і піхнуў нагой. Грузавік, загрукатаўшы коламі, падкаціўся пад стол.

Сямён з хвіліну сядзеў, падпёршы шчаку рукой, а потым запытаўся пра тое, пра што думаў. Запытаўся ціха і сумна:

— Чаму душы ў людзей сталі такія засушаныя, нібы леташнія грыбы?

Марыля нічога на гэта не адказала, але Сямён, напэўна, і не чакаў пачуць адказ. Памаўчаў, потым закурыў.

— Кіно добрае было...— Сямён сумнавата глядзеў міма жонкі.— Пра вайну... Як пяць маладзенькіх дзевак паслалі пераймаць дыверсантаў нямецкіх. А іх, дыверсантаў гэтых, аказалася шаснаццаць. Ну што яны маглі зрабіць? Бабы ж... Загінулі адна за адной усе, але і немцы фігу прайшлі...

— Чаму ж мужыкоў на гэтых немцаў не паслалі? — запыталася Марыля, якую ўразіў мужаў расказ.

— Не было мужыкоў.— Сямён падышоў да акна і захінуў фіранку. Памаўчаў, нібы не ведаючы, што казаць далей, потым працягваў: — Ну там, у адным месцы... ну... заплакаў я... сам не прыкмеціў нават, калі заплакаў. За сэрца вось так узяло,— ён сціснуў кулак, затым стукнуў ім па калене, загаварыў абурана і злосна: — І раптам чую: смяюцца!! Я здзівіўся. Чаму гэта, думаю? Па карціне гэта нават зусім недарэчна...

Сямён змоўк, сціснуўшы зубы, і ўтаропіўся ў падлогу. Жонка ўважліва слухала яго, хаця ніякай лагічнай сувязі паміж кіно і толькі што спаленымі цацкамі не было. Аднак яна ні пра што не пыталася.

— Ну, паглядзеў я ў той бок, адкуль смяяліся,— губы ў Сямёна разгневана сціснуліся,— і раптам бачу: амаль палова клуба — не на экран, а на мяне глядзяць. Глядзяць і смяюцца! Ім цікава, што дарослы чалавек заплакаў. Смяюцца!

Ён узрушана правёў рукой па валасах і ўздыхнуў.

Марыля без насмешкі, але з даволі прыкметным дакорам запыталася:

— Што ж ім — разам з табою плакаць было?

— Яны заплачуць,— Сямён паківаў галавой і горка ўсміхнуўся.— Чакай! Ад цыбулі, можа, і заплачуць ці калі пясок у вока пападзе, а там... чорта лысага яны табе заплачуць! Сорамна ж гэта і смешна!

— Ды яно і праўда што смешна. Калі б баба заплакала ў кіно, дык гэта яшчэ нічога, а то здаровы, дарослы мужчына сядзіць і румзае, як дзіця.

Сямён бліснуў вачыма і павол падняўся з крэсла. Пачырванеў.

— А чаго ты так раззлаваўся? — Марыля зноў загаварыла лагодна і мякка.— Чорт з імі, няхай бы пасмяяліся, першы раз гэта, ці што?

І праўда, не першы. Часта смяяліся людзі з Сямёна. Не, не насміхаліся (яго паважалі ў вёсцы і на працы лічылі добрым чалавекам), а так, незласліва пасмейва-

4 Зак. 1648

лíся з яго слоў ці ўчынкаў. Забаўляліся, ці што? І вось, няхай бы гэта рабілі толькі старэйшыя мужчыны, а то ж здаралася, што над ім жартавалі і яго аднагодкі, і тыя, хто быў значна маладзейшы. Дзіўны ён быў чалавек, не падобны на іншых.

Неяк адным летам, у той час Сямён яшчэ быў хлопцам, ён схадзіў у лес, нарваў цэлае бярэма кветак і прынёс іх да сваёй суседкі, бабулі Аўдоцці.

— Чаго? — старая каля хлева даіла карову і нават не азірнулася на Сямёна.

— Вянок спляці вось з кветак.

— А навошта? — Аўдоцця здзіўлена наморшчыла лоб і глядзела на кветкі, якія трымаў хлапец.

— Купальская ж ноч сёння.

— Дык што?

— Раней жа, вы ведаеце, дзеўкі вянкі плялі і на стрэхі хат сваіх кідалі. Я таксама кідаў. Потым іх нават зімой можна было ўбачыць, засохлыя ўжо, шэрыя, непрыгожыя. А ўсё роўна, паглядзіш на іх — і лета ўспомніш. І неяк добра зробіцца, радасна...

— Добра, пачакай, я зараз карову падаю і спляту.

Праз хвіліну старая Аўдоцця расклала на ганку кветкі, што прынёс Сямён, і ўзялася плесці купальскі вянок. Сплялa. Сямён закінуў яго на шыферны дах сваёй хаты. Людзі праходзілі міма, глядзелі, смяяліся.

А калі Сямён жаніўся на Марылі, то да сябе на вяселле запрасіў усю вёску. Усю, без астатка. Здавалася яму, што будзе няёмка не запрасіць да сябе тых, каго ён добра ведае і да каго няблага адносіцца. Ну, а ведаў Сямён у вёсцы ўсіх і да ўсіх добра адносіўся. Менавіта таму ўсіх і запрасіў.

— Здурэў хлапец! — праз смех абураўся Сямёнаў цесць, калгасны ветфельчар.— Ён жа гэтым вяселлем у мяне ўсю гаспадарку вымеце, ды і сам потым на месяц гаўкаць будзе.

Зноў смяяліся людзі, па-добраму, праўда, але ўсё ж смяяліся...

— З мяне няхай бы смяяліся, ліха з імі,— сказаў Сямён Марылі.— Ды толькі ж яны і ў кіно не бачылі нічога сур'ёзнага, нічога жаласлівага.

— Ну, вядома, бо гэта ж няпраўда.

— Як няпраўда?

— Артысты ж там.

— Але ж такое і напраўду было ў час вайны!

— Хто яго ведае, можа, было, а можа, і прыдумалі. Ці мала чаго цяпер прыдумляюць?

Сямён абурана махнуў рукой.

— Усё для вас няпраўда! — сказаў ён.— Усё для вас прыдумана! І нічому вы не верыце! Я вунь у мінулую суботу, калі з лазні вяртаўся, сустрэў Пецьку Лагуна. Ён якраз ішоў у лазню. Закурылі, пагутарылі. Надвор'е ў той вечар таксама добрае было нейкае, на душы ў мяне светла, лагодна. Месяц вісеў над самым возерам. Востры такі, ясны. Ну я і кажу Лагуну: «Хораша як кругом! Вунь і месяц у возера лезе, каб таксама памыцца». А ён паглядзеў на мяне, як на ідыёта, і кажа: «Ты, Шпачок, няйначай, перапарыўся ў лазні. Вунь што прыдумаў сказаць!» Хацелася мне яго мокрым венікам па твары сцебануць, ды толькі ўтрымаўся.

— Ну а навошта ж ты цацкі спаліў? — запыталася Марыля.— Пры чым тут яны?

— Пры чым? З цацак усё і пачынаецца. Прывучылі вось дзяцей да ўсяго гатовага. Навошта, маўляў, вам думаць пра што-небудзь, маляваць звяроў або ляпіць іх з гліны ці пластыліну? Вось вам мядзведзі, зайцы, ваўкі, сланы! Адрывайце ім вушы, ламіце ногі, скубіце поўсць! Мы вам новыя купім. А думаць не трэба. Тыя, хто робяць гэтыя цацкі, за вас падумаюць.

— Нічога я не разумею,— сказала Марыля.

— Я ў дзяцінстве з цаглінамі гуляў,— узрушана гаварыў Сямён, але гаварыў ён нібы толькі для сябе.—

Яны, цаглiны гэтыя, былі для мяне і машынамі, і трактарамі, і танкамі. І дамы і палацы я з іх будаваў. Памятаю, сказаў мне хтосьці, што ў Чырына прыехалі салдаты з танкамі, дык я за пятнаццаць кіламетраў пабег, каб паглядзець, якія яны, гэтыя танкі... А наш? Ці яму што цікава? Ды ў яго цацкі прыгажэйшыя, чым тыя сапраўдныя рэчы, на манер якіх яны зроблены, гэтыя цацкі. У рэшце рэшт і ён прывучыцца глядзець на ўсё так, як глядзяць на цацкі. І смяяцца будзе.

— Што ж нам,— спыталася Марыля, корпаючыся ў печцы,— не купляць гэтыя цацкі?

Сямён больш нічога не гаварыў, распрануўся і лёг. Жонка на засланцы панесла на вуліцу недагарэлыя цацкі.

Раніцай ён прачнуўся супакоены, нібы за ноч усё забылася. Паснедаў і, ужо збіраючыся на працу, сказаў жонцы, звёўшы на пераноссі свае бялявыя бровы:

— Ты, гэта, пра цацкі не кажы нікому...

А калі апрануўся і адчыніў дзверы, дадаў з парога:

— А Міколку я новыя куплю.

Марыля толькі ўсміхнулася.

# Піліпіха

Следчы райаддзела ўнутраных спраў капітан Судакоў у той дзень збіраўся пайсці са службы раней часу. Яго сыну, смяшліваму віхрастаму карапузу, споўнілася пяць год. Будуць госці, трэба дапамагчы жонцы... Ды і падарунка сын чакае не дачакаецца... З раніцы разы са тры званіў і напамінаў: «Тата, ты не забыўся, што мне сёння пяць год будзе вечарам?» — «Не, сынок, не забыўся». Чорны бліскучы аўтамат у каляровай скрыначцы ляжыць на стале. Во будзе радасці! Судакоў усміхнуўся, уявіўшы, як сын будзе насіцца па кватэры з гэтай цацкай і, не звяртаючы ўвагі на тое, што аўтамат сам страляе, што чырвоная лямпачка бліскае ў рулі, будзе весці свой агонь, раздзімаючы шчочкі: ды-ды-ды... Вырас, жэўжык!

Судакоў ужо замыкаў дзверы свайго кабінета, калі зазваніў тэлефон. Капітан раздражнена павярнуў ключ, вярнуўся, буркнуўшы пад нос — «Не пашанцуе», і зняў трубку.

— Судакоў,— па службовай звычцы ён заўжды называў па тэлефоне сваё прозвішча.

— Таварыш капітан, вы не пайшлі яшчэ? — гэта дзяжурны Шамрук.— Тут бабулька нейкая завітала... Вось стаіць.

— Да мяне?

— Ёй усё роўна. Абы начальнік быў. Ці то з заявай, ці то са скаргай... Я рады не дам,— дзяжурны засмяяўся.— Кажа, сын яе кінуў, а сам капіталістам стаў... У мяне адукацыі не хапае, каб зразумець...

Капітан застаўся абыякавы да жартаўлівага тону

дзяжурнага, такіх гумарыстаў, як Шамрук, ён не любіў. Зірнуўшы на гадзіннік, коратка сказаў:

— Хай зойдзе.

Праз хвіліну дзверы ціха адчыніліся. Сівая маленькая бабулька нерашуча ўвайшла ў кабінет і, трымаючыся рукой за ручку дзвярэй, стаяла, не адважваючыся падысці да стала.

— Здароў, дзетухна.— Голас спакойны і нейкі вельмі жаласлівы, як у чалавека, што вось у наступны момант гатовы ціха заплакаць.

Судакоў устаў з-за стала, без патрэбы, ад нейкай незразумелай ніякаватасці мітусліва адсунуў ад стала крэсла і прывітаўся.

— Сядайце, калі ласка.

— Ды ладна, дзетка, пастаю я... Ты мне во скажы, хто гэта ў вас унізе ля тэлефонаў сядзіць? Чаго ён рагоча ад кожнага слова?

Судакоў усміхнуўся.

— Вясёлы занадта.

— Хто яго ведае... Вясёлы смяецца, калі ўсім смешна, а хто без дай прычыны зубы паказвае, таго ўжо іншым словам ахрысціць хочацца.

— Сядайце, сядайце,— паказаў рукой на крэсла Судакоў.

Старая прысела, чорную замусоленую сумку паклала на калені, правай рукой аслабіла вузел хусткі і, не гледзячы на капітана, проста спытала:

— А цябе як завуць?

— Судакоў,— адказаў следчы.

Яна павярнула да яго ссечаны глыбокімі маршчынамі твар і, нібы пакрыўдзіўшыся, прамовіла:

— Я ж, як завуць, пытаюся.

— Анатоль.

Старая хацела сказаць, што ўсе людзі ўзялі дурную звычку адзін аднаго па прозвішчу зваць... Во хаця б яе кватарантку ўзяць... Смешна. Пяць гадоў замужам, а ні

разу свайго чалавека па імені не назвала... Усё Шароў ды Шароў... А сына маленькага Шарыкам кліча... Як сабаку, далібог. Аднак ёй падумалася, што адрываць ад справы пустымі размовамі занятага чалавека нядобра, і яна, заўважыўшы, што той чакае, пачала:

— Я з Забалоцця... Піліпіха мяне завуць. Гэта па мужыку майму... Таго Піліпам звалі... А прозвішча маё — Макулькіна Ганна... Дык вось, Толік, дзела якое. Сын мой знайшоўся. Гэтулькі год і звання не было, а цяпер во абвясціўся... Васька мой...

Судакоў уздыхнуў. Справа не новая. Ужо даводзілася шукаць і бацькоў, што хаваюцца ад сем'яў, і сыноў, якія ў год двух радкоў дадому напісаць не могуць. Ды і сам, што там гаварыць. На свята толькі паштоўкі дасылае... Хто яго ведае, ад чаго гэта? Ці то разумнейшымі дзеці робяцца за сваіх бацькоў, ці то іншымі думкамі галава занята. Няма пра што пісаць. Маці, той шмат і не трэба... Жывы-здаровы, і ўсё. Але ж і на гэта «жывы-здаровы» ні часу не хапае, ні жадання, ні цярпення...

Судакоў дастаў чысты аркуш, узяў аловак, каб запісаць каардынаты гэтага бэйбуса Ваські, і між іншым спытаў:

— Ён за гэтыя гады і не напісаў ні разу?

— Не-е,— адвёўшы ўбок галаву, працяжна сказала старая.— Ні разу. Мо і пісаў, ды ці то губляліся пісьмы, ці мо ён адрас забыўся...

«Што ж у яго за галава такая, калі адрас роднай маці забыўся»,— падумаў Судакоў і строга спытаў:

— Дзе ён цяпер?

Старая Піліпіха, злавіўшы ў яго голасе гэтыя строгія ноткі, з перасцярогай падняла руку:

— Ты толькі не падумай, што я скардзіцца прыйшла. Ён жа сын мне. Родны. А на роднага вялікі грэх скардзіцца.

— На такога не грэх,— сурова прамовіў Судакоў.— Ён ад роднай маці адрокся і за грэх гэта не палічыў.

— Не кажы лухты, хлопча. Не ведаеш, дык і не гавары,— незадаволена перасцігнула Судакова Пяліпіха.— Васька ў мяне добры. Бывала, хто якую-небудзь цукерку ці яблыка дасць, дык, барані божа, сам не з'есць, а спачатку мне прынясе...

— Колькі ён вам не пісаў? — спытаў Судакоў.

— Даўно. Ужо во трыццаць чацвёрты год гэтым летам пайшоў...

Судакоў выпусціў з рук аловак.

— Колькі? — ён падумаў, што здалося.

— Трыццаць чатыры гады ўжо.

— Як жа гэта? — уражана прамовіў ён, гледзячы на спакойны старэчы твар, на якім не было ні журбы, ні болю, на якім ужо ўсё даўно адбалела, адплакалася і цяпер толькі ляжала ціхая самота. Адна самота.— Гэта што? З вайны?

— Ну,— кіўнула галавой старая.— У сорак першым яго ў салдаты забралі. Госпадзі! Каго там браць было... Рукі-ногі, як былінкі, маленькі, у мяне ўвесь удаўся. Які там салдат?! Нос яшчэ яму сама выцірала. Гадамі падышоў, а сілы на гэтыя гадкі набраць не паспеў. Ну і пайшоў. А потым, калі немца турнулі, мне прынеслі гэту... як яе?

— Пахаронку,— падказаў Судакоў.

— Не, не,— чамусьці спалохана загаварыла Піліпіха.— Пахаронка — гэта калі заб'юць, а майго Ваську не забіла. Напісалі, што ён «без весці прапаў». Я дык думаю — лухту напісалі. Як гэта можа чалавек «без весці» прапасці, калі ён жывы?

— Можа,— Судакоў ужо размаўляў са старой, забыўшыся пра тое, што ён следчы і сядзіць у сваім кабінеце.— У палон, напрыклад, траплялі людзі...

— Дык то ў палон... Усё ж які-ніякі, а жывы. А то «без весці». Гэтак жа можна падумаць, што каюк недзе

напаткаў. Марфу Цмыгун з нашай вёскі гэта «без весці» як падвяло! На свайго Хвёдара пісульку такую атрымала, баба ладная была, ёмкая, ну і сышлася з адным пасля вайны. Год жывуць, жывуць другі: раптам як снег на галаву, трах-бах Хвёдар на парог! Во табе і «без весці». Марфа: «А Хведзечка, а родненькі, а я ж тольکі цябе любіла заўжды, я ж па табе адплакала-адгаласіла, а што ж рабіць?» Во і рабі што хочаш. Паперчыне праклятай паверыла, а да сэрца свайго не прыслухалася. Я дык не! Пакуль, думаю, дрэнна яго ў сне не ўбачу. І думаць нават не буду. Ці паверыце, аніразу Ваську не сасніла за гэтулькі год. І Піліпа бачыла, і Петрака, усіх чыста, а яго не. І во як быццам шаптаў мне нехта на вуха: жывы, жывы твой Васька. І толькі зусім нядаўна сон сасніўся. Добры сон. Здаецца, ро-оўненькае поле жытнёвае, неба, бы яго вымыў хтосьці, ані воблачка, чыста-чыстае. І жаўрукі ў ім вісяць. І як быццам Васька мой ідзе гэтым полем, раз-пораз жменю зерня дастане ■ кішэні і сыпле сабе пад ногі. Я стаю на ўзмежку, гляджу на яго дый думаю: навошта ён гэта зерне кідае ў зямлю? Жыта ж ужо вырасла, у каласы пайшло, а ён нібыта нанава сеяць надумаўся... Спытаць хацела, а голасу няма. Ён і прайшоў міма. Я і не спытала...

Яна расказала гэта так пранікнёна, так натуральна, што Судакову здалося, што то не сон быў. Сапраўды выйшла старая за вёску ды і сустрэла свайго прапаўшага сына на жытнёвым полі. І ўжо круцілася на языку пытанне: дзе ж гэты Васька, яе сын, столькі год прападаў? Чаму не прыслаў весткі? Няўжо чалавек можа забыцца пра маці? Судакоў ужо паверыў, што ён жывы. Аднак капітан ні пра што не спытаўся, старая расказвала далей:

— Такі во сон... І недзе ці то праз тыдзень, ці то праз два прыязджае ў водпуск сын нашага аграномa Барадулькі. Мо ведаеш?

Судакоў агранома не ведаў, але кіўнуў. Ага, маўляў, чуў.

— Ну во... Ён гэта на марака вывучыўся... Па ўсім свеце плавае. Гасцінцаў поўны чамадан прывёз бацькам. І газеціну з гэтымі... ну, з голымі дзеўкамі,— старая пачала корпацца ў сумцы, дастала адтуль акуратна складзены яркі замежны часопіс. Разгарнула яго.— Я неяк зайшла да іх... Гэта газеціна на падлозе валяецца. Зірнула — божухна! Васька мой на мяне глядзіць і ўсміхаецца... Во тут! — Яна паклала часопіс перад Судаковым, пяшчотна правяла карычневай рукой па памятай старонцы.

Судакоў узяў часопіс у рукі. У правым рагу на каляровым здымку немалады ўжо мужчына стаяў за нізенькай трыбункай, з якой, нібы бліскучыя змеі, тырчалі мікрафоны... За ім, крыху воддаль, стаяла купка шыкоўна апранутых людзей. Усе ўсміхаліся. Той-сёй пляскаў у далоні.

Судакоў падняў галаву і сустрэўся з позіркам старой Піліпіхі. Выцвілыя за доўгае жыццё вочы глядзелі з нецярплівым чаканнем і трывогай. Капітан зразумеў, што яна чакае недаверлівай усмешкі і гатова пераконваць і даводзіць... Ён здагадаўся, што гэту «газеціну» старая шмат каму ўжо паказвала да яго... Як мага сур'ёзней Судакоў спытаў:

— Каторы з іх ваш сын?

Старая як быццам пакрыўдзілася.

— Як гэта каторы? Во ён. Першы. Выліты Васька. Нос яго, і брыво рассечанае. Гэта ў маленстве аднойчы аб грубку рэзнуўся. І на трыбуне! — сказала гэта з гордасцю, з пашанай. Маўляў, мой сын не абы-хто, не такі, каб недзе ўбаку стаяць. І дадала: — Там і напісана нешта. Толькі прачытаць ніхто не можа. Кватарантку сваю прасіла... Не ўмее! Усё жыццё вучылася, а прачытаць не па-нашаму не здолела. Ды і смяецца... Вясёлая

занадта. Цяпер яны ўсе вясёлыя. Мо ты, дзетка, зможаш? — папрасіла ціха і нясмела.

Тэкст быў просты. На англійскай мове. Толькі некалькі слоў Судакоў не здолеў перакласці.

— Гэта прэм'ер-міністр нейкі. Альфрэд Трэйзер,— з жалем, ведаючы, што расчаруе старую Піліпіху, сказаў капітан.— Выступае перад выбаршчыкамі ці яшчэ дзе...

— Ну і што? — надзвычай абыякава сказала Піліпіха.

— Як што? Няўжо вы думаеце, што ваш сын...

— Ты майго Ваську не ведаеш,— здагадаўшыся, што хоча сказаць Судакоў, перасцігнула яго старая.— Ён жа такі кемлівы быў... Усе настаўнікі хвалілі. На адны пяцёркі вучыўся. Яшчэ без штаноў хадзіў, а ўжо спытай, колькі табе годзікаў,— ён тры пальцы паказвае. Бывала, папросіць: мамка, раскажы казку... Я яму палову гадзіны што-небудзь пляту, а ён на наступны дзень слова ў слова ўсё перакажа. Галавасты рос. Каб не вайна праклятая...

— Значыць, ён прэм'ер-міністрам за гэтыя гады паспеў стаць? — Судакоў сказаў, і самому прыкра зрабілася ад з'едлівай іроніі, якая міжволі праскочыла ў яго пытанні.

— А што? — з ранейшай упэўненасцю сказала старая.— У нашай вунь Ганны Таўкачыхі сын. Бязбацькавічам рос, адзін. Байструком усе звалі. Ды і вучыўся цераз пень калоду, не зраўняць з маім Васькам... І што вы думаеце — цяпер артыстам робіць. З тэлевізара не вылазіць.

— Гэта ў нас так, бабулька. А там іншыя законы і парадкі. Калі лёс яго і закінуў туды, дык для ўсіх ён чужынец. А хто гэта дазволіць чужаземцу прэм'ер-міністрам стаць.— Судакоў гаварыў і не ведаў, навошта ён пераконвае старую.

Піліпіха ўзяла з яго рук часопіс, упарта і незадаволена сказала:

— Такі, як мой Васька, кім хочаш стане. Падумаеш, міністр... Цаца якая! Ты ж не ведаеш сына майго. Нашто казаць?

Судакоў зразумеў, што яго довады вельмі слабыя для старой. Не тлумачыць жа ёй, што такое палітычная кар'ера і як яна там робіцца.

— Ну добра,— нібы пагадзіўшыся, сказаў ён.— Вы ж кажаце, што ён добры, вас любіў...

— Яшчэ як,— зморшчаны твар засвяціўся.— Карову даіць пайду, а яго гарод ад курэй вартаваць пакіну. Калі назад іду, дык ляціць ва ўвесь дух насустрач і аж плача ад радасці. А калі трохі падрос, дык ніразу ў студню па ваду не даў мне схадзіць. Адбіраў каромысел. Сам танюткі, нясе вёдры поўныя, яго аж боўтае, а мяне не пускае. Любіў, дужа любіў...

Судакоў памаўчаў нейкі момант, не адважваючыся гаварыць, але, убачыўшы, што старая чакае, усё ж сказаў:

— Ну дык калі любіў, як жа гэта можа быць, што за гэтулькі год пісьма не даслаў, нават не паведаміў, што жывы, не падумаў ні разу ні пра вас, ні пра вашы слёзы?

Не, так гаварыць не варта было. Судакоў шкадаваў ужо, што такое зляцела з языка, але старая Піліпіха не збянтэжылася. Гэтак жа спакойна і проста сказала:

— А-а-а, дзетухна... Усё магло быць на гэтай чортавай вайне, каб яна спрахла. Можа, яму памяць адбіла кантузіяй якой-небудзь. Я чула, пісалі ж пра аднаго небараку. У галаву параніла, дык забыўся, бедалак, і як яго завуць, і прозвішча забыў, і маці сваю, і вёску... Усё чыста з галавы выбіла. Імя сабе ніякага не ўзяў, дык проста так і звалі — Салдат. Кажуць, што сястру сваю сустрэў недзе, кінуўся да яе: мама, крычыць, мама, гэта ж я... А мамы і на свеце ўжо нямашака, сястра

была на яе вельмі падобна. Яму нешта і ўспомнілася. Дык вось я і думаю, ці не страслася з маім Васькам такая бяда? Ну быць жа такога не можа, каб ён па сваёй ахвоце забыўся пра мяне! Пэўна, падраніла так, што не памятае ні роду, ні племені. Нездарма ж і назваўся гэтым... Як ты кажаш... Трызорам.

— Трэзерам,— у Судакова перахапіла горла.

— Ну, ну... Дапамог бы ты мне, сынок. Ты ж ведаеш, куды пісаць і як. Паведаміце яму: што ў цябе маці жывая яшчэ, што ты родам з Забалоцця, хата канцавая, тры бярозкі ў агародчыку. Мо яму і ўспомніцца. Той жа вунь сястру ўбачыў і ўспомніў. Хай бы прыехаў. Цяпер жа можна ўжо, каб прыязджалі адтуль, ці праўда?

— Праўда,— уздыхнуў Судакоў.

— Пэўна ж, і дзетак ужо мае. Унучкаў маіх. І іх бы хай прывёз. А то во памру хутка і не ўбачу.

Судакоў зноў узяў у рукі часопіс. Са здымка на яго глядзеў і ўсміхаўся яшчэ не стары светлавалосы мужчына. Адкрыты, просты твар, хітравата прыжмураныя вочы.

— Колькі яму перад вайной было? — спытаўся Судакоў і міжволі кіўнуў на здымак. Кіўнуў і здзівіўся. Ён ужо сам верыў.

— Васемнаццаць споўнілася. Ён у каляды нарадзіўся... У самыя маразы. Першы ў мяне быў.

Судакоў паклаў перад ёй часопіс.

— Ну а тут яму колькі?

Піліпіха нізка сагнулася над здымкам, прыжмурыла вочы, правяла па ім рукой.

— Больш чым сорак не дасі. Ну ад сілы сорак пяць. Ды не, не будзе! Ці ты сам не бачыш? Малады.

— Правільна, бабулька. А вашаму сыну, калі б ён быў жывы, ужо даўным-даўно было б за пяцьдзесят. Перад вайной было ж васемнаццаць?

Ну, малайчына Судакоў! Недарэмна вучыўся. Логіка, як у самага славутага следчага. Жалезная.

Старая нейкі момант сядзела як аслупянелая. Ніводнага разу за ўсе гэтыя гады яна не падумала пра ўзрост свайго Ваські. Божухна, яму ж ужо пяцьдзесят з гакам! А на здымку... І раптам яе твар засвяціўся радаснай надзеяй.

— Дык гэта ж газеціна старая! Вядома, і ён там маладзейшы,— сказала яна Судакову.

— Часопіс за гэты год. Там напісана.

Піліпіха зірнула яму проста ў вочы.

— Ну чаму ты не хочаш мне паверыць, сынок? — з такім жаласлівым адчаем спытала яна, што ў капітана сціснулася сэрца.— Я табе картку Васькаву прынясу. Сам паглядзіш. Адзін твар. І жмурыўся ён гэтак жа. І зубы такія шырокія зверху. Добры, значыць... Прыкмета такая. Вядома, тут ён ужо паўнейшы стаў, памужнеў... Мужчына ж ужо.

«Цяпер ён ужо стары,— падумаў Судакоў.— Дакладней кажучы, быў бы стары»,— а ўслых, каб перавесці гаворку на іншае, спытаў:

— А ў вас, акрамя яго, яшчэ ёсць дзеці?

— Былі. Двое. Пятрок на тры гады за Ваську маладзейшы і дзевачка Дуня. Немаўлятка. Ну дык гэтыя не «без весці»... Дуня ў мяне на руках памерла. У партызанах. Немцы нас прыціснулі да балота. Ні туды ні сюды... А ў мяне, як на тое гора, малако з грудзей прапала... А даць не было чаго. Самі паранае жыта елі. Ну і... Петрака, калі нашы прыйшлі, у войска забралі. Усю вайну даваяваў. Ужо пасля Перамогі, у Югаславіі... Во як бывае. Ужо і не ваяваў ніхто, а яго забілі. Васька ў мяне адзін цяпер.

— Вы адна жывеце?

— Ну. Піліп у пяцьдзесят чацвёртым памёр. Нямоглы быў. Нашым памагаў, дык немцы пячонкі адбі-

лі. Ой, дзетухна, вайна ўсё нарабіла. Гэтыя гітлеры азвярэлыя, каб на іх магілках трава не расла!..

Яна ўздыхнула і змоўкла. Маўчаў і Судакоў нейкі момант. Потым узяў часопіс, паклаў яго збоку на паперы і як толькі мог шчыра сказаў:

— Добра, бабулька. Я... мы напішам яму. Абавязкова. Толькі пачакаць вам давядзецца. Пакуль разбяромся, пакуль пісьмо яго знойдзе. Пакуль успомніць...

— Пачакаю, пачакаю,— радасна заківала галавой Піліпіха.— Гэтулькі год чакала, цяпер ужо што... дзякуй табе, сынок. Разумны ты, далібог. Каму ні паказвала — смяюцца, кажуць, дзяцінішся ты, старая, розум свой пражыла, во і прыдумваеш абы-што. А я не прыдумваю. У мяне сэрца чуе: хоць ён і на другім канцы свету, Васька мой, хоць міністр там нейкі, а жывы. Ён гэта, ён. Дай табе бог здароўечка, Толік. Я картачку Васькаву прынясу. Сам паглядзіш.

— Я вам веру,— сумна сказаў Судакоў.— Не трэба. Гэта хай тут застанецца,— ён паклаў руку на часопіс.— Нам спатрэбіцца.

— Ага, хай,— старая ўстала з крэсла, нетаропка завязала хустку, узяла сумку.— Бывай здароў, дзетка. Калі што-небудзь прыйдзе ад Ваські, ты ўжо не паляднуйся, напрамілы бог цябе прашу, напішы мне ў Забалоцце. Макулькіна маё прозвішча, ці проста Піліпіха.

— Абавязкова, бабулька, абавязкова,— Судакоў выйшаў з-за стала, правёў старую да дзвярэй, адчыніў.— Я вас падвязу, добра? У мяне машына.

— Не-е, Забалоцце тут пад бокам. Кіламетра не будзе. Ды і не люблю я косці свае старыя трэсці. Дзякуй табе, дзетухна. Чыстая ў цябе душа.

Яна пайшла. Трэба было ісці і Судакову. І так затрымаўся. Але нешта яго трымала тут, у кабінеце, нешта ён не зрабіў... Ага, трэба шакаладку пакласці ў скрыначку з аўтаматам. Капітан дастаў з кішэні шакалад,

адчыніў скрыначку, памацаў рукой цацку, націснуў на жоўценькі курок.

— Чык-чык-чык,— дробненька заляпаў электрамеханізм, замігацела чырвоная лямпачка ля мушкі. Цацка! Добрая цацка. І раптам, як удар грому, зазвінеў тэлефон. Судакоў здрыгануўся ад нечаканасці.

— Слухаю, Судакоў...

— Гэта зноў Шамрук. Таварыш капітан, дык што, у гэтай старой сын сапраўды за мяжу ўцёк? А я думаў, што яна трохі таго...

— Вось што, Шамрук,— злосна прамовіў капітан.— Першае, чаму трэба навучыцца ў жыцці — гэта слухаць! Разумееце? Слухаць!

Судакоў заўважыў, што крычыць, і кінуў трубку на рычажкі. Дастаў цыгарэты, нервова закурыў, падышоў да акна. Піліпіха нетаропкай старэчай хадой брыла па вуліцы ўніз да моста. Высокае летняе сонца вісела над горадам. З пляцоўкі дзіцячага сада даносіўся вясёлы гармідар дзятвы. Вецер матляў папяровы змей, што зачапіўся за вершаліну таполі. Кружыліся галубы. І неба разразаў на дзве палавіны тонкі і прамы след рэактыўнага самалёта.

## Дуб

У яго нават прозвішча было смешнае — Жураўчык. Яно ўжо і прозвішчам не было, гучала насмешліва, як мянушка. Ды і лічылі яго аднавяскоўцы, як кажуць, «з ветрыкам у галаве». Маўклівы, цельпукаваты... Бывала, пасля работы (Жураўчык працаваў трактарыстам) ідзе за вёску на Лысы пагорак, садзіцца пад дубам і задуменна глядзіць на далёкі лес, што цямнее за парослым алешнікам ды лазняком Чарнічным балотам... Гадзіну можа сядзець, дзве. Пакуль сонца не схаваецца... Ці то марыць аб нечым, ці то сонца праводзіць — не зразумець... Спытай — ні слова, ні паўслова ў адказ не пачуеш. Толькі зірне проста ў вочы і ледзь прыкметна сумна ўсміхнецца. З прыхамацямі чалавек...

А звалі яго — Сяргеем. І не было ў яго ніякіх мух у галаве... Проста... Не, пра ўсё не скажаш! Жыў Сяргей, як пра гэта раней сказалі б, бабылём... Жыў у старэнькай хаце, што ад маці засталася... Маці даўно памерла, а бацька, пра гэта часта чуў Сяргей у маленстве, недзе «касіў сабакам сена»... Жаніцца б трэба было, ды Сяргей ужо раз быў жанаты. На вясковай бібліятэкарцы Соні... Яно не зразумець, ці то быў, ці не... У сельсавет не хадзілі і пражылі нядоўга... Усяго сем месяцаў шчасця! А потым Соня сабралася аднойчы, сабралася перад ім, не хаваючыся, і, нічога не сказаўшы, паехала... Студэнты тады бульбу ў саўгасе выбіралі... Адзін з іх усё хадзіў у бібліятэку кніжкі чытаць... І «дачытаўся»! Звёз Сяргееву жонку некуды пад Ленінград. Жураўчык нават і не развітаўся з Соняй... Потым пачуў ад

людзей, што як быццам бы сказала яна на аўтобусным прыпынку:

— Годзе! Не трэба мне яго «дубовага» кахання... Нажылася па самую завязку!

Аднавяскоўцы кпілі і здзекаваліся спачатку. Вось, маўляў, мужык — бабу ля сябе не ўтрымаў... А ці можна было? Кахаў — як кахалася. Хто яе ведае, якога яна кахання хацела — дубовага ці бярозавага... Даўно гэта было, але як узяло тады за сэрца, нібы абцугамі, так і трымае... То крыху адпусціць, памякчэе, то зноў так сцісне, так схопіць, так уп'ецца, што выць, крычаць і плакаць хочацца. За што ж так! Кахаў жа! Да болю, да туману ў галаве, да камякоў у горле... Бывала, прыйдзе з работы, абдыме, пацалуе ў пухнатую белую шчаку, і нешта такое падкоціцца з грудзей да горла, і нейкае радаснае шчымлівае замілаванне наплыве на ўсяго, закруціць так, што вочы макрэюць... Сказала б машыну купіць — у блін бы разбіўся, у нітку выцягнуўся, але купіў бы! Сэрца сваё ўласнае дастаў бы і сам падсмажыў... Паехала... Чаго? За што? Столькі гадоў ламаў галаву і не разумеў... А спытаць у яе не змог. Проста не ўмеў... Язык нібы прыклееены ў роце. Нібы чужы... Такія людзі, як Сяргей, вачыма размаўляюць... А вочы ў яго сапраўды незвычайныя... Вялікія, блакітныя, з доўгімі бялявымі вейкамі... І глядзяць, не баючыся, вочы ў вочы... Так глядзяць, што не па сабе робіцца... Страшна неяк... Сяргей ужо не раз заўважаў, што людзі адзін аднаму чамусьці толькі на нос глядзяць ці на лоб... Баяцца, ці што? А мо і таму, што ў абодва адразу не зазірнеш...

Апошнім аўтобусам Сяргей вяртаўся з «выраю». Гэта людзі так завуць яго частыя паездкі з вёскі... Сапраўды, дзіўна было... Працуе чалавек, месяц, другі, трэці... Потым тыдзень у самую гарачую пару адпрошваецца ў канторы на два-тры дні... Гэтыя дні ў час пасяўной ці жніва — нож у сэрца... Усё роўна! Навошта

гэты «водпуск» — Сяргей, забі, не скажа... А калі не адпусціш, дык «захварэе» і ўсё роўна з'едзе з вёскі. Куды — ніхто гэтага не ведаў. І не здагадваўся... Шмат ужо гадоў праляцела... Забыліся людзі пра няўдалае Сяргеева вяселле і пра яго жонку... Бы і не было той бялявай, круглатварай Соньκі ў вёсцы... Прыходзіў новы час, з ім новыя навіны, падзеі, клопаты... Пра іх гаварылі, іх абмяркоўвалі і — забывалі... Сяргей не забыў... Ні шчасця свайго, ні гора, ні болю... І гэты «вырай», як здзекліва называлі людзі, сапраўды быў выраем для яго сэрца, для яго самотнай душы. Сяргей ездзіў да Соні, да сваёй Соні... Жыла яна цяпер у невялікім горадзе, разам са сваім «студэнцікам», які ўжо даўно быў інжынерам... Дзяцей мела, работу... Ды і шчасце, пэўна, таксама... Забылася і пра вёску, і пра свайго былога мужа... Сяргеева цеплыня і пяшчота, мабыць, праплылі міма яе і нічым не зачапілі... Хто яго ведае, мо і не адна цеплыня грэе чалавека... Прыязджаў Сяргей у гэты гарадок, начаваў на вакзале, а ранкам, на досвітку, ішоў на ўскраіну новага мікрараёна, на кароткую вуліцу, што мела дзіўную назву Пятая лінія... На гэтай «лініі» дом дваццаць чатыры, кватэра — сорак першая... Яна там! Ён не ведаў, на якім паверсе гэта кватэра... Ды гэта і не трэба было... Садзіўся пад зялёны грыбок на дзіцячай пляцоўцы і чакаў. Чатыры разы ён бачыў Соню... Маладая жанчына выходзіла з сярэдняга пад'езда і, заўжды спяшаючыся (у вёсцы яна была нетаропкая і нікуды не спяшалася), бегла на канец вуліцы да аўтобуснага прыпынку. Аднойчы яны выходзілі разам. Ён і яна... Адзін раз толькі ён... Сяргей сядзеў ссутуліўшыся на вузкай дзіцячай лавачцы і, не зварухнуўшыся, глядзеў услед, пакуль было бачна... Потым, адчуваючы, што з сэрца нібы звалілася цяжкая цагліна, ішоў на вакзал купляць білет дадому..

Гэты раз ён не дачакаўся нікога. Прасядзеў увесь дзень, пераначаваў яшчэ адну ноч на вакзале, раніцой

зноў прываложся, зноў сядзеў... Людзей было шмат, але з сярэдняга пад'езда ніхто не выйшаў. Так і паехаў... На душы было цяжка... Стаміўся, хацелася спаць...

У аўтобусе, ужо перад самай вёскай, краем вуха пачуў навіну... У калгас прыехалі меліяратары, будуць асушаць Чарнічнае балота. Пра гэта гаварылі ўперадзе. Сяргей падняўся са свайго месца, падышоў... З горада ехала цётка Петрачыха, жонка пчаляра, што жыў на той жа вуліцы, дзе і Сяргей. Ён прывітаўся.

— Здароў, Жураўчык! — вышчарылася кабеціна.— Прыехаў? А то ўжо брыгадзір крые цябе ўздоўж і ўпоперак... Зноў, кажа, гэты пянёк задуменны ў вырай паляцеў, а трактар стаіць.

Яна размаўляла залішне гучным голасам. Так размаўляюць з дзецьмі, з глухімі ці з тымі, у каго «ветрык у галаве»... Сяргей разумеў гэта. І не крыўдаваў. Прывык. Пэўна, мазоль на душы з'явіўся...

— Што, балота асушаць збіраюцца? — запытаўся ён.

— Ну... Кругляшоў нейкіх чырвоных навезлі... Ваду высмоктваць... Кусты зааруць.

— А што з пагоркам будуць рабіць?

— Зраўняюць... Поле аж да лесу цяпер будзе...

— А дуб? — неяк прыцішана спытаўся Сяргей.

Вочы ў Петрачыхі па-маладому заіскрыліся... Яна была ў гуморы. Захацелася кабеціне пажартаваць. І пажартавала.

— Спілуюць,— Петрачыха сагнала з твару ўсмешку, уздыхнула: — Шукай сабе іншае месца, каб на вечаровае сонейка любавацца... Спляжаць твой дуб.

— Яму ж трыста гадоў! — усхвалявана прамовіў Сяргей.

— Такой бяды! Трактарамі зачэпяць і — вобзем!

Сваячка Петрачыхі, сухая вастраносая цётка, што працавала пры калгаснай сталоўцы, таксама сказала з задавальненнем:

— Хоць камароў не будзе. А то вунь вясной хмарамі, хмарамі адтуль... Як у Сібіры... — І, ужо не зважаючы на Сяргея, звярнулася да Петрачыхі: — Ці чула ж ты? Аксіннін сын зноў сваю мымру гарадскую прывёз. І што дзеецца на свеце! Кажуць, пяты раз вяселле гуляць будуць... Ашалелі людзі!

— Ай, што ты ад цяперашняй маладзёжы хочаш? Яны ўсе... — з разумным выглядам зазначыла Петрачыха і неяк шматзначна зірнула на Сяргея.

Калі ж ён адышоў, зашапталі. Сваячка разы са два азірнулася на яго. Сяргей прытуліўся шчакой да халоднага чорнага шкла. За акенцамі мільгалі цёмныя сілуэты таполяў, што раслі ўздоўж шашы, на даляглядзе жоўтым святлом ззялі суседнія вёскі... «Не,— падумалася Сяргею,— жыццё іншым разам зверам глядзіць на чалавека... От ужо і да дуба дабралася. Да яго дуба».

Сяргей зноў падышоў да цётак. Яны адразу ж змоўклі, ніякавата ўперыліся на яго... Ясна, пра што гаварылі.

— Ён яшчэ стаіць?

Петрачыха зарагатала першая, за ёй сваячка.

— Што стаіць? Што?

— Дуб, дуб на лысым пагорку,— не разумеючы, што смешнага сказаў, растлумачыў Сяргей.

— А-а-а, дубок... Цэлы, цэлы... Збегай сёння пасядзі яшчэ. Заўтра яго асушаць будуць,— зноў пажартавала Петрачыха і засмяялася.

Сказала ж... Раз балота асушаюць — значыць, і дуб будуць асушаць.

Калі пад'язджалі да вёскі, Сяргей прыліп да акенца... Толькі тады крыху супакоіўся, калі ўгледзеў на цёмна-сінім вечаровым небе шырокую крону.

У хату ён забег на хвіліну, каб пакінуць там чамаданчык, з якім ездзіў. Зайшоў, уключыў святло... Няўтульна. Чалавечае жытло, калі яго пакінуць хоць на кароткі час, нешта такое губляе... Быццам робіцца чужым

і незнаёмым... Не выключаючы святла, ён замкнуў хату і пайшоў да брыгадзіра.

Той сустрэў яго маўклівым і сярдзітым позіркам.

— Ну што? Яшчэ дзён на пяць хочаш сачкануць у вырай? — ён прыжмурыў вочы.— Слухай, Сяргей, едзь ты зусім... Не ві з маіх нерваў вяроўкі...

— Заўтра я выйду... Усё. З'ездзіў.

— Ну, ну...

— Па справе я... Кажуць, што меліяратары ўжо і да нас дабраліся. Дык во я...

— Правільна, Сярожа... У кантору — заяву і газуй за доўгім рублём.

Сяргей доўга глядзеў у вочы брыгадзіра. Той нават паклаў на стол лыжку. Ён вячэраў. Дзіўна, падумалася Сяргею, чаму ж другіх людзей слухаюць, а яго не... Тымі ж словамі гаворыць, той жа мовай... І ўсё ўпустую, як пугай па вадзе...

— Я цябе прашу, Рыгоравіч,— сапраўды шчыра папрасіў ён.— Паслухай мяне... Дай два словы сказаць...

— Ну, ну... Давай.

— Чуў я, што Лысы пагорак гэтыя меліяратары раўняць збіраюцца... Значыць, і дуб пад корань...

— Я не ведаю,— кінуў абыякава брыгадзір.

— Дуб той хай бы стаяў. Ён жа... — Цяжка, ой як цяжка яму было гаварыць тое, што хацелася... І ён не сказаў. Сказаў іншае: — Ён жа незвычайны дуб... Пад ім Напалеон начаваў...

Брыгадзір выпусціў з рук лусту хлеба.

— Што-о-о? Які Напалеон?

— Банапарт... Праўда... Калі з Масквы даваў лататы, тут і начаваў...

— Ты ў яго ў ардынарцах хадзіў? Адкуль ты ведаеш?

— Маці казала, а ёй — яе маці, бабка мая, значыць...

— А той — яе бабка,— з'едліва дадаў брыгадзір.— Твая прабабка, значыць... А мой дзед Адам біў сябе абодвума кулакамі ў грудзі і бажыўся, што сустрэў у Чарнічным балоце жывога чорта і трыма чарцянятамі... І закурыць у іх прасіў... Кажы, чаго прыйшоў?

Сяргей, падумаўшы, ціха папрасіў:

— Схадзі ты да іх заўтра і скажы: так і так, не рушце дрэва... Гэта ж наша зямля, калгасная... Забарані...

— Сам схадзі і забарані, калі трэба...

— Мяне яны пашлюць... — цепнуў плячыма Сяргей.

— І мяне пашлюць.

— Мяне далей,— сумна прамовіў Сяргей.— Ну дзе ж гэта бачна! Трыста гадоў стаяў, усе навальніцы, усе буры вытрымаў, усе войны перажыў, а тут — рраз і гатова! Колькі ён там месца займае... Тры соткі... Цьфу!..

Брыгадзіру ўжо надакучыла гаворка.

— З трох сотак, Сярожа, некалькі мяхоў бульбы бывае... Смешна, далібог... Напалеона прыляпіў...

— Я даказаць магу! — усхвалявана прыціснуў руку да грудзей Жураўчык.

Брыгадзір журботна ўздыхнуў.

— Твой Воўка дома?

— Валодзя! — гукнуў брыгадзір.

З другога пакоя выйшаў брыгадзіраў сын — шасцікласнік.

— Воўка, атлас у цябе ёсць? Па Еўропе каторы...

— Ёсць недзе.

— Прынясі.

Шасцікласнік прынёс атлас. Сяргей разгарнуў яго, паклаў на стол і правёў пальцам ад Масквы да Парыжа...

— Вось так ён даваў драпака... Во, зірні. Акурат цераз нашу вобласць. Тут во на яго шляху і былі нашы

Шатры... Ды і вёска ж завецца не Калінаўка-Малінаўка якая-небудзь, а Шат-ры... Тут, значыць, быў іх лагер... Гістарычны факт...

Брыгадзір узяўся рукой за лоб і, стрымліваючыся яшчэ, спакойна сказаў:

— Ты, Сярожа, пэўна, заездзіўся за гэты год... Ідзі выспіся... А то вунь вочы, як у алкаголіка пасля запою... Заўтра зранку па камбікармы ў раён...

Не, не пераканаць яму брыгадзіра... Чорт ведае што! На Напалеона, на самога Напалеона, перад якім увесь свет дрыжаў і які ўцякаў праз Шатры... Уцякаў! На яго нуль увагі... Калі б хто іншы сказаў, дык мо штонебудзь бы і атрымалася. А раз ён...

— Ну дык сходзіш? — усё ж з надзеяй спытаў Сяргей.

Цярпенне ў брыгадзіра лопнула.

— Ды ідзі ты! — выгукнуў ён.— Што я, ненармальны? Сарамаціцца пайду... Даўся яму дуб у знакі...

— Прыгожа ж...

— Усё прыгожа! І балота, і арэшнік, і кусты... Трэба, значыць... Думаеш, усе дурнейшыя за цябе? Пэўна, іначай нельга! Не на дровы ж яго... Прычапіўся...

— Гэта помнік,— сказаў, як яму здавалася, самае важнае Сяргей.— Сам Напалеон...

— Хто ён табе, гэты Напалеон? — ужо раздражнёна і са злосцю ў голасе спытаў брыгадзір.— Брат? Сват? Калі б яго павесілі на гэтым дубе — іншая справа...

Сяргей выйшаў... Ну нельга ж так! Трэба нешта рабіць... Пайшоў да дырэктара школы за дапамогай... Той паехаў на нараду нейкую... На тры дні... Пачакаць? А калі яго заўтра сапраўды трактарамі зачэпяць і...

— Не! — пагразіў некаму ў цемру Сяргей.— Я вам

пакажу! Я вам зраблю! Шапкі перад гэтым дрэвам скідаць будзеце... Разумнічкі без ветру ў галаве...

Ён прыбег дадому. У кладоўцы адшукаў нажоўку і зубіла... Трэба было яшчэ кавалак тоўстай бляхі... Дзе ж яе знайсці? Сяргей перарыў усё ў кладоўцы, схадзіў у пуньку, у хлеў, злазіў на гарышча... Нічога здатнага для задуманай справы пад руку не трапіла... Прыбег у хату. Ля загнета ён угледзеў старую, закапцелую засланку. Тое, што і трэба! Сяргей схапіў яе, паклаў на крэсла і, адчуваючы ў руках дзікую сілу, пачаў разразаць напалам. Чорта лысага! Не аддасць ён гэты дуб нікому! Хай пад ім не толькі Напалеон, а нават конюх Патап ніколі не начаваў, але гэта яго дуб... Яго ўспамін, яго... мо ўсё яго жыццё, усё яго горкае шчасце... На засланцы гадамі збіралася чорная сажа. Сяргей выпацкаўся, як чорт, пакуль выразаў з яе акуратны чатырохкутнік... Потым доўга адціраў яе, чысціў... Спачатку нажом, потым наждачкай, анучай, зноў наждачкай... У яго было мала часу... Толькі адна ноч! Да раніцы ўсё павінна быць гатова... Да раніцы! Інакш будзе позна... Ён працаваў над гэтым кавалкам жалеза з нейкай нервовай напругай. Нават рукі дрыжалі... З хваляваннем пазіраў на гадзіннік. Час ляцеў... Калі вокны з чорных зрабіліся шэрымі, а потым пасінелымі, калі па вёсцы, перакрываючы адзін аднаго, загаласілі пеўні, Сяргей выцер рукавом кашулі вільготны лоб, гэтым жа рукавом працёр ужо бліскучы чатырохкутнік, паставіў яго на стол, прытуліўшы да тэлевізара. Адышоўся, схіліў галаву і доўга глядзеў на сваю работу. На гэтай мемарыяльнай дошцы, зробленай з засланкі, красаваўся строгі афіцыйны тэкст:

СТАРАЖЫТНЫ ДУБ.<br>ТУТ У 1812 ГОДЗЕ НАЧАВАЎ СА СВАІМІ<br>НЕДАБІТКАМІ Б. НАПАЛЕОН, КАЛІ МАТАЎ<br>З МАСКВЫ АД НАШЫХ.

Ахоўваецца дзяржавай.

Сяргей трохі падумаў, узяў зубіла і пасля «ахоўваецца дзяржавай» дапісаў: «І ўрадам». Пасля высек вакол гэтых слоў прыгожую рамачку і ў кожным рагу пракруціў дзірачкі для цвікоў... Вымыў рукі, апрануўся, узяў малаток, чатыры самыя вялікія, якія толькі знайшоў, цвікі і, схаваўшы пад крысо ватоўкі «мемарыяльную дошку», подбегам паляцеў за вёску на Лысы пагорак. Была ціхая раніца. Па лагчынах шызы туман... Крычалі... Не, спявалі салаўі ў кустах... Хто іх ведае, пра што яны спяваюць у сваіх песнях... Пра шчасце ці пра гора... Ды не, проста спяваюць. Хораша, цудоўна. Аж нешта на душы робіцца. Быццам лёгкі-лёгкі ветрык падзьмуў там... Лета ж... Іх пара. Хай і высвістваюць, покуль ёсць калі... «Соня, Соня... У водпуску, напэўна»,— раптам мільганула радасная здагадка. Ну вядома! Таму нікога і не было два дні... Проста ў адпачынку... Мо на мора паехалі... Ці да яго бацькоў... Вернуцца... Праз месяц вернуцца...

Дахаты Сяргей ішоў радасны і задаволены. Вёска ўжо прачнулася... Гаспадыні выганялі на паранак кароў... Цёмныя кропелькі расы ляжалі на пыльнай дарозе... Цудоўнае было ранне!

— Здароў, Жураўчык,— віталіся з ім.— Зноў ля дуба начаваў...

— Начаваў...— усміхнуўся Сяргей.— Там нейкія дзядзькі з партфелямі ходзяць... З горада... Кажуць, са сталіцы прыехалі... Будуць нешта рабіць...

— Грыбы шукаць, што ж яшчэ? — адказалі яму.

У хаце Сяргей згатаваў сабе снеданне, падсілкаваўся, трохі паляжаў на канапе і пачаў збірацца на працу... Спаць не хацелася, хаця не спаў ён ужо трэцюю ноч запар.

Праз дзень у сіні вагончык меліяратараў, што стаяў за вёскай ля ракі, зайшоў брыгадзір:

— Хто ў вас тут за старшага?

Яму паказалі на танклявага юнака ў чырвонай футболцы.

— Дык ты, значыць, за камандуючага... Здароў... Я брыгадзір... З гэтай вёскі. Паўлюкоў маё прозвішча...

— Вельмі прыемна... Фамін,— пацiснулі адзін аднаму рукі.

— Кажуць, што наша балота збіраецеся асушаць?

— Ды не збіраемся... Асушаем ужо.

— Дык вось,— брыгадзір гаварыў нетаропка, але з нейкім хваляваннем, выказваючы гэтым няўпэўненасць.— Балота асушайце, а дуб, што вунь на пагорку, не чапайце. Не трэба яго пілаваць...

Хлапец здзіўлена азірнуўся на сваіх таварышаў.

— А яго ніхто і не збіраўся пілаваць... Вы што? Гэткі прыгажун! Уяўляеце, на месцы былога балота будзе жытнёвае поле... Ро-оўненькае... А пасярэдзіне — гэты разгалісты дуб... Як у Шышкіна.

— У Шышкіна сосны,— сказаў нехта.

— Усё роўна.

Брыгадзір збянтэжана глядзеў на меліяратараў.

— Хай яго...— але схамянуўся і сказаў сам сабе: — Чаго ж ён...— і змоўк.

— Што? — не зразумеў танклявы.

— Нічога,— брыгадзір павярнуўся, патупаў да дзвярэй. Спыніўся, уздыхнуў: — І вось што, хлопцы. Калі можна, вы сёння пасля абеду свае машыны не заводзьце... Кладзішча побач, а ў нас хаўтуры ў вёсцы... Трактарыст разбіўся...

— Як?

— З моста і на каменне,— уздыхнуў брыгадзір.

— Малады?

— Не сказаць каб малады, але і не стары...

— А гэта... выпадкова ці пад градусам? — зацікавіўся хлапец.

— Чорт яго ведае! — з горыччу сказаў брыгадзір.— Дзівак быў... Усё ездзіў некуды... Праз месяц, праз

два... Работу кіне, на аўтобус і гайда... Во і даездзіўся! Не выспаўся з дарогі, а на работу прывалокся... Задрамаў, мабыць, на трактары...

— Та-ак...

— Дык калі можна...

— Канешне, канешне... Пра што гаварыць?

Гэты заржавелы чатырохкутнік і цяпер вісіць на дубе... Літар ужо не відно... Ранішняя раса ды дажджы зрабілі сваё. «Мемарыяльная дошка» пакрылася рыжай скарынкай. Ніхто не ведае, навошта, хто і калі прыбіў гэту жалязку да дрэва... Як ніхто не ведае, што пад гэтым дубам Сяргей Жураўчык першы раз пацалаваў сваю каханую.

## Лапці

Паснедаўшы, дзед Восіп сеў слухаць радыё. Зняў са сцяны старэнькі, аблезлы дынамік, паставіў яго на падаконнік, падсунуў табурэтку бліжэй да акна і, скруціўшы тоўстую, з палец, цыгарку, закурыў.

— Ну, давай, злухці чаго-небудзь,— паблажліва дазволіў ён і ўключыў дынамік.

Радыё паслухмяна стала расказваць, што робіцца ў свеце.

— Зноў ужо цмыгалку ў рот усунуў,— буркнула, збіраючы са стала посуд, яшчэ жвавая бабка Каця.— Цэлую ноч як у бочку бухае, а потым увесь дзень дыміць і дыміць...

— Хадзі і ты закуры, калі прыспічыла,— азваўся дзед, хукнуўшы на дынамік воблакам шызага дыму.

— Ужо ўвесь чыста лазняй пахнеш,— з дакорам, незадаволена сказала бабка.

— А ты не нюхай мяне... Старая ўжо, а ўсё нюхаеш.

— Божухна! Як скажа, хоць піць прасі...

Тут радыё нешта сказала пра дэмакратыю. Дзед праслухаў і раззлаваўся.

— От баба! Не дасць разумных людзей паслухаць. Квохча і квохча над вухам... Пра дэмакратыю гаварылі, а ты...

— Пра што-о? — з'едліва зморшчыла нос бабка.

— Дэ-ма-кра-тыю...

— Як быццам ён нешта разумее...

— Маўчы. Тут і разумець няма чаго,— падняў галаву Восіп.— Усё ідзе не зверху ўніз, а знізу ўверх. Закон.

— Штой-та ты пляцеш? — нічога не зразумела старая.

— Ты вунь свінням есці давай — і ўся твая дэмакратыя.

Бабка яшчэ раз буркнула і выйшла ў сенцы. Дзед, нешта вырашаючы, пасядзеў нерухома на табурэтцы, затым, асветлены нейкай радаснай здагадкай, шпурнуў у загнет недакурак і палез у шафу шукаць свае «парадныя» штаны.

— Кацярына! — гукнуў ён.— Хадзі-ка сюды.

— Слухай ты сам сваю дэмакратыю,— азвалася з сенцаў бабка.

— Хадзі, табе кажуць.

— Адчапіся...

— Кацярына! Я ж і сердаваць умею,— пагразіў дзед, грукнуўшы кулаком па шафе.

Бабка ўвайшла.

— Ну чаго табе? Умее ён...

Дзед Восіп таропка надзяваў новыя галіфэ.

— Куды гэта ты вырадзіўся? — спытала старая.— Ці не ў сваты?

— Я ў сваты адзін раз у маладосці схадзіў па дурноце сваёй... Да цябе. Давай траячку.

— Нашто?

— Паеду скардзіцца.

— Куды? — здзівілася бабка Каця.

— Куды, куды... У горад. Я яму, гэтаму Коўзелю,— знізу ўверх! Будзе ведаць... Ну, хутчэй, а то на першы рэйс спазнюся.

Старая з роспачным дакорам паківала галавой.

— На старшыню ён скардзіцца паедзе... Вой, смяхоцце! З-за лапцей! Не дурэй ты, чалавеча. Там цябе і слухаць не будуць...

— Давай грошы і не пыхці.

— Няма во чаго рабіць, дык усё выдумляе, выдумляе нейкія штучкі... Не адно, дык другое. І калі ты ўжо супакоішся?

— Во на пагорак за вёскай мяне завязеш і — гамон. Буду ціхі-ціхі, надта спакойны... Як і ты. Ну, ты глядзі! Звальваюцца штаны, хоць плач... І косці ўжо сохнуць... Ну чаго ты стаіш як укопаная?

Бабка, тужліва ўздыхнуўшы, палезла пад ложак і доўга адтуль не паказвалася.

— Во захавала, што і сама не знойдзе,— абуваючы боты, весела ўсміхнуўся дзед.— Чаго чалавек над грашыма так трасецца? Далібог, здароўе сваё так не беражэ, як гэтыя замусоленыя паперкі... Гэй, капіталістка! Можа, нашымі пенсіямі ўжо мышы паснедалі? Кажуць, што яны да грошай вельмі ласыя...

Спахмурнелая і сярдзітая бабка сунула яму тры рублі.

— На! Стары, як малы... Ляжаў бы лепей на печы... Вечна яму нешта трэба...

— Ну завялася, завялася... Ужо захварэла з-за трох рублёў! Бяда ў хату прыйшла! Пачакай трохі, я во паеду, а ты садзіся насупраць майго партрэта і хоць да самага вечара маралі чытай...

Дзед схадзіў у кладоўку і выбраў там самыя лепшыя лапці. Запіхнуў іх у кішэні штаноў, пастаяў, трохі падумаў, потым дастаў з-за партрэта юбілейную медаль, начапіў яе на пінжак, выйшаў з хаты і, накульгваючы, таропка падаўся да аўтобуснага прыпынку.

— Восіп! — выбегшы на ганак з дзедавым доўгім плашчом, гукнула бабка Каця.— Холадна ж, апраніся.

— Няма калі! — адмахнуўся дзед.

Праз гадзіну ён быў ужо ў горадзе. У буфеце на аўтобуснай станцыі выпіў «для храбрасці» дзве бутэлькі піва і пайшоў у цэнтр горада да будынка райкома. Дарогай ён усё абдумаў і цвёрда ведаў, што і як казаць.

Пастаяўшы ў нерашучасці колькі часу перад велізарным шкляным будынкам у гарадскім парку, дзед пакурыў і, сказаўшы самому сабе: «Усё знізу ўверх!» — шпарка пашыбаваў да шырокага ганка.

— А якая ў вас справа да сакратара? — з абыякава-незалежным выглядам спытала прыгожая, маладзенькая сакратарка, што ляпала ў прыёмным пакоі на машынцы.

— Справа? — сумеўшыся, перапытаў дзед.— Ну, вядома, якая... Важная... Удоўж і ўпоперак важная...

— Сакратар заняты... Раскажыце мне коратка.— Сакратарка яшчэ ані разу не зірнула на дзеда. Той нават пакрыўдзіўся.

— А табе навошта?

— Як гэта?

— А от так... А можа, у мяне што сакрэтнае...

Дзяўчына зняважліва кінула позірк на дзедавы галіфэ. Той гэта заўважыў.

— Што, не падабаюцца? — натапырыўшыся, спытаў ён.

Сакратарка нічога не сказала, а толькі скрывіла рот.

— А ты не глядзі,— спакойна параіў ёй дзед Восіп.— Мне таксама не вялікая радасць на твае голыя калені глядзець, а я — нічога...

Сакратарка ўспыхнула і паправіла кароткую спаднічку пад сталом. Потым узяла нейкія паперы і асцярожна адчыніла пузатыя карычневыя дзверы. Знікла за імі, нічога не сказаўшы дзеду.

«А во вазьму і за ёй следам,— падумаў стары.— А што? Мо ён і не заняты зусім...»

Дзед прачыніў дзверы і, усунуўшы ў кабінет сівую галаву, ніякавата кашлянуў:

— Кгым! Здароўце... Мне трэба...

Чарнявы мужчына, што сядзеў перад доўгім сталом, азірнуўся і, кальнуўшы дзеда Восіпа вузкімі вочкамі, строга загадаў:

— Зачыніце дзверы.

— А што, скразняк? — проста спытаўся ў яго дзед Восіп.— Дык я зачыню.

Ён увайшоў у кабінет. Прыгожы малады хлапец у скураным пінжаку, што сядзеў насупраць чарнявага, ціха засмяяўся.

— Зіна...— як за дапамогай, звярнуўся да сакратаркі чарнявы.

— Я прашу вас!..— са злоснай ветлівасцю звярнулася да дзеда дзяўчына.

Стары ўздыхнуў.

— Ладна ўжо, не прасі,— сказаў ён.— Сам як-небудзь выйду.

Дзед вярнуўся ў прыёмную і хацеў пайсці прэч.

«Калі гэты чарнявы — сакратар, дык справа швах... І слухаць не стане... З такімі толькі каменне варочаць...»

Выйшла сакратарка. Абурана зірнуўшы на дзеда, яна як бы сама сабе ціха прамовіла:

— Сумленне трэба мець... Гэта вам не вёска.

Дзеда Восіпа як пугай сцебанулі.

— А што табе вёска — солі ў вочы насыпала? Вёска! Ці даўно сама адтуль?

Дзяўчына гэтага як і не пачула.

Стары моўчкі сеў на крэсла ля дзвярэй і пачаў чакаць. Хвілін праз пяць чарнявы і хлапец у скураным пінжаку выйшлі з кабінета.

— Не, не, Віктар Іванавіч, пачакаем,— працягваючы размову, сказаў хлапец.— Такую справу — адным махам рашаць рызыкоўна. Тут, самі разумееце, і дроў наламаць можна... Трэба падумаць... Зіна, калі будуць пытацца ці званіць, скажыце, што я ў начальніка міліцыі...

— Добра, Алег Сцяпанавіч,— ветлівым галаском прамовіла сакратарка.

«Во, цытра! — падумаў пра яе дзед.— Перад начальствам такая ўжо мяккая, хоць ты да раны прыкладай... А сакратар малады, зялёны... Скажа зараз, што заняты... што за жыццё такое? Усе заняты».

Дзед падняўся з крэсла. Сакратар паглядзеў на яго.

— Ах, так... Я зусім забыўся... Віктар Іванавіч, я на пару хвілін затрымаюся. Пачакайце мяне, калі ласка...

Чарнявы нічога не адказаў, але было відаць, што вельмі незадаволены. Зірнуўшы на дзеда спадылба, ён кіўнуў і выйшаў.

— Дзень добры,— сакратар падаў старому руку.— Што ў вас да мяне?

Дзед Восіп крэкнуў і зірнуў на сакратарку. Сакратар перахапіў яго позірк і адчыніў дзверы кабінета.

— Заходзьце, калі ласка.

Сакратар запрасіў яго сесці.

— Слухаю вас.

— Што гэта за певень тут сядзеў? — спытаўся ў яго дзед Восіп.

— Гэта не певень, гэта пракурор.

«А ёлкі-палкі! — спужаўся дзед.— Во сказануў дык сказануў...»

Але адступаць яму ўжо было ніякавата, і ён тым жа тонам выказаў здагадку:

— Пэўна, з жонкай дрэнна жыве.

— Чаму вы так думаеце?

— У яго ж вочы, бы дзве пчаліны. Як зірне — жыць не хочацца...

Сакратар засмяяўся.

— Ды не, ён нежанаты.

— Ну, дык хай жэніцца. Парай яму... Можа, баба добрая трапіцца, дык і ён каля яе падабрэе... А то ж холадна робіцца, гледзячы на яго.

— Вы мне даруйце, я спяшаюся... Што ў вас?

Дзед устаў з крэсла, прама і адкрыта спытаўся:

— Во скажыце мне такую штуку: у нашай краіне лапці плесці можна ці не?

— Што, што? — не зразумеў сакратар.— Лапці?

— Ну.

Сакратар хітравата прыжмурыўся.

— Гледзячы якія лапці...

— Самыя звычайныя. З лыка. Добрыя лапці... Насіць, канешне, іх ніхто не будзе... Не! Насіць нельга. А во сплесці так, для прыгажосці, можна? Во такія во...

Дзед палез у кішэні галіфэ, дастаў з кожнай па адпаму лапцю.

— Лапцейкі як на заказ... Хоць на выстаўку. Праўда?

Ён аддаў іх сакратару. Той неяк вельмі ўжо беражліва ўзяў іх, пакруціў у руках, асцярожна сагнуў.

— Гм... Глядзі ты, скрыпяць...

— А то як жа? Як і боты.

— А чаму яны рознакаляровыя? — весела спытаў сакратар.

— Дык то парадныя лапці... Гэта мой бацька прыдумаў... На вяселле там ці ў свята во такія во абувалі... Гэта толькі ў нас і рабілася... У нашай вёсцы.

— Вы іх зверху фарбуеце?

— Э не-е... Гэта, калі лыка вымочваеш, трэба чарніла падліць — і атрымаецца: лыка чырвонае, лыка сіняе, а белае можна і так, без фарбы...

— Ну, ну... Зразумела.

— Спадабаліся?

— Вельмі добрыя лапці. Вы, можа б, пакінулі мне іх?

Дзед трохі памаўчаў, падумаў, а потым сказаў:

— Давай тры рублі. Не сярдуй, канешне, але гэта мне яшчэ бацька ў дзяцінстве загадаў: у нас, кажа,

Восіп, у родзе лапцюжны талент... А за талент заўжды плоцяць... Так што...

— Добра, добра.

Сакратар падышоў да доўгай шкляной шафы, дзе стаялі металічны зубр, празрыстая ракета, відаць, са шкла, маленькі грузавік, такі ж маленькі карабель і безліч дыпломаў і чырвоных грамат. Адсунуўшы ўбок зубра, сакратар паставіў побач з ім парадныя лапці.

Дзед Восіп, надта горды тым, што сакратар паставіў яго, дзедавы, лапці ў сябе ў кабінеце, ужо шкадаваў, што папрасіў у яго гэту траячку.

— Вось, калі ласка,— сакратар падаў яму пяць рублёў.

— Не,— катэгарычна адмовіўся дзед.— Лішняга ніколі не браў. Толькі тое, што трэба...

— Ды ладна, што там гаварыць. Бярыце.

— Не, не, і не думай, не вазьму. Давай тры рублі.

— Ну, няма трох. Што ж рабіць?

— Бяры ў доўг.

— Лапці ды яшчэ ў доўг,— засмяяўся сакратар.— Ці не занадта гэта для мяне.

— Пяць не вазьму,— яшчэ раз паўтарыў дзед Восіп.

Хлапец уздыхнуў, адчыніў дзверы кабінета.

— Зіна, у вас ёсць тры рублі?

— Ёсць,— азвалася дзяўчына.

— Пазычце, калі ласка.

— Вось,— здзіўленая сакратарка ўвайшла ў кабінет.

— Дзякуй,— сказаў сакратар і, счакаўшы, калі яна выйдзе, аддаў грошы дзеду.— Таксама дзякуй.

— Ды няма за што,— з залішняй абыякавасцю, хаваючы сваё задавальненне і радасць, адказаў дзед Восіп.

— Ну дык што, усё? — спытаў яго сакратар.

— Значыць,— з палёгкай уздыхнуў дзед.— Як я зразумеў, то можна іх плесці. Так?

— Ну, а чаму ж не? — пацiснуў плячыма сакратар.

Дзед Восіп паглядзеў насцярожана на сакратара, а потым прыцішана спытаўся:

— А гэта... не пасадзяць?

Сакратар спахмурнеў, бы ўсё адно тое, што сказаў стары, датычылася менавіта яго.

— Што гэта вы? — нават нечым абураны, спытаў ён.— Жартуеце, ці што?

— Ага,— забубніў дзед.— Гэта, можа, вам весела, а мне не да жартаў... Наш Коўзель да мяне прычапіўся як смала. Ты, кажа, аўтарытэт нашай дзяржавы падрываеш... Вы падумайце! Быццам бы мне рабіць больш няма чаго, а толькі аўтарытэт гэты падрываць.

— Вы з Вежак? — спытаўся сакратар.

— Ну,— здзівіўся яго здагадлівасці дзед.— А Коўзель наш старшыня сельсавета.

— Я ведаю. Ну дык чаго ж ён на вас гэтак?

— Ды ўся трасца з-за гэтых лапцей разгарэлася. Я раней вартаўніком у сельпо працаваў... Ну, а з паўгода назад нейкага аўтаматычнага вартаўніка прыдумалі і паставілі... А я застаўся. Без справы сядзець — дык душа забаліць, ну і пачаў я плесці лапці... Гэта яшчэ ад бацькі ў мяне, а бацьку дзед вучыў... У нас ва ўсіх лапцюжны талент. Ну сплёў, значыць, пары чатыры і на станцыю, да цягнікоў... Што вы думаеце? Ледзьве з рукамі не адарвалі... Па тры рублі, як і з вас, за пару ўзяў... Праўда, і лапці, даруйце, лепей за іншыя боты былі... Не на скорую руку, а ўсё як трэба. І лыка добрае, і работы шмат укладзена. Пачаў я новыя плесці... Ну, а нашаму Коўзелю нехта шапнуў — ён за мяне і ўзяўся... Ты, кажа, наш раён да палітычнага скандалу давесці можаш... Паўз станцыю і з-за мяжы цягнікі ідуць! Гэтыя кудлатыя турысты яшчэ падумаюць, што ў нашай краіне людзі ў лапцях хо-

дзяць... Яшчэ сфатаграфуюць, надрукуюць... Адным словам, страху наганяў на мяне як толькі мог... Я яму кажу: няўжо гэтыя турысты такія заўзятыя дурні, каб падумаць такое? А ён: яны знарок напішуць, каб нам насаліць... Я кажу, хай пішуць, хай пішуць, гэткай бяды, хоць пасмяёмся ад душы... А ён тады: мы, кажа, анічога лішняга не павінны рабіць, каб там, гэта за мяжой, благога пра нас не падумалі... Ці чуеце вы? Гэта значыць, мы перад імі павінны лістам слацца, са скуры вылузвацца, каб жа толькі яны якую-небудзь поскудзь пра нас не падумалі і не напісалі. Цьфу! За ўсё сваё жыццё гэткай недарэчнай лухты не чуў... Па-мойму, хай гавораць, каб ім скуллё на язык. Праўда? Для іх мы жывём, ці што?

— Сапраўды,— весела засмяяўся сакратар.

— Калі ж так разважаць, то выходзіць, у нас і ланцужок які-небудзь страшна паказаць гэтым турыстам...

— Чаму?

— Ну як жа... Узбрыдзе там якому-небудзь дурню ў галаву, возьме дый напіша, што ў нас кайданы робяць... Таксама ж гэты... як яго?.. палітычны скандал...— дзед Восіп злосна ўсміхнуўся.

Сакратар быў сур'ёзны.

— Ну добра, дзеду... Мне ўсё зразумела. Скажыце Коўзелю, што робіце сувеніры. А гэта справа добрая, ён зразумее.

— Ці ж я не казаў? Казаў жа, што так, для прыгажосці, як на памяць... А ён: рабі, кажа, во такія во, з мезенец, каб нават дзіцяці не ўзлезлі, тады нічога, а так...— стары азірнуўся на дзверы і даверліва паведаміў: — Ён, ведаеце, у нас трохі чокнуты... У мінулым годзе ўсё лета супраць галубоў ваяваў. Як кітаец, чэснае слова... Убіў сабе ў галаву, што яны наш калгас аб'ядаюць... Усю вясковую дзятву на гэта падбухторыў і сам кожны вечар з ружжа бабахаў... Цэлая вайна

была! Гэтых бедных птушак сотні паўтары ўходалі... Хлапчукі адзін перад адным выхваляліся: хто, значыць, болей забіў... І ведаеце, да чаго дайшло? Маёй меншай дачкі сынуля, во такі во шкет, год як толькі гаварыць пачаў, просіць мяне: «Дзедзя, згабі гыгатку мне». Рагатку, значыць... Нашто, пытаюся. «Галубоў біць буду». Падумайце! Палову тузіна ўсяго слоў ведае, а адно з іх ужо — «біць»... Ну з'елі б яны за лета паўпуда зерня ўсёй сваёй грамадой... Падумаеш, гэткая страта! Раз іх бог стварыў... кгым, кгым... Ну не бог, дык, гэта... прырода, адным словам, значыць, трэба так... Нейкае месца ў гэтым свеце ім адведзена...

Сакратар уважліва слухаў дзеда, раз-пораз згодліва ківаючы галавой.

«Разумны хлопец... Малады, а ўжо з галавой... З людзьмі ён будзе жыць»,— адзначыў дзед, скончыўшы свой расказ.

— Ну, добра, Восіп... э-э-э, даруйце, не ведаю, як далей...

— Аўхімавіч,— кіўнуў галавой дзед.— Восіп Аўхімавіч.

— Добра, Восіп Аўхімавіч... Я пазваню да вас у Вежкі і перагавару з Коўзелем... Ён трохі перагнуў. Абавязкова пазваню.

Дзед Восіп развітаўся, шчыра падзякаваў за ўвагу і пайшоў. Адчыніўшы дзверы, ён затрымаўся на момант і шэптам папрасіў:

— А будзеш званіць, скажы: не абувай ты, старшыня, курыцу ў лапці. Так і скажы: Коўзель, не абувай курыцу ў лапці,— дзед весела падміргнуў, хітравата ўсміхнуўся і зачыніў дзверы кабінета.

# Абразок

У Міколы Кісялёва — Кісляціны, як яго клікалі ў вёсцы,— памерла старэнькая маці. Аджыла сваё і памерла. «Дай бог усім столькі пражыць»,— гаварылі пра 90-гадовую Матруну на хаўтурах і ўсё ж шкадавалі... Ну, яно зразумела, што аджыла, што старэйшыя сыны дзядамі сталі, што праўнукі ўжо ў школу пайшлі, і ўсё ж неяк не так... Быў чалавек у вёсцы, здаецца, заўжды, усе яго бачылі, сустракаліся з ім, і во — усё, няма больш. І не будзе ніколі ўжо, не будзе нідзе. Ніякавата звыкнуцца адразу з такой думкай. Трэба, каб прайшоў час, каб трохі забылася.

Памёр чалавек — аджылі свой час і яго рэчы. Недзе праз месяц пасля хаўтур Мікола разабраў стары матчын ложак, зацягнуў яго на гарышча, кінуў на пагнуты абшарпаны веласіпед, што ўжо год пяць ляжаў тут без патрэбы. Чорную плюшаўку, спадніцы, кофты, бялізну, што засталася пасля старой, акуратна склалі ў яе куфры і запіхнулі глыбока пад ложак. Усё гэта нікому не трэба, але не выкідаць жа... Хай ляжыць.

Зняў Мікола і невялічкі абразок з левага кута. Вышываныя чырвонай ніткай набожнікі паклаў у шафу (можа, спатрэбіцца на што), а святую багародзіцу з яе немаўляткам таксама вырашыў занесці на гарышча. Ужо ўзлазіў па лесвіцы, але ўспомніў, што нядаўна карова рогам разбіла ў хляве акенца і яго прыходзілася затыкаць сенам, каб не надзьмула снегу. Мікола злез з лесвіцы, падышоў, выцягнуў касмылявае сена, прымерыў абраз. Акурат падышоў, толькі старая по-

чапка перашкаджала. Мікола прынёс малаток, прыгнуў почапку да закапцелай рамкі і ўставіў абраз замест акенца, замацаваў цвікамі. Потым, падкідваючы ў руцэ малаток, адышоўся і паглядзеў на сваю работу. Здалося, што гэта не толькі карысна для гаспадаркі, але неяк і цікава, смела... Можна было б здзерці з-пад шкла гэту маляваную паперу, тады б святлей у хляве было, але ёсць жа лямпачка, святла хапае, дый карова не будзе лезці з рагамі, не разаб'е... Хай так... Абразок той разам з гаспадарамі пераходзіў з старых хат у новыя — будаваліся шмат і да вайны, і пасля, адзін раз згарэлі — пераходзіў і займаў свой левы куток над сталом... Ужо год з дзесяць вісеў зусім немаведама для чаго. Мікола б даўно яго выкінуў, каб не маці. Старая, што зробіш?.. І не малілася, а хай вісіць — і ўсё... Так і вісеў. Побач электралічыльнік, а ўнізе тэлевізар. Нават смешна было. Прыходзілі браць за электрычнасць, зазіралі за набожнікі і гаварылі: «Ну, колькі тут наша багародзіца накруціла?»

Прыйшла з работы жонка, заўважыла пусты кут.

— Зняў ужо?

— Зняў,— сказаў Мікола і чамусьці спытаўся: — А што?

— Нічога... Пуста неяк... І лічыльнік гэты чорны, як пляміна на шпалеры...

І сказала, здаецца, без усякай задняй думкі, звычайна сказала, а Міколу чамусьці зашкрэбла.

— Давай каго-небудзь павесім, каб поўна было.

— Каго?

— Абы каго! — пачаў злаваць Мікола.— Чаго? Абы вочы мазоліў...

Жонка прамаўчала, пайшла даваць свінням есці. Амаль адразу ж вярнулася, стала на парозе:

— Коля, ці й та ты ашалеў?

— Чаго табе? — спакойна падпёр сківіцу рукой

Мікола, хоць ужо здагадаўся — заўважыла абраз на хляве...

— Нашто ты яго туды?

— Вецер дзьме. Холадна карове. Хоць якая ды карысць...

— Я здыму.

Мікола ляпнуў далоняй па стале, сказаў ціха, спакойна і ўпэўнена:

— Не здымеш. Як табе не сорамна, дэпутатка? Абраз нейкі струхлелы шкадаваць!..

— Ці падумаў ты, што людзі...

— Лю-дзі! — рэзка перасцігнуў яе Мікола.— Увесь век жывеш не так, як хочацца, а як людзям патрэбна... Напляваць! Хай пагавораць. Ціха сталі жыць, сумна... Хоць языком пачэшуць...

— Усё, каб не як у людзей...

— Хопіць! Не квахчы... Вунь свінні на ўсю галаву крычаць — ідзі давай...

— Здыму,— няўпэўнена паабяцала жонка.— Гэта нягожа...

— Я табе здыму! Спадніцу во здыму і акенца гэта завешу...

Міколу нават стала прыемна, што ён нешта адстойвае, нават абараняе. Хоць, прызнацца, і не чакаў, што жонка заўважыць яго работу. Што ёй гэты абразок? Пэўна, і набожнікі надакучыла мыць за столькі год. Хоць бы якая карысць...

Мікола падсеў да акна і, чакаючы вячэры, пачаў лічыць у суседскім плоце колле. Ён заўважыў, як ля яго хаты спыніўся Сяргей Чалеснік, калгасны пчаляр, год на пяць старэйшы за Міколу. Доўга глядзеў на хлеў, затым неяк палахліва азірнуўся па баках, паківаў галавой і, плюнуўшы сабе пад ногі, пайшоў да ганка. Узрушана зачыніўшы за сабой дзверы, Чалеснік замест «дзень добры ў хату» ціха вылаяўся.

— Што? — спытаў Мікола і ўсміхнуўся.

— Калюн, маці тваю бог любіў, што ты як блазнюк які? Дадумаўся!..

— Я не думаў.— Міколу стала весела, ён задаволена прамовіў: — Хлеў прама як музей стаў. Скажы?

— Ты гэта ад суму ці шарыкі нейкія з мазгаўні выкаціліся?

Мікола заўважыў, што добры Чалеснік злуецца на яго з-за чаго? З-за абразка. Мікола хітравата ўсміхнуўся:

— Што, на ўсялякі выпадак бога абараняць узяўся? А раптам калі-небудзь залічыцца?.. Так?

— Грак! — сказаў Чалеснік.— Дурны, галодны грак ты, Мікола... Толькі не сярдуй...

— Не сярдую, ладна. А ты во адкажы: думаў калі-небудзь пра гэта? А раптам бог ё! Га?

— Мне ўсё адно. Пражыў без яго, паміраць буду без яго і там буду без яго.

— Дзе гэта там?

— Пад бярозкамі, калі час прыйдзе.

— Дык што ж табе да гэтай багародзіцы?

— На хлеве ж... Дадумаўся! Усё жыццё на самым пачэсным месцы вісеў, бацькі твае за святое яшчэ лічылі, а ты на хлеў...

— Слухай, а на якую трасцу яму вісець тут? Што гэта — люстэрка? Ну і зняў.

— Зняў — і правільна. Толькі лішні клопат жонцы.

— Ну во...

— А ты пра матку сваю падумаў? Яна ж здароўя для цябе ў яго прасіла, калі ты яшчэ пялёнкі пэцкаў,— цішэй, быццам нехта падслухае, сказаў Чалеснік.

— Што ўжо ёй? — уздыхнуў Мікола.— Ёй ужо нічога. Калі жыла, дык я трымаў яго тут... Не для сябе ж...

— А памерла — значыць, усё. Можна і на хлеў?

— А што?

— Пень! — сумна сказаў Чалеснік.— Толькі не крыўдуй... Пра матку не падумаў... Гэта ж усё адно што загнаць свіней на яе магілку пасвіць...

Мікола пачаў адчуваць, што яму робіцца ніякавата. Ён ведаў, што Чалеснік можа завесці ў гаворцы туды, адкуль і не выйдзеш.

— Ладна! — сказаў Мікола.— Ты не раўняй шчокі з гэтымі... як іх... Сказануў.

— А што? Сам жа казаў — ёй усё адно. Ці пакрыўдзіцца?

Мікола маўчаў.

— Маці верыла ўсё жыццё,— гаварыў Чалеснік.— Гэта, Коля... думаць трэба. Мы не верым, мы, можа, разумнейшыя за іх, але ж... нельга так... На хлеў тое, што людзі ў душы насілі... Хай сабе і па глупству... але ж шчыра...

Мікола ўскіпеў:

— Ды мала што яны там насілі! Ад цемені сваёй. Майму дзеду вунь цар на руска-японскай медаль нейкую ўсунуў, дык той да самай смерці, дурань стары, верыў, што цар — гэта ого! акурат як бог... І не пераканаць было... Так і памёр... Што мне — і гэта паважаць?

— А ты думаў?..

— Ца-ра?! Ну, Сярожа, цябе пара ў міліцыю здаваць.

— Што ты дзіцёнкам прыкідваешся? Цара-цара... Лясніся ён, твой цар! Не яго, а тое... тое, што чалавек верыў... Разумееш, усёй душой... Гэта толькі ад злосці не паважаюць, калі самому няма ў што верыць, калі сэрца пустое, як паграбня вясной...

— Ты канчай заліваць... Я сам ведаю, што раблю.— Мікола адвярнуўся.

— Ты б падумаў спачатку... Во, не дай бог, цьфу ты чорт... Калі здарыцца, што ты захварэеш... Ты ці жонка — вясковыя ж бабы на ўсю сілу будуць зва-

ніць, што гэта цябе бог пакараў... І гэту лухту другім у вушы несці будуць... Маладым, дзецям... Сам жа гэтаму богу дапамагаеш...

— Адчапіся ты!

— Калі ён табе не патрэбен — спалі, плюнь... Што хочаш... Але без гэтага... дурнога звону.

— Ну як жа! Знойдзецца які-небудзь мяккагруды, прыйдзе, як ты, і дакарацць возьмецца, што бога ў агонь, як грэшніка, кінуў. Праведнікі...

— Богу, калі ён ёсць, і не засвярбіць ад цябе, а вось людзі, людзі... Гэта ж дурнота са свістам: абраз на хлеў...

— А ў мяне шкла не было! На балонку. Захацеў і ўставіў... Багародзіцу вашу... І капцы!.. Нечага тут...

— Певень ты хрыпаты, Коля... Толькі не сярдуй.— Чалеснік пайшоў да дзвярэй.— Праўду людзі кажуць — Кісляціна ты...

— Ладна! — грымнуў яму ўслед Мікола.— Ідзі, куды ідзеш, а то не дойдзеш. Поп новы знайшоўся! Вера яму трэба! Павага! Не здыму, назло! Во вам усім... Праведнікі.

Гэтага Чалеснік ужо не чуў. Ён выйшаў на вуліцу.

Раніцай Мікола пайшоў у пуньку наскубці карове сена. Абраза на хляве не было. Акенца акуратна зашклёна, здаецца, тым жа шклом з-пад абраза. «Чалесніка работка. Ненармальны... І калі паспеў?» — падумаў Мікола, але падумаў без абурэння, злосці, нават не зразумела чаму — вінавата. Чыстае, шызаватае шкло свяціла яму ў вочы ружовым ранішнім сонцам.

## Дэмагог

Да Пракопа Яцука, маўклівага і ціхага чалавека з вёскі Замошша, прыйшло цяжкае гора. Звалілася як снег на галаву, не пытаючыся, знянацку, нечакана. Хаця хто яго чакае і ў каго яно пытаецца, калі прыходзіць? Дачка памерла. І здаровая была, бадзёранькая заўжды, амаль зусім не хварэла, а во памерла. Ходзіць нейкі асабліва люты грып у гэтым годзе, ад якога нават паміраюць. І вось завітаў ён у Пракопаву хату, пяцігадовую Настачку выбраў.

Пахавалі Настачку ў сцюдзёную дуйку, а на другі дзень пасля хаўтур Пракоп адвёз у раённую бальніцу жонку.

Не змагла яна гэтакае гора перанесці, загаворвацца стала.

З бальніцы ён прыехаў дадому ўжо позна вечарам. Упацёмках на ганку доўга шукаў па кішэнях ключ ад хаты, а потым успомніў, што пакінуў яе незамкнёную, калі павёз Вольгу.

Увайшоў у хату, запаліў святло. Ціха, холадна. Ходзікі на сцяне аднастайна і безупынна шчоўкаюць: чык-чык, чык-чык, чык-чык. Падлога затаптана нагамі, валяюцца пабітыя чаркі.

Хтосьці спіхнуў. На сталах з рознакаляровымі клеёнкамі закуска, недапітая на памінках гарэлка. Прыбраць бы ўсё гэта.

Пракоп абвёў стомленым позіркам сталы, уздыхнуўшы, махнуў рукой. Заўтра ўжо тады як-небудзь прыбярэцца. Ён распрануўся і, прысеўшы на крэсла ля стала, нерухома пасядзеў хвіліну-другую, потым

узняў позірк на чорнае акно, устаў, захінуў фіранку.Ззябла хукнуўшы, падумаў: «Грубку трэба прапаліць, а то халодна». Схадзіўшы ў пуньку, набраў дроў, распаліў грубку і доўга сядзеў каля яе, слухаючы, як гудзе полымя. На душы было не тое што тужліва і цяжка, а неяк пуста, гола. Спярша надумаўся выпіць, але расхацелася.

Гледзячы ў грубку, успомніў:

«Татка, татка! — тонкія, нібы сцяблінкі маладога жыта, босыя ногі шлёпалі па халоднай падлозе.— Спячы бульбачкі!»

«Ты чаго з голымі стрыбалкамі,— так маці называла яе ногі,— на падлогу прэшся? Зараз жа, дачушка, на печ!»

«Бульбачкі печанае хачу!» — Настачка наўмысна крывілася і тупала нагой.

«Ах ты, капрызніца! Вось я зараз цябе венікам!»

«Татка, мамка біцца будзе!» — Настачка хапала яго за шыю і смяялася.

«Лезь на печ. Я зараз спяку і падам табе».

«З мёрзлым салкам?»

«Ага».

«Бульбу варацъ, бульбу жараць, бульбу з маселкам ядуць»,— не да месца пранеслася ў думках вясёлая песня. Пракоп узняў маснічыну, якая прыкрывала падпамосце, сагнуўшыся, пачаў мацаць бульбу. Дастаў некалькі, укінуў у грубку, трэскай закапаў у вуголле. Трэска нечакана ўспыхнула яркім полымем і затрашчала. Здрыгануўшыся, Пракоп выхапіў яе з грубкі, але не пагасіў, а пачаў глядзець, як яна гарыць. Чырвоны, жвавы агеньчык мітусліва гойдаўся па трэсцы, пакуль не дабег да празрыстай ільдзінкі, амаль на сярэдзіне яе. Зашыпеў, задыміўся і згас. Толькі вугельчык яшчэ нейкі момант цьмяна блішчаў рыжай кропкай.

Пракоп ціха сядзеў на табурэтцы, уважліва гледзячы на трэску.

З задумення яго вывела клямка, якая бразнула ў сенцах.

Хтосьці ўвайшоў, гучна затупаў нагамі, аббіваючы з валёнак снег.

— Здароў.

Пракоп азірнуўся і ўбачыў сельпоўскага стоража Міціка Каліву, нізкаватага, хударлявага мужчыну з вострым гарбатым носам і зросшыміся на пераноссі бялявымі бровамі.

— Здароў,— Пракоп пацікнуў яго шурпатую руку, паказаў на лаўку ля стала.— Садзісь.

— Ну й мароз! — Каліва няёмка накруціў на палец матузок шапкі.— З вуліцы ў акно плюнь — балонку разаб'еш. Хы-хы!

Ён паспрабаваў засмяяцца са свайго жарту, але, убачыўшы невясёлыя і змучаныя вочы Пракопа, прыціх. Хвілінку памаўчалі.

— Ну як яна там? — ціха і асцярожна зноў загаварыў Міцік.

— Хто? — Пракоп кінуў трэску на чырвонае вуголле.

— Вольга.

— Сказалі, што лепш. Перажывала дужа, вось і...

Змоўк. Цярнуў далоняй шчаку і няёмка кашлянуў, бы сказаў штосьці лішняе, недарэчнае. Міцік уздыхнуў:

— Та-а-а-к... Маці...

Зноў маўчалі. Затым Пракоп узняўся, павольна прайшоўся па хаце, узяў на адным са сталоў недапітую бутэльку.

— Давай, Міцік, вып'ем. Я сёння не еў зусім нічога, а аднаму нешта не хочацца.

Каліва сумнавата ўздыхнуў і паклаў шапку на лаўку:

— Калі ўжо за кампанію...

— Зараз я чаго-небудзь збяру.— Пракоп пайшоў па патэльню.

Каліва, сашчапіўшы рукі за спіной, глядзеў на партрэт Настачкі з чорнай бліскучай стужкай.

— Ты ж на работу ці пойдзеш заўтра? — спытаў ён.

— Пайду. Чаго ж ужо...— Пракоп не дагаварыў, пачаў варочаць пахучую каўбасу.

— Та-а-ак.— Каліва зноў глыбока і цяжка ўздыхнуў і рукавом ватоўкі выцер свой доўгі нос.

«Чаго ж ён тут кохае, як хворая аўца?» — здзіўлена падумаў Пракоп, глянуўшы спадылба на Міціка.

— А Вольга? — нечакана спытаў той.— Калі яе забіраць?

— Казалі дні праз тры прыехаць,— сказаў Пракоп, здымаючы з грубкі патэльню. Паставіў яе на край стала, дастаў хлеба, падсунуў студзень, сала.

— Садзісь. Можа б, ты распрануўся?

— Ды не, я так,— Міцік, расшпіліўшы ватоўку, падсеў да стала.

Пракоп наліў чаркі, паставіў бутэльку за патэльню, кіўнуў.

— Ну...— Каліва ўзняў чарку, шмыгануў носам, хацеў штосьці сказаць, але раздумаў.— Давай.

Выпілі. Пракоп пачаў закусваць, а Міцік адзін раз паспрабаваў студзеня і закурыў.

— Жыццё,— паківаў ён калматай галавой, з асалодай зацягваючыся.— Жыве чалавек і не ведае, навошта ўсё гэта. Што яно для чалавека? Дзеля чаго?

Пракоп нічога не адказаў, паціснуў плячыма. Каліва за чаркай любіў разважаць, філасофстваваць, гэта ўсе ведалі.

— Калі маладзейшым быў,— працягваў Міцік,—

дык не думалася. А вось пераваліла за сярэдзіну, і ўсё часцей і часцей гэта грызе.

— Што? — абыякава спытаў Пракоп, амаль не слухаючы яго.

— Думка. Вось дзеля чаго чалавек жыве, мучыцца, радуецца, ну і ўсё астатняе? Дзеля якой вялікай мэты? Усё адно ж...— ён махнуў рукой.— Рана ці позна...

— Усё адно,— згадзіўся Пракоп.

— Ну дык вось, пытаешся,— навошта? Што пасля чалавека застаецца? — Міцік задуменна скрывіў скіўіцу і сам сабе адказаў: — Нічога!

— Чаго ж? — Пракоп абапёрся локцем на стол.— Што-небудзь застаецца. Памяць застаецца... Любоў...

— У каго? — адчуваючы сваю перавагу ў разумных спрэчках, з важным выглядам запытаўся Каліва.

— У тых, хто ведаў чалавека,— адказаў Пракоп.

— Хы-гы. Ты думаеш, што ўсе памятаюць, хто ведаў?

— Калі не ўсе, дык тыя, каму гэты чалавек добрае рабіў, ці калі...— Пракоп закашляўся і адвёў позірк.

— Гэта ненадоўга,— запэўніў Каліва.

— Чаму ж?.. Іншы раз і на ўсё жыццё.

— Гм...— Каліва іранічна ўсміхнуўся.— Хіба ж гэта шмат? А калі браць большыя маштабы? Узяць вось больш часу, чым само чалавечае жыццё. Тысячу год, напрыклад. Га?

— Нашто ж столькі? — здзівіўся Пракоп.— Што будзе праз тысячу год, нават падумаць немагчыма. І страшна.

— А што? — Каліва захваляваўся і ўзрушана заёрзаў на лаўцы.— Людзі ж мы? Людзі! Хіба мы не маем права на тое, каб нас памяталі хаця б тысячу год? Бо жывём мы, ду-ма-ем пра нешта, марым аб нечым,

хвалюемся, а смертухна прыйдзе — жвык і капец. Гасі лямпу. Сваякі год-другі паўздыхаюць — і ўсё. Забудзецца.

Пракоп, падумаўшы над яго словамі, крутануў галавой:

— Чаму ж? Мы заўсёды памятаем тых людзей, што да нас жылі і нам жыццё давалі.

— Калі так,— Міцік хітра прыжмурыў вочы,— скажы, кім быў твой прадзед, дзедаў дзед?

— Кім ён быў, я не ведаю, але ж быў. Працаваў, напэўна, таксама на зямлі. Жыў...

Пракоп разгублена зірнуў на Каліву, пачаў нешта ўспамінаць, але той хуценька загаварыў сам:

— Адкуль ты ведаеш?

— Дзед жа не сам па сабе на свет з'явіўся. Значыць, быў хтосьці да яго. Жыў...

Міцік важна і павольна закінуў адну нагу на другую, спагадліва паківаўшы галавой, прагаварыў:

— Твае разважанні, Пракоп,— чыстая абстракцыя.

Той ад нечаканасці нават папярхнуўся. «Дзе гэта ён такіх слоў нахапаўся?» — падумаў Пракоп і потым успомніў, што ў Міціка на кватэры жыве малады настаўнік. Гэта ад яго, напэўна.

— Ты вось гаворыш пра свайго прадзеда, не ведаючы нават, хто ён быў і што. А гэта і ёсць абстракцыя.

Міцік растлумачыў Пракопу незразумелае слова, выцер з ілба пот і скасіўся на бутэльку.

— Хто? Што? — буркнуў Пракоп, наліваючы гарэлку.— Хіба гэта важна? Чалавек ён быў, гэта я ведаю, а за тое, што больш нічога не магу сказаць, ён на мяне не пакрыўдзіцца.

— Во! — Міцік нават падхапіўся.— Вось гэта ў самы сук, як кажуць. Не пакрыўдзіцца, бо яму ўсё адно. Пражыў сваё, і гамон. Ні ён да нас, ні мы да яго.

Пракоп, трымаючы чарку, маўчаў. Не хацелася яму гаварыць, але Міцік разышоўся не на жарт.

— Вось ты сказаў — ча-ла-век! — узняў ён угору чорны палец з брудным кіпцем.— А ты ведаеш, што чалавек — гэта самая сапраўдная нікчэмнасць.

— Як?

— Нікчэмнасць,— смачна паўтарыў Міцік, задаволены тым, што так моцна ўразіў Пракопа.— Гэта з матэрыялістычнага пункту гледжання.

— Што гэта за пункт такі? — паморшчыўся Пракоп і паставіў чарку на стол.

— Навука! Раней лічылі чалавека немаведама чым, таму што верылі ў яго душу, якая ніколі не памірае. Ні-ко-лі. А цяпер вучоныя даказалі, што ніякай душы няма. Чалавек памірае адзін раз і назаўсёды. Быў і... цю-цю, як не было.

— А чаму ж дрэнь?

— Я казаў нікчэмнасць, а не дрэнь.

— Усё адно, якая розніца?

— Гэта, браток, хітрая штука. З першага разу і не ўразумееш. Слухай. У прыродзе ўсё чыста звязана. Кожны звер, расліна, дрэўца дзеля чаго-небудзь патрэбны... Зразумеў?

Пракоп моўчкі глядзеў на Міціка.

— Зараз я табе падрабязней растлумачу.— Каліва разумна адтапырыў ніжнюю губу.— Расце, скажам, траўка. Зялёненькая. Падышла карова і з'ела яе. З каровы атрымалася малако, гэтым малаком цяля адпаілі, а з цяля гэтага нарабілі каўбас. Так?

— Ну і што?

— Атрымліваецца такі ланцужок, усё адно за адно чапляецца...

— Пры чым тут чалавек?

Каліва іранічна глянуў на Пракопа. Няўжо не зразумеў?

Пачаў тлумачыць далей:

— Чалавек жа таксама ў гэты ланцужок уваходзіць. Ён жа каўбасы з цяляці есць, а яго потым — чэрві...

Ён раптам змоўк і спалохана ўтаропіўся ў збялелы твар Пракопа. Праз хвіліну загаварыў зноў, але няўпэўнена і ціха:

— Матэрыялістычна гэта так. Чалавек сам сабе ўяўляе толькі, што ён нешта асаблівае, а на самай справе — так, частка прыроды. Смерці не адужае ніколі...

Сіпатым і ціхім, бы не сваім, голасам Пракоп запытаўся:

— Дык ты матэрыяліст?

— Ага, у бога не веру,— вышчарыўся Каліва.

— І ў душу не верыш?

— Не-а.

— І вечнае памяці няма?

— Няма.

— А чалавек — гэта ланцужок прыроды?

— У ланцужку,— удакладніў Каліва і памкнуўся па гарэлку.— Сучасная навука, браток. Давай вып'ем за яе...

— Чакай.— Пракоп узяў з яго рук чарку і паставіў на стол.

Падняўся, схадзіў у сенцы і прынёс вялікую белую конаўку з намаляванымі на баках прыгожымі вішнямі.

Гэтай конаўкай пілі ваду. Паставіў яе на стол перад Міцікам, потым выліў туды яго чарку, сваю, рэшту з бутэлькі.

Узяў на стале яшчэ адну бутэльку, таксама выліў. Конаўка была поўная.

— Пі! — загадаў Пракоп.

— Як пі? — Каліва адкрыў рот.— Ты-ы чаго?

— Пі! — Пракоп павольна, але цвёрда ўзяў у правую руку пустую бутэльку.— Пі за святую чалавечую

душу! За тое, што яна заўжды ёсць! Да нараджэння чалавека, у час яго жыцця і нават пасля смерці. Пі за вечную памяць і яшчэ за тое, каб здохлі ўсе бязмозглыя пні, як ты, што лічаць чалавека нікчэмнасцю і раўняюць яго з жывёлінай! Пі-ы-ы!

Пракопа трэсла.

— Ды што ты? — Міцік паспрабаваў узняцца з лаўкі.

— Ну! — пальцы Пракопа на рыльцы бутэлькі пабялелі, твар выцягнуўся, пачырванела шыя.

Бедны Каліва, спалохана вылупіўшы вочы, хвацка выжлукціў усю конаўку і нават не зморшчыўся.

— От гэтак вось,— ужо спакойней сказаў Пракоп і паставіў бутэльку на лаўку.— А цяпер кульгай адсюль, матэрыяліст плюгавы.

— Хоць жа дай заесці чым,— ашалела хаўкаў ротам Каліва і падаўся да стала.

Пракоп турнуў яго да дзвярэй:

— Прэч!

Міцік штосьці забубніў і шпарка пашкандыбаў на вуліцу, кінуўшы хату расчыненай.

Пракоп прысеў на табурэтку, супакоіўся. Потым зачыніў дзверы. Пастаяў, трымаючыся за клямку, злосна прамовіў:

— Парсюк шалудзівы!

Падышоў да партрэта дачкі, нейкі час стаяў ля яго. Настачка хітравата глядзела на бацьку, быццам бы хацела сказаць: «А я штосьці ведаю». Пракоп працягнуў руку да партрэта і здзёр з яго чорную бліскучую стужку. Дрэнна неяк было з ёй. Стужка, нібы змяя, абвівала Настачку.

Не ведаючы, што рабіць далей, ён доўга камячыў яе ў руках, а затым падышоў да грубкі, з агідай і злосцю кінуў стужку на вуголле, паглядзеў, як яна гарэла. Адным полымем гарэла, нават без дыму.

Хацеў ужо зачыніць дзверцы, ды раптам адчуў прыемны пах печанае бульбы.

Трэскай выхапіў адну з вуголля, перакідваючы яе з рукі ў руку, падышоў да стала і сеў. Агледзеўшыся, знайшоў поўную чарку і з маху кульнуў яе. А потым разламаў чорную, гарачую бульбіну, якая задымілася смачнай парай, проста і звычайна сказаў, звярнуўшыся да партрэта:

— Хадзі, Настачка... бульбу есці.

## Шчасце

На стале — пачатая бутэлька... Пенсіянер Васіль Сілявец, сухі сур'ёзны дзядок, і калгасны каваль Банчук, спакойны, мешкаваты дзядзька, сусед Сіляўца, абмывалі машыну. Хаця не машыну яшчэ, а толькі латарэйны білет, што ляжаў тут жа на газеце с афіцыйнай табліцай сярод нарэзанага сала, агуркоў і чарак... Васіль Сілявец выйграў па ім «Жыгулі»... Не пыласос які-небудзь, не халадзільнік, а самыя сапраўдныя «Жыгулі» за пяць тысяч.

— Госпадзі! — наліваючы чаркі, узбуджана гаварыў Сілявец. Нервовая радасць у яго яшчэ не прайшла, хаця даведаўся пра выйгрыш учора ў абед, калі хадзіў на пошту па пенсію.— Два месяцы насіў легкавушку ў кішэні... І калі-небудзь як пiць даць мог бы з гэтым білецікам за хату схадзіць... Далібог... Аж сэрца цяпер сціскаецца. А колькі ж я нядобрых слоў сказаў і падумаў на нашу загадчыцу... От жа праклятая сквапнасць! Ну, трыццаць капеек... Дробязь... А во ўсуне, бывала, латарэйку, паўдня хаджу сам не свой... Шкада...

— Гэта ў цябе ад твайго дзеда,— хрумкаючы гурком, абыякава ўставіў Банчук.— Той, калі памятаеш, крыніцу сваю на замок замыкаў...

Сіляўцу падумалася, што каваль ад зайздрасці ўспомніў пра дзеда, хаця гэта было наўрад ці так... Банчук ніколі і нікому не зайздросціў... Такі ўжо чалавек. А да грошай, вялікіх ці маленькіх, заўжды быў абыякавы... Ёсць — добра, няма — ну і ладна...

Выпілі яшчэ па адной. Па маршчынах пенсіянера разліўся густы румянец. У грудзях бы чорцікі нейкія скакалі... Хацелася гаварыць і гаварыць.

Аднак праз палову гадзіны, калі ўся гарэлка выпілася, сплыў некуды і добры, радасны настрой Сіляўца. Піў ён рэдка, толькі па святах, і тут захацеў не адстаць ад дзябёлага Банчука. Але сілы былі не тыя, што ў каваля... Пасля апошняй чаркі Сілявец неяк абмяк, сагнуўся над сталом (галава раптам пацяжэла) і, нечакана для сябе, зажурыўся... Банчук курыў, задуменна гледзячы ў акно. Размова не клеілася. Яно і зразумела. Сябрамі яны не былі ніколі, толькі суседзямі... Сілявец той, пэўна, калі і сябраваў з кім-небудзь за сваё жыццё, дык толькі з самім сабой, а Банчук... Ды што тут казаць? Не любіў ён трохі Сіляўца... За што? Ды ні за што, а проста так — вось не ляжыць сэрца да чалавека, і ўсё... Сілявец мо і здагадваўся пра гэта, але ўсё ж запрасіў сёння Банчука да сябе ў госці... Яно зразумела... Не аднаму ж такую падзею адзначаць.

— Хвёдаравіч,— залыпаў чырвонымі вачыма Сілявец.— А лёс, калі ён ёсць, пэўна, падла з падлы...

— Чаму гэта? — усміхнуўся Банчук.

— Ён жа не для ўсіх справядлівы. Скажы?

— Справядлівы,— не думаючы, упэўнена сказаў Банчук.— І для ўсіх.

— Ну як жа! — абурана грукнуў па стале кулаком Сілявец.— Ён жа, паразіт, круціцца, як шкура на сабаку... Да аднаго перадам, да аднаго задам, а да мяне... Да мяне ўсё жыццё бокам, бокам... Эх! Колькі памятаю, за шчасцем, як кот за пацуком, ганяўся, а яно падражніцца, падражніцца ды і дулю мне пад самы нос... Калі хочаш ведаць, усё маё жыццё прайшло на пяцьдзесят працэнтаў... Усё напалавіну...

Банчук усміхнуўся і, паказаўшы галавой на латарэйны білет, сказаў:

— Што, «Волгу» хацеў хапануць?

Сілявец абыякава махнуў рукой.

— Я не пра тое... Ты во скажы лепей: ты хоць раз у жыцці меў тое, чаго надта хацелася? Да канца...

— Канешне, меў...

— А я ні разу... Толькі напалову, і тое не заўжды. Во, памятаю, у дзяцінстве... Хадзілі па грыбы некалі... Цэлы дзень па гушчары поўзалі. Усе там сыраежак, лісічак збольшага накалупалі, а я во такенны во баравік! Белы, крэпенькі, шапка — дзвюма далонямі не накрыць. Лета тады сухое было. Яшчэ ніхто баравікоў не знаходзіў. Усе ахаюць, зайздросцяць, у кошык зазіраюць. Шчасце! Дадому прыйшоў, ножычкам яго — чык! Чарвівы, зараза! Сточаны ўшчэнт! А я ж так хацеў знайсці яго, гэты баравік... Стаю і думаю: чаго я радаваўся, чаго ганарыўся перад другімі? У іх хоць лісічкі, а ў мяне? Во яно, шчасце! Гадоў шэсць мне тады было... І з таго часу пайшло! Усё напалавіну. Усё не так, як ні круці...

Сілявец разгарачыўся. Блішчалі вочы, твар аж свяціўся нейкім нядобрым святлом. Відаць, даўно, з тае пары, як з'ехалі ў горад сыны, так шмат не гаварыў. А жаданне выгаварыцца было. Вострае, нясцерпнае.

Банчук маўчаў, пра нешта думаў. Чорт яго ведае, якога яно колеру, гэта шчасце? У Банчука ад такіх думак галава не балела ніколі. Пражыў, здаецца, нябла-га... Салодкімі піражкамі жыццё не частавала, але ёсць што ўспомніць і яму. Бацька казаў некалі: жыццё, сынок, што зямля тая, што яму дасі, тое і возьмеш. Рана ці позна, але возьмеш. Во ўрэзаліся ж тыя словы ў галаву. Гэтулькі год праляцела! Жыў як жылося. За чужыя спіны не хаваўся, другім пад ногі камення не кідаў, злосць у душы не трымаў доўга. І во неяк спакойна цяпер ужо пад канец. А радасць... Банчук усміхнуўся. Была і радасць. Расказаць каму-небудзь, дык не паверыць. Радаваўся, калі яго цесць згарэў. От мо-

жа ж такое быць! У чалавека гора, а яму тады радасна было. Усё з-за Насты... Калі жонка Банчука была дзеўкай, усе лічылі яе непрыгожай. Нібы згаварыліся. Непрыгожая, і ўсё. Ну, а заўважылі, што Рыгор Банчук пачаў яе з вячорак праводзіць, адразу ўсе ў адзін голас: на грошы пакваліўся, да Насцінага куфра хлопец падбіраецца... Насцін бацька, працавіты і руплівы гаспадар, жыў заможна. Ну а пасаг дачцэ падрыхтаваў такі, што ўсе дзіву даваліся. Недасплю, казаў стары Патап, недаем, а дачка ў мяне каралевай будзе. Ну і нацярпеўся ж Банчук з-за гэтага праклятага «каралеўскага» пасагу. Уся вёска ўздыхала: такі ладны хлапец, а бярэ няўдаліцу з вялікімі грашыма. Насці, бывала, ласкавага слова сказаць нельга было. Слухае дзеўка, а вочы сумныя-сумныя... Уздыхае. Не мне, маўляў, гэтыя словы, а майму пасагу, бацькавым грашам. Пэўна, пракляў тады Банчук Насціна багацце. Летам у самую сухмень згарэў Патап. Усё згарэла. І хата, і жывёла, і Насцін куфар. Самі толькі і выскачылі. Банчук, як даведаўся (ездзіў тады ў горад вучыцца), аж сэрца радасна затрымцела. Грэх, канешне, радавацца з чужой бяды, але... Адным словам, прыехаў дадому, навастрыў сякеру і пайшоў да Патапа. Месяцы чатыры адзін (з Патапа якая там помач была?) і бярвенне цягаў і сякерай да зорак цюкаў... Сіла была ў руках. Дзень у калгасе — вечар зруб для новай хаты ўзводзіў. Да халадоў перайшоў Патап у новую хату. Праз тыдзень Банчук заслаў сватоў да яго. Вяселле згулялі, і ўсё як мае быць пайшло. А на вяселлі, калі стары Патап трохі падвыпіў, завёў ён свайго зяця за гумно і патрабаваў:

«Грышка, сынок, дай ты мне ў вуха! З усяго размаху дай... Я ж, пень дурны, думаў, што ты Насту за грошы бярэш. Ты — вунь які... А яна... Ну што казаць. Ну непрыгожая...» — «Во за гэта і сапраўды дам»,— сур'ёзна паабяцаў тады Банчук.

А Сілявец усё яшчэ гаварыў:

— Во хаця б маю жонку-нябожчыцу ўзяць. Мо памятаеш, як я па ёй сох? Убачу з другім — у сэрцы бы хто-небудзь цвік забівае. Ці паверыш, плакаў па начах. На сена, бывала, залезу і румзаю, як блазнюк. Ніхто яе так не любіў. А яна... Яна за Барабулінкам, за кулацкім гэтым сынком, бегала...

Банчук падняў да Сіляўца галаву.

— Барабулінак кулаком не быў,— прамовіў ён.— Дзяцей не было ў што абуць, калі іх адпраўлялі. Кулак! Гад нейкі падсаліў чалавеку тады...

— Я не ведаю. Не да гэтага было. Ну дык вось. Выслалі Барабулінка. Паплакала мая Алена, паплакала ды і выйшла за мяне. Забылася, здаецца, пра ўсё. І вяселле было добрае. І яна вясёлая. Усё добра! Шчасце! Дачакаўся свайго! Во! З маслам, як кажуць!.. Зноў у мяне гэта палавінка, каб яе агонь спёк! Не, яна яго ніводнага разу не ўспомніла. А толькі душой я адчуваў, душой, што клалася яна са мной спаць, як у труну кладуцца. Засне, дык ужо потым абдымае мяне, цалуе, шэпча нешта. Я не разумеў, што з бабай робіцца. А яна, аказваецца, у сне яго, Барабулінка, бачыла. Ужо перад смерцю мне прызналася. Сорак гадоў жыла са мной, а па начах яго абдымала! І ведаеш, дзеці, здаецца, на таго кулацкага боўдзілу падобны...

— Барабулінак не быў кулаком,— цвёрда паўтарыў Банчук.

Сілявец не пачуў гэтага.

— У старэйшага і нос, і вочы, і чупрына, як у яго. Чарнявы ж... У нашым родзе спакон веку такіх не было.

— У Алены бацька цыган быў. Хіба не ведаеш? Ды і дзе ж яна магла з Барабулінкам?.. Таго праз год у Сібіры елкай прыбіла...

Сілявец рэзка ўсхапіўся з крэсла.

— Ды мае, мае гэта дзеці!.. Хіба я не ведаю! Толькі мае і як быццам не мае. Напалову. Зноў на праклятую палову... Пэўна, Хвёдаравіч, нарадзіўся я на двух ложках. Адзін шчаслівы, а другі... Рукамі, зубамі вырываў шчасце. Што толькі не рабіў... Усё дарэмна!

— А што рабіў? — неяк прыцішана і асцярожна спытаў яго каваль.

Сілявец упяў у яго колкія зрэнкі, не адразу, але сказаў цвёрда і жорстка:

— Усё рабіў! — Памаўчаў, трасянуў галавой, сумна засмяяўся: — І вайна гэтак жа прайшла! Людзі галовы клалі, кроў лілі, калекамі вярталіся, а я ў палоне ўсе гады... І во, як бачыш, не ваяваў, а перажыць давялося такое, што цяпер успомніць баішся.

— Сам здаўся? — спытаў Банчук.

— Што?

— Я кажу, у палон...

— Сам і не сам,— Сілявец сказаў ужо гэта, не звязваючы з тым, што расказаў. Заўважыў і засмяяўся. Потым пачаў расказваць: — Нас пад Віцебскам расказашмацілі, усю дывізію... Чалавек пяць сабраліся — выйсця шукаем. Вінтоўкі былі, а патронаў — у мяне адзін. І ўсё. Начамі да сваіх выбіраліся. На трэці, здаецца, дзень на немцаў напароліся... Абклалі... Я бабахнуў разок са свае вінтовачкі, і ўсё. Няма чым больш ваяваць. І трэба ж было гэтай праклятай кулі ў аднаго немца трапіць... Паставілі яны нас — пытаюцца: хто? Маўчым. Яшчэ раз: хто? Маўчым. Афіцэр аўтамат хапае, замком клац-клац... Ну, думаю: капцы! І раптам адзін маленькі, худзенькі заморак з Полацка, што ад кожнага шораху бялеў і заікаўся, выходзіць. Я, кажа, я страляў. Немец яму чаргу ў жывот. А нас пагналі ў лагер...

Сілявец змоўк. Узяў пустую бутэльку, пакруціў у руках.

— Мо яшчэ збегаць?

— Не трэба,— ціха прамовіў Банчук, ва ўпор гледзячы на Сіляўца.

Той вытрымаў гэты позірк. Усміхнуўся.

— Чаго вылупіўся?

— Нічога,— адвёў позірк Банчук.— Тут ужо не напалову атрымліваецца...

— Акурат напалову. Я не ўсё расказаў. Той бедны хлопец яшчэ варушыўся на крывавым пяску, калі я апрытомнеў. Кінуўся да гэтага афіцэрыка: пан, крычу, пан, не ён гэта... не ён...— змоўк, зірнуў на Банчука.

Той сядзеў спакойна. Сілявец здзівіўся. Няўжо тое, што ён сказаў, ні кропелькі яго не ўразіла?

— Што, не верыш?

— Чаго ж...

— Так і было. Дзела мінулае, падманваць не буду. Што яшчэ крычаў, ужо не памятаю. А яны... Яны рагаталі. Поскудзь такая! Пальцам, во так во, навядзе на цябе і — пуфф! а самі аж за жывот бяруцца. Смешна дужа. Во бачыш як? І тут... Хапіла смеласці толькі напалову. І шчасця напалову. Жыць застаўся, да пенсіі во дажыў, а той бледны твар хлапца да гэтага часу забыць не магу. Плавае перад вачыма... Твар і скрываўлены пясок... От так вось, Хвёдаравіч. Усё жыццё... Як ні круціўся, а толькі так і выходзіла. Лёс. А ты кажаш... Нават пад старасць... Пенсію ж прызначылі не сорак, не шэсцьдзесят, а пяцьдзесят.

— І трыццаць капеек,— падказаў Банчук.

— І трыццаць капеек,— самотна ўздыхнуў Сілявец.— А цяпер во гэты білет... Нашто ён мне? Маладзейшаму б каму-небудзь... Каму пажыць хочацца. Каму трэба. А я... У хлеў мне на гэтых «Жыгулях» катаць, ці што?

— Дзеці ж ёсць! — здзівіўся Банчук.

— Дзеці! — зашыпеў Сілявец.— Самі! Самі хай хапаюць сваё шчасце! Дабіваюцца! Ірвуць! Адваёўваюць...

— Ну, ну... Зразумела. Тады давай з'ездзі куды. На мора! На курорт! А чаго? Хоць пад старасць хапанеш на ўсе сто.

Сілявец стомлена закрыў вочы, горка засмяяўся:

— Нічога не будзе! Сплыў мой час. Растрасуся па дарозе. Туды на самалёце, а адтуль у скрыні. Не-е, гнілымі зубамі арэх не раскусіш.

Банчук дастаў з кішэні пачак папярос, зірнуў на іх, нешта скамячыў у руцэ, падняў вочы да Сіляўца.

— Дык кажаш, што не трэба табе гэтыя грошы? Га?

— Іх жа ў мяне няма. Як быццам ёсць, а няма. Як заўжды.— Сілявец вылаяўся.— Палова туды — палова сюды...

— Ну калі так,— Банчук раптам згроб са стала білет, скамячыў яго і ўкінуў у рот. Раз-другі ціскануў зубамі і праглынуў. Узяў са стала сала.

— Хоць і «Жыгулі», а ўсё адно нясмачна. Закусіць трэба.

— А-а-а-а!!!

Нічога не памятаў больш Сілявец. Пацямнела ўваччу, закруціліся сцены, Банчук, стол... Дзікая сіла кінула яго ўперад, пальцы нешта схапілі...

Дужы Банчук ледзь стрымліваў у абедзвюх руках сухую, жылістую руку Сіляўца, якая сутаргава сціскала шырокі, востры нож. Каваль аж спалохаўся. Яшчэ чуць-чуць — і ўсё...

— Што ты, Васіль? Хіба ж можна? Нажом чалавека за пяць тысяч? Няўжо ж я, Банчук, столькі каштую?

— Гы... гы... гы-а-ад! — тросся Сілявец.

— Во! Во як ты за сваё шчасце б'ешся... Да смерці... Да крыві... Пэўна, і Барабулінка гэтак жа. Ну ціха,

ціха, Сілявец. Людзей за ўсё сваё шчасце нельга рэзаць, а тут усяго пяць тысяч.

— Га-а-ад!

— Ты напісаў тады ў раён, што стары Барабулінак збожжа ў лесе хавае?

— Я! — няцямна, як у сне, прашаптаў Сілявец.

— Ён жа на насенне вясной пазычаць хадзіў... Ах ты, слізняк... Палавіннік пракляты!.. На! Во яно, тваё папяровае шчасце. Гэта я свой білецік з'еў. Не лыпай вачыма. Цэлы. Правер!

Нож зваліўся на падлогу і пакаціўся пад стол. Бледны, з выпучанымі вачыма Сілявец вырваў з рук Банчука білет, схапіў газету, кінуўся за печ.

— Вон! — дрыжачым голасам азваўся ён адтуль.

Каваль выцер пот з ілба, аддыхаўся, чамусьці зморшчыўся і сумна сказаў сам сабе:

— Позна ўжо... Шкада, што позна...

— Выйдзі! — ужо спакайнеючы, закрычаў Сілявец.

«У жываце нешта пахаладзела... Чорт, пэўна, халадзільнік на білет выпадаў»,— ён уздыхнуў і выйшаў. Ціха, нібы баяўся кагосьці патрывожыць, зачыніў дзверы. І толькі тады адчуў, як дрыжаць рукі.

## Талент

Новы дзень толькі-толькі пачаў забірацца ў лагчыну. Празрыстае роснае ранне. Кропелька сонца на кожнай травінцы. Цемра ўжо адпаўзла некуды ў кустоўе даўгалістага лазняку, але промні сонечныя яшчэ нясмелыя і ласкавыя. У вочы не лезуць. Не жмурышся, не моршчышся і ўсё бачыш. Весела спявае каса, збіваючы траву ў тоўстыя, калматыя пракосы. Неяк спакойна і радасна на душы. Пругкай сілай налівaецца ўсё цела. Узмах — невялікі крок уперад. Мокрай вужакай каса слізгае па траве, і зноў, ледзь здрыгануўшыся, падаюць пад ёй рамонкі, белагаловая дзікая канюшына і купальскія кветкі, што шчодра растуць у лагчыне.

— Сусед,— гукае мяне шыракаплечы дзед, што косіць з другога боку лагчыны.— Хадзі пакурым! Дай ты касе адпачыць. Аж стогне, бедная... Усё адно сёння не саб'ём усяго...

Я пераводжу дух, бяру з пракоса мокрай травы, выціраю касу, кладу яе на пракос і іду да дзеда. Той ужо ляжыць на старой ватоўцы ў канцы пракоса і са смакам цмыгае тоўстую самаробную цыгарку.

— Сядай,— ён пасунуўся на край ватоўкі.— Ты б сарочку накінуў на сябе. Плечы мокрыя.

— Нічога.

— Ну, загарай. Дзела маладое. Не тое што ў нас. Усё скрыпіць і квохча. А памятаю, таксама сонца на скуру лавіў. Пачуў, што карысна,— ну, думаю, хапану праменьчыкаў і карычневым стану. Ну і хапануў! За дзень бы печаны рак зрабіўся. У паграбе начаваў на мокрай прасціне. Пухірамі ўся спіна пайшла... А ты

чыю ж гэта пайку косіш? — раптам нечакана спытаў ён.

— Антона Ахрэмчыка.

— Гэта з Дабрыні?

— З Дабрыні.

— Далёка ж вас загналі. А майму старэйшаму ля вас недзе выдзелілі.— Стары раптам задумаўся і заклапочана зірнуў на мяне.— Чакай-чакай... Ці не таго гэта Ахрэмчыка, у якога сын акадэмікам робіць?

Я засмяяўся.

— Да акадэміка яму яшчэ як да неба.

— Ну ўрач нейкіх навук.

— Доктар.

— Дык я ж і кажу.— Ён запытальна зірнуў на мае старэнькія зрэбныя штаны і няўпэўнена спытаў: — Што, пэўна, брат?

Я зноў усміхнуўся, кіўнуў. Так, маўляў, брат, але стары ўжо ўсё зразумеў, аж падняўся з ватоўкі, каб лепш мяне разгледзець. Здзіўлена хмыкнуў і зноў уперыўся ў бацькавы штаны, якія былі на мне. Потым расчулена і катэгарычна заявіў:

— Маладзец! Не за тое, што акадэмік, а што во... Адным словам — маладзец! А я, чэснае слова, думаў, што ты ў саўгасе ў нас. Твар ужо надта праставаты, вясковы нейкі. Ты не крыўдуй, гэта добра.

— Не крыўдую.

— І правільна. Ты ж у вёсцы вырас — якім жа табе яшчэ быць? Во ёлкі паласатыя! — весела зарагатаў дзед.— А я думаў, раз акадэмік, значыць, пуза, барада, акуляры на носе і зубы залатыя. А ты вунь як спрытна касой махаеш! Не-е, маладзец! Бацьку дапамагаеш?

— Трэба.

— Канешне. От гэта па-людску. А то вунь мой меншы прыехаў мінулым летам — сыраквашу кефірам называе. Што ты! Пра касу і не ўспомніць. Слухай, а я

цябе ўчора чытаў у газеце. Чэсна. Аж галава забалела. Усё неяк не па-простаму, а з вывертам, ні чорта не зразумець! Словы такія, што язык у вузел завязваецца. І падпісана «М. Ахрэмчык». Мікола, мабыць?

— Міхась,— сказаў я.

— А я Якаў Чарток з Негаціна. Бацьку твайго добра ведаю. Колькі гарэлкі разам перапілі! А да вайны і працавалі разам. Сельсавет тады ў Негаціне быў. Вось жа што з яго сына атрымалася! Вучыўся шмат?

— Не вельмі. Гадоў дзесяць.

— Ого! Хаця справа, канешне, не ў вучобе. Майго меншага бэйбуса і дваццаць гадоў вучы, далёка не пойдзе. Лобік вузкі. Гэта, сынок, бог на табе адмеціну паставіў. Пячаць. Талент прыляпіў, і ўсё тут. Цябе ўжо куды ні кінь, ты сваё возьмеш... Правільна я кажу?

Мне не хацелася гаварыць адваротнае, бо вельмі ўжо ўпэўнена і пераканаўча даводзіў стары. Успомніліся словы свайго першага кіраўніка яшчэ па кандыдацкай: «Плюнь таму ў вочы, хто скажа, што ты — талент... Цяпер талентаў няма, а ёсць тыя, хто спрытна пераастаўляе словы з месца на месца. Во садзіся і пераставляй. Як? Вельмі проста: бяры чыю-небудзь дысертацыю па сваёй тэме. Там напісана: «Была чорная ноч...» Гэта чужое. А ты напішы: ноч была чорная ці чорная была ноч. І гэта ўжо будзе тваё. Ніякага плагіяту! Ніхто не прычэпіцца. Не крыўдуй, не крыўдуй. Я ўсім заўжды гавару: таленту не толькі кіраўнік, таленту нічога не патрэбна. Ён сам сябе нараджае, сам сабой кіруе і сам сябе гадуе». Вось такія словы! Жорсткі быў стары, з'едлівы, але справядлівы. Да маёй доктарскай ён не дажыў.

Зірнуўшы на дзеда, я няцямна павёў плячыма. Стары зразумеў, што я не згодны, і сказаў:

— Не, вучоба, яна, канешне, трэба, я ж не кажу. Чым больш у галаву напхаеш, тым лепш, але ж, разумееш, трэба яшчэ і нарадзіцца ў шчаслівую гадзіну, ды

сонечным ранкам. Непадобным да ўсіх нарадзіцца. Во скажы, ты ў маленстве хіба такі, як усе вясковыя бэйбусы, быў? Га?

— Чаму ж не? — цепнуў я плячыма.— І ў вайну гуляў, і па садах чужых лазіў, і гузакі насіў. Ды і вучыўся не лепш за другіх. Проста ў жыцці, мабыць, больш шчасціла. У інстытут неяк вельмі лёгка паступіць удалося, потым у аспірантуру прабіўся. Працаваў шмат.

— Чакай, чакай,— перапыніў мяне дзед.— Ты хоць і акадэмік, а не туды гнеш. Працаваў! І конь працуе ўвесь свой век, а ў газетах яго не друкуюць. Тут талент, і ўсё. Чалавек калі народзіцца з ім, дык гэта ўжо нешта такое, пра што ого-го хочацца сказаць. Такіх людзей раз-два, і лічыць ужо нечага. І такім не можа не шчасціць. На трэці ці на сорак пяты раз, але яны схопяць лёс за бараду. А ты во ўспомні: на цябе ніколі не казаў твой бацька: у каго гэта ты такі ўдаўся? Было?

— Было! — засмяяўся я, бо стары вельмі ўжо ўдала перадаў не толькі словы, але нават і інтанацыю майго бацькі.

— Тэк... А ты не згаджаўся! Ёсць, значыць, у цябе нешта такое.— Ён вельмі выразна крутануў растапыранай далоняй над сваёй галавой.— Я ўжо за свой век прыгледзеўся: калі чалавек нараджаецца з талентам, дык ён трохі. Ну, як бы чокнуты. Не крыўдуй, канешне, гэта ўжо так заведзена ў свеце. У гэтых людзей і вочы, і вушы, і сэрца асаблівыя. Бы не тым бокам пасоджаны... А гэта ж рэдкасць! Я во ўжо шосты дзесятак датаптваю, а сустрэў толькі двух таленавітых людзей. Цябе і яшчэ аднаго. Хочаш раскажу? Ну, слухай. Жыў у нашай вёсцы да вайны мужчына адзін. Пятрок Харытановіч. Яго брат малодшы цяпер дырэктарам школы ў вас у Дабрыні. Ведаеш жа, пэўна?

— Канешне, ведаю.

— Ну во. Чалавек, гэты Пятрок, здаецца, як чалавек быў. Спакойны, ціхі, працавіты. Звычайны, адным словам. Але, разумееш, не тое яму матка прычапіла, калі ён нарадзіўся. Так з выгляду мужык як мае быць. На дзве галавы вышэй за цябе быў. Плечы —во! Кулак пакажа — бык спалохаецца, а душу меў бабскую. Чаго ты ўсміхаешся? Гэта ж, разумееш, мы з дурноты сваёй заганай лічылі і лічым. Жанчына, калі хочаш ведаць, нават самая дрэнная, у тысячу разоў лепш за любога з нас. У бабы сэрца на сваім месцы, а ў нас яно іншым разам не туды трапляе. Ты хоць раз бачыў, як бабы б'юцца? Хаця дзе табе было глядзець. А гэта ж толькі адзін смех. Пакрычаць, павыюць, за валасы адна адну патузаюць, і ўся злосць выйшла. Ну, а калі наш брат разойдзецца — тут ужо да сінякоў і да крыві. Цяпер, праўда, ужо і бабы за намі цягнуцца. Іншая толькі спадніцу носіць, і ўся жаночасць. Ну дык, значыць, я пра Петрака. Разумееш, за ўсё жыццё ніводнага разу не засек дома курыцы, не закалоў свінні. Не мог. Ты ж ведаеш, у сялянскай гаспадарцы без гэтага не пражывеш. Змалку прывучаюць. А Пятрок ні ў якую! Баіцца. Ну, бацька за яго і ўзяўся. Сілком аднойчы прымусіў качцы галаву адсекчы. Сякеру ў рукі сунуў, сам яго трымае, разам і секанулі. Качка вобзем, і Пятрок побач з ёй. Бацька думае, прыкідваецца, блазнюк... Хварасціну ў рукі і давай яго хвастаць. А той ляжыць белы як палатно і не дыхае. Во навучыў! Месяц потым хварэў. Ніякія ўрачы рады не маглі даць. Да знахаркі ў горад вазілі. Яна там штосьці над ім пашаптала, паплявала, трохі адышло. А бацьку знахарка тая кажа: «Калі хочаш, каб хлопец жыў на свеце, лепш не чапай яго. У яго сэрца голае».

Чуеш? Сэрца голае! Я гэтым шаптуніхам ніколі веры не даваў, але гэта бабка здорава сказала пра Петрака. Ой, як правільна! Бацька, канешне, на яго рукой махнуў. Недарэка ўдаўся. З прымхамі лепей не чапаць.

Так ён і пражыў. Кармляка на сала біць — папросіць каго-небудзь, а сам з двара прэч, каб не глядзець. І вось. Ну, здавалася б, што тут дзіўнага? Чаго пацяшацца людзям? Што ты! Уся вёска смяялася. Ён жа размаўляў услых з імі.

— З кім? — не зразумеў я.

— З канямі, з каровай, з птушкамі. І не так, як во, скажам, мы размаўляем: — Стой, падла, каб ты здохла! — Не-е. Неяк ціха, ласкава. Памятаю, зайшоў я неяк да яго грошы пазычыць. А ў яго сабака быў. Мардаты такі, ростам з цяля. Ён на мяне! Зубы вышчарыў ад брэху. Адным словам, ледзь штаны з мяне не зняў. І раптам Пятрок выходзіць і кажа спакойна так, нібы з дакорам:

— Што ты робіш, Дэзік?

І ўсё. Гэты Дэзік нібы сваім брэхам падавіўся. А потым на гаспадара зірнуў, на мяне, і, ці паверыш, бачу, што ў яго вочы, як у чалавека, сарамлівыя-сарамлівыя зрабіліся. Мала таго, галаву апусціў, да мяне падышоў і хвастом так махае, нібы прабачэння просіць. Ніколі ў жыцці такога не бачыў! Цуд! Мне аж, ведаеш, неяк не таго стала. Пятрок жа не крыкнуў на яго, не загадаў, а проста так: што ты робіш, Дэзік? І ён зразумеў.

Мне падумалася, што расказаў бы стары з такім жа захапленнем пра тое, як Дэзік падышоў да яго і сказаў: «Даруй мне, дзядзька Якаў...» — і я б, напэўна, паверыў. З такой верай, з такой упэўненасцю гаварыў дзед. Я ўсміхнуўся ад гэтай думкі. Стары заўважыў.

— Ты мне за хлусню плаціць не будзеш,— нібы пакрыўдзіўся ён.— Дык навошта ж мне тады хлусіць?

— Даруйце, гэта я сваім думкам,— спахапіўся я.

— Жывёліна, яна, я табе скажу, розум мае. Яна людзей чуе. Тых, хто з душой. А ў Петрака была душа ого-го! Вось ён ёй, напэўна, і размаўляў. Яго яны і ра-

зумелі. І не быў ён ніякім дзіваком. Проста... Адным словам, жаласлівы быў. Ведаў, што на зямлі ўсім баліць. Усяму жывому. Аднойчы на сенажаці яму пад касу жаба падскочыла. Ён ёй заднюю лапу і адхапіў. І што ты думаеш? Кінуў касу, злавіў гэту параненую жабу і давай ёй анучай лапу перавязваць. Да гэтай пары яшчэ ўся вёска смяецца! Чаго? Лічаць, што ненармальны быў чалавек, як у нас кажуць, з цвіркуном ля скроні. Ну, а яны, значыць, усе нармальныя. Тут яшчэ падумаць трэба.

— Цікава,— сказаў я і спытаўся: — Вы ўсё кажаце — быў, быў... Ён што, пераехаў куды-небудзь?

— Хто? Пятрок? Ды не, вайна ж была. Хіба такі ўберажэ сваю галаву. Табе ж бацька, мабыць, расказваў, як на вайне? Ці ты мяне, ці я цябе. Ну, а Пятрок... Расказвалі, як яго забіла. Немцы на нашых паперлі, ну, а нашым дзявацца няма куды — яны на немцаў. Схапіліся. На Петрака наскочыў адзін — хацеў штыком. Пятрок у яго вінтоўку з рук вырваў і ў грудзі піхнуў. Гэты фрыц і лыткі задраў. Я ж казаў, сіла ў яго руках была дай божа. Зваліўся, значыць, немец і рукой пісталет з кабуры рве. А Пятрок стаіць над ім з яго ж вінтоўкай і не зварухнецца. Хлопцы крычаць: «Бі! Дабі гэту падлу!» Ён стаіць. Немец з пісталета яму ў жывот і смалянуў. От так.— Стары змоўк, пачаў рабіць новую цыгарку. Адарваў з газеты акуратны чатырохкутнік, дастаў капшук. Неяк асабліва ўважліва зірнуў на мяне, спытаў:

— От ты разумны і вучоны чалавек. Адкажы: як ты думаеш, гэта ў яго галаве якіх-небудзь шарыкаў не хапала ці проста талент у чалавека быў?

Я нейкі момант думаў, што сказаць, і стары не дачакаўся майго адказу.

— Тут і гаварыць няма пра што. Калі б Петраку дарога ў навуку была, з яго б нешта такое выйшла, што ого-го... Можа, гэты... хвілосаф новы. Ён бы такое

сказаў людзям, да якога нам яшчэ до-оўга жыць і дабірацца трэба будзе. Я табе словамі сказаць не магу, я ведаю, адчуваю. Ён жа, ведаеш, і глядзеў неяк асабліва. Як во святыя з абраза. Толькі дабрэй, лагодней. Здаецца, у вочы глядзіць табе, а нібы ў сэрца зазірае. Я вось думаю, што бог ён усё ж такі быў. Вядома, не з неба і не з-пад зямлі. Проста нарадзіўся звычайны чалавек, але таленавіты. Такі во, як наш Пятрок... А мо і яшчэ больш таленавіты. Зямля наша, яна каго толькі не народзіць? З сэрцам асаблівым і галавой. Прыйшоў да людзей, пачаў казаць праўду. А людзі яго за гэта... Людзі, яны добрыя, але вось надта таленавітых не любяць...— Стары ўздыхнуў і змоўк.

Мы доўга курылі моўчкі. Дзед быў увесь нейкі важны і строгі. Ён думаў. Сваім расказам ён распаліў сабе душу і цяпер, пэўна, сам усё асэнсоўваў нанава.

— Прымаразкі хутка будуць,— нечакана сказаў ён.

— Ды не, ночы яшчэ цёплыя,— не згадзіўся я.

— Будуць. Раса ўжо памутнела. Пад лазняком сёння аж белая была.— І раптам ён ціха засмяяўся. Сустрэўшыся з маім запытальным позіркам, сказаў: — Ведаеш, што я думаю? Няма калі нам глядзець наўкол на поўныя вочы. Глядзець і здзіўляцца. Вось, к прыкладу, што гэта такое? — паказаў ён на цёмную густую сцяну няскошанай травы.

— Трава,— усміхнуўся я.

— А гэта? — чмякнуў ён рукой па пракосе, на якім мы сядзелі.

— Таксама трава.

— Гэта ўжо сена,— чамусьці сумна прамовіў стары.— Во так і бывае.

Я не зразумеў, што ён хацеў гэтым сказаць, а запытацца не паспеў. Павярнуўшы да мяне хітраваты твар, дзед спытаў:

— А чаго гэта ты ўсё маўчаў, калі я табе пра Петрака расказваў? Мо не згодзен з чым?

— Згодзен,— з усмешкай, але шчыра прызнаўся я і дадаў: — Толькі, як сказаў адзін паэт, «прыгожае бачыць прыгожы».

Стары зразумеў. Дапытліва зірнуў мне ў вочы.

— Чым багаты, тым і рады,— сказаў ён і пачаў падымацца.— Ну, калі згодзен, пайшлі касіць. А то ўжо хутка сонца расу вып'е, тады не разгонішся.

Праз хвіліну нашы косы ўжо пераклікаліся сваімі тонкімі галасамі. Па лагчыне каціўся звонкі птушыны гармідар. Ззяла блакітам вялікае і чыстае неба. Лета яшчэ не збіралася адыходзіць, да восені было далёка.

# Святочная тэлеграма

Ранкам, калі трохі развіднела, Матруна Акуліч, сварлівая, вечна надзьмутая баба, паспешліва зашчапіла хату і пайшла да вясковай паштаркі Алены сварыцца. Было свята.

Хата паштаркі стаіць наводшыбе ў канцы вёскі, крыху адсунутая ўбок ад астатніх хат пад лес. Выглядае яна ўбога, адзінока. Старая, струхнелая — яе будавала маці Алены адразу пасля вайны — і гэтай сваёй абасобленасцю і шэрай непрыкметнасцю бы нагадвае лёс свае гаспадыні. Алена Сакавец пражыла ў ціхім адзіноцтве і спакоі. Жылі адны з маці, бацька з вайны не прыйшоў. А сваякі ўсе з'ехалі з вёскі даўным-даўно і больш сюды не наведваліся і пісем не пісалі. У галодныя і цяжкія пасляваенныя гады Алена сяк-так скончыла сем класаў, пайшла насіць пошту. Вырасла. Сяброўкі замуж выходзілі, нараджалі дзяцей, сварыліся з мужыкамі, а Алена была адна і адна. Што казаць, непрыгожая ўдалася... Маленькая, нязграбная, касавокая... У маладосці і мянушку дурную насіла — Зайчыха... Хлопцы толькі і смяяліся з яе. Вядома, яны ж чапляюцца да такіх, хто з сябе відная ды ладная... А каму ж яна патрэбна была такая? Так і засталася на ўвесь век у дзеўках. Праўда, набіваўся адзін у прымы, калі ёй год пад трыццаць было. Шаўцом працаваў. П'янтос быў непамерны гэты Васька Лагун. Заявіўся аднойчы да іх адвячоркам, выхапіў з кішэні пляшку, грымнуў яе на стол і адразу ж — так, маўляў, і так: ідзі за мяне. А ў вачах нахабная ўпэўненасць (адказу не будзе!) і крыўдная, абразлівая спагада: во! Глядзіце, які я добры! Адмовілася Алена. Нават сама не зразу-

мела потым, як гэта выйшла. Не — і ўсё. Васька пайшоў з хаты, весела здзіўлены. А маці сварылася на яе. Усё ж які-нейкі, а мужчына. П'е? Хто ж цяпер з іх не п'е. Можа б, калі жыў на адным месцы, пры гаспадарцы, дык трохі суняўся б. Во якраз тады, пасля гэтага няўдалага Васькавага сватаўства, першы раз і заплакала Алена. Першы, ды не апошні. Пасля ўжо часценька плакала, асабліва калі пахавала старэнькую маці. Думала, ужо не выцерпіць адна тут жыць, з'ехаць хацела куды-небудзь. Але ж куды ад адзіноты свае з'едзеш? І прыцярпелася Аленіна сэрца да той думкі, што жыць ёй давядзецца заўжды адной. І ні разу не наракала яна ні на свой горкі лёс, ні на сваё тужлівае адзіноцтва. Трэба, значыць, так... Так і жыла. Карова, падсвінак, куры, гарод і пошта.

Алена ў старэнькай матчынай плюшаўцы карміла на двары курэй.

— Пылі-пылі-пылі...— крышыла і сыпала ля ног размочаны хлеб. Матруну яна не заўважыла, стаяла да яе спіной, але тая не паздароўкалася першая і, чакаючы, стала ля загароды.

Раскрышыўшы ўвесь хлеб, Алена выцерла рукі аб палу плюшаўкі і хацела ісці ў хату. Матруна кашлянула.

— Здароўце, цётка,— радасна ўсміхнулася Алена.— Са святам вас!

— Здароў, здароў,— коратка кіўнула тая галавой і тут жа непрыхільна, са стрыманай зласлівасцю загаварыла: — Баба, што й та ты робіш, скажы?

— Што? — прыцішана і разгублена спытала Алена.

Матруна выхапіла запозненую на пяць дзён святочную тэлеграму.

— Чаго йта ты праз паўмесяца толькі дадумалася пошту мне занесці? Гэта ж ад сына! Я чакаю не дачакаюся, вочы ўсе выплакала ад крыўды, а ты, аказваецца, з сабой яе насіла. Ці ж можна гэтак? Калі ля-

нуешся сама, дык наказала б цераз каго, я б схадзіла...

— Я не лянуюся, цётачка,— пачала Алена, але Матруна, разышоўшыся, не дала ёй дагаварыць і панесла далей.

Выліла ўсё нядобрае, што толькі было ў яе душы. Гаварыла запальчыва і злосна — да таго часу, пакуль не адчула сябе зусім лёгка. Алена вінавата і панура слухала ўсё, гледзячы на Матруніны ногі.

— Ці ведаеш, што ты нарабіла? — крыху памаўчаўшы, зноў успыхнула тая.

— Што? — спалохана ўзняла Алена галаву.

— Што, што?.. Я ж думала, што ён там зусім адрокся ад мяне, і са злосці ўчора пісьмо яму нядобрае накатала. Малец жа прачытае і пакрыўдзіцца. Напрасліца!

— Ой, цётачка, навошта ж вы спяшаліся?

— Навошта? Ты маці не была і не ведаеш, як крыўдна, калі дзеці на цябе плююць. Усё жыццё ім, усё чыста ім аддаеш, а яны могуць і на хаўтуры да маці не прыехаць... Табе-то што, ты гэтага не ведаеш.

Сэрца Алены балюча сціснулася. Засвярбелі вочы, яна адвярнулася.

— Пісьмо ваша заўтра забраць можна будзе. Яно яшчэ ў скрыні,— сказала ледзь чутна Алена і пайшла да дзвярэй сенцаў.

— Ды ўжо ж забяру, забяру,— услед ёй пагрозліва і хутка гаварыла Матруна.— Заадно і гэтай белавокай вашай мымры, загадчыцы, скажу слова-другое. Работнічкі! Нябось, як мы за голы працадзень у калгасе рабілі, дык так не было...

Алена зачыніла за сабой дзверы.

На наступны дзень яна не спяшалася ісці на пошту. Ведала, што туды абавязкова прыляціць Матруна, якраз у той час, калі будзе больш народу, калі прывязуць з горада пошту. Прыляціць і накінецца на загадчыцу Галю. Будзе крычаць і махаць гэтай няўдалай

тэлеграмай. І ўсё раскажа. І пра сына, і пра сябе, і яе дрэнным словам пакрые. Ой, каб жа ведала Алена, што так атрымаецца з гэтым... Каб ведала.

Яна прыйшла па свае газеты і пісьмы крыху пазней, калі разышліся паштары з суседніх вёсак. Увайшла ціха, асцярожна і затоена. Баялася, што Матруна яшчэ тут. Але на пошце была толькі адна Галя. Маладзенькая, стройная дзяўчына. Яна недзе вучылася, і яе прыслалі працаваць сюды, у вёску. Вочы былі прыгожыя ў Галі. Вялікія і поўныя.

Алена нясмела прывіталася, цішком пачала складаць у сваю пацёртую сумку газеты і пісьмы. Галя сядзела насупленая і незадаволеная.

— Што ж гэта вы, Дзмітраўна? — нарэшце загаварыла загадчыца.— Прыйшла гэта Акуліч, лаялася, што мы пісьмы і тэлеграмы ў час не дастаўляем ёй. Кажа, ад сына толькі сёння раніцай занеслі. А тэлеграма ж была недзе тыдзень назад, я памятаю. Загубілася яна ў вас, ці што?

Алена змаўчала б і ёй, як змаўчала ўчора Матруне, калі б Галя не спытала, а толькі пасварылася. А раз спытала, трэба было гаварыць праўду ці хлусіць. Не ўмела яна хлусіць.

— Не, не згубілася яна.

— А што ж?

— Я, Галя... гэта... ты не сварыся... Я ўсе паштоўкі святочныя і тэлеграмы, што прыходзілі, толькі ўчора ранкам разнесла. Калі яшчэ цёмненька было. Усе разнесла. І тыя, што на тыдзень раней прыйшлі.

— Як, учора? — сумелася Галя. Здзіўлена і шырока раскрыліся яе вялікія вочы.

— Учора толькі.

— Чаму? Хварэлі, не маглі раней?

Алена села на крэсла, пагладзіла рукой свежыя газеты.

— Не, не хварэла. Газеты я разносіла. Газеты і пісьмы. Паштоўкі толькі хавала ў сумцы. Усе...

— Навошта?

Алена не адказала.

— Навошта? — яшчэ раз спытала Галя.— Навошта гэта вам было? Лаянкі людской хацелі пачуць? Ну дык і пачулі.

На пошту зайшоў аграномаў сын, купіў канверт і выбег, ляпнуўшы дзвярыма.

Адвярнуўшыся ад загадчыцы, Алена, ніякавата сагнуўшыся, сядзела за сталом перабірала газеты. Галя чакала.

— Думалася ж, прыемней будзе людзям акурат у дзень свята атрымаць паштоўкі, а не за тыдзень да яго. За тыдзень і забыцца можна. А з ранку ў свята лепей, радасней. Я ранен ька і разнесла ўсім. Каб жа знаццё, што так вось будзе...

Алена змоўкла, пачала без патрэбы корпацца ў сумцы і плячыма адчувала дакорлівы і сярдзіты позірк загадчыцы. Зараз Галя павінна была нечага нагаварыць ёй непрыемнага, як учора Матруна нагаварыла. Пасароміць за такое, скажа, што так рабіць нельга, ці яшчэ што. І раптам:

— Цётка Алена,— звычайным, толькі вельмі ўжо нязвыклым, ціхім голасам звярнулася Галя да яе.

— Га? — Алена азірнулася, здзіўлена паднялася з крэсла. Не было ў прыгожых Галіных вачах ні злосці, ні дакору. Спакойныя яны былі і цёплыя.

— Можа б, вы дзеду Петраку пенсію сёння занеслі? Нешта сам не прыходзіць. Трэці дзень грошы ляжаць.

— Занясу, занясу... Чаму ж не? — Алена нечаму ўзрадавалася.

Яна ўзяла ў Галі грошы, пенсійны лісток. Паклала ў сумку. Яшчэ трохі пачакала. Думала, што Галя скажа што-небудзь. Але тая сумнавата схілілася над паперамі і маўчала.

— Пісьмо ж сваё Матруна ці забрала? — асцярожна запыталася Алена.

Галя нічога не адказала, толькі кіўнула галавой. Алена выйшла.

На вуліцы ёй здалося, што ў Галі сёння было нешта незвычайнае і нязвыклае. Гэта было добрым і прыемным для яе, Алены, але што, яна не магла зразумець. Ужо потым, ля першай сваёй хаты, дастаючы газеты, успомніла: Галя назвала яе проста цёткай Аленай... Па-вясковаму, звычайна. Раней клікала Дзмітраўна...

## Хвароба

У панядзелак раніцай Генка Круглы не выйшаў на работу. Чаму не выйшаў — ніхто не ведаў. Можа, заспаў, а магчыма, і паехаў куды-небудзь, нікога не папярэдзіўшы.

— Ці не сказаў яму хто-небудзь, што панядзелак выхадным днём зрабілі? — смяяўся муляр дзядзька Струк, поўны і здаровы мужчына.

— А праўда, ён усяму паверыць, што ні скажы. Памятаеце, як ён у мінулым годзе паўгектара канюшыны спасвіў?..

Генка, негаваркі і няўклюдны хлапец, да будаўніцтва працаваў у калгасе конюхам. Падабалася яму гэта работа. Любіў росныя світанні пасля начлегу, глухі тупат спутаных конскіх ног па мокрай, роснай зямлі, патаемнае шамаценне галін над буданом. Ён з задавальненнем віў новыя путы, плёў з лазы кошыкі, а вечарамі чытаў ля ружовага трапяткога вогнішча.

Працаваў бы і далей, каб не здарыўся такі недарэчны выпадак. Пасвіў аднойчы статак ля поля, засеянага канюшынай. Плёў кошык і раз-пораз адганяў коней ад свежай сакавітай травы, якая іх так вабіла. Тут і падышоў да яго сельпоўскі вартаўнік дзед Хведар, вялікі весялун і аматар да жартаў. Ён вяртаўся з лесу.

— А чаго ты іх у канюшыну не пускаеш? — наўмысна здзіўлена спытаўся дзед.

— Як чаго? Гэта ж шкода...

— Якая шкода? Ты хіба на апошнім сходзе не быў? Праўленне ж рашыла аддаць гэта поле пад папас. Відаць, засеялі лішняга. Не чуў хіба?

— Усё поле пад патраву? — здзівіўся Генка.

— Ну, не ўсё, а вунь аж да таго аборка. Глядзі, а то праваронііш. Вечарам вясковы статак абяцалі сюды прыгнаць,— абыякава сказаў дзед і пайшоў.

Аж да самага вечара пасвіліся Генкавы коні і здраталі добрага паўгектара калгаснай канюшыны.

Палявы вартаўнік на наступны дзень даведаўся, чыя гэта работа, і схадзіў да старшыні калгаса. Генку знялі з конюхаў. Пра бязглузды і дурны жарт дзеда Хведара ён нікому не сказаў. Той таксама маўчаў колькі часу, але месяцы праз тры, калі гэты выпадак крыху забыўся, сам за чаркай пахваліўся мужчынам. З Генкі з-за гэтага пасмейваліся.

Брыгадзір і прараб брыгады Крупкін, расстаўляючы людзей на працу — будавалі кароўнік,— спакойна, без злосці абураўся:

— А я ж казаў старшыні: не трэба яго сюды браць. Ад коней чалавека — і адразу на будаўніцтва. Там ён сам сабе гаспадар быў, што хацеў, то і рабіў, а тут жа вытворчасць як-ніяк... А мо ён захварэў?

Доўгі і згорблены Пеця Малышка, па мянушцы Бурцік, чырвонымі, заспанымі вачыма разглядаючы сваю рыдлёўку, неахвотна прамовіў:

— Ды не-е, я яго сёння бачыў... Ранкам да магазіна пёрся. Галава, пэўна, з нядзелі баліць,— і, пакутліва пазяхнуўшы, паволі пачаў капаць.

— Так, зразумела. Добранька, давайце варушыцца. Струк! — гукнуў Крупкін,— хопіць перакурваць, колькі можна... дзесяць гадзін хутка.

— Ладна табе... Паспеем.

— Давайце, давайце, нечага...

Пачалі пахіцу працаваць.

Генка заявіўся на наступны дзень са сваёй старой замусоленай школьнай сумкай праз плячо, у якой цяпер насіў сабе абед. Прыйшоў, як бы нічога і не здарылася, ціха прывітаўся, сеў на цёплы ад ранішняга сонца новы падмурак, закурыў. Яго з-за маўклівасці і

цельпукаватасці неяк не заўважалі і ў брыгадзе, і ў вёсцы. Размаўляў ён мала і неахвотна, больш слухаў, задуменна гледзячы на таго, хто гаварыў.

Бурцік са здзеклівым спачуваннем звярнуўся да яго:

— Ты дзе быў учора?

Генка, не адчуўшы, што той хоча з яго пасмяяцца, адказаў сур'ёзна і шчыра:

— Хварэў. Застудзіўся, пэўна, крыху.

— Пасля нядзелі... Хы-гы... Ну, ну... Я таксама трохі лішняга хапануў.

Генка прамаўчаў.

Брыгадзір пад'ехаў на матацыкле і, як заўжды, вітаўся з усімі за руку.

— Ну? — спытаўся ён, вітаючыся з Генкам.— Чаму ўчора не выйшаў?

— А ён застудзіўся! — Бурцік вышчарыўся і шчоўкнуў пальцам па сваёй няголенай сківіцы. Мужчыны засмяяліся.— І сёння яшчэ бледны,— з'едліва дадаў Бурцік.

Генка павярнуў да яго сваю чубатую галаву, шмыгнуў носам і сказаў спакойна і са здзіўленнем:

— Дурань! Я хварэў.— У яго абліччы не было ніякай збянтэжанасці.

— Ладна, ладна,— сказаў Крупкін, весела зірнуўшы на спахмурнелага Бурціка.— Давай даведку ці лісток, што там у цябе?

Вочы ў Генкі неяк задуменна і таемна бліснулі, ён памаўчаў, потым апусціў галаву:

— Няма. Я не хадзіў у бальніцу.

— Чаму?

— Так, не хадзіў — і ўсё.

Крупкін хмыкнуў:

— А адкуль жа ты даведаўся, што хворы?

— Галава балела,— павесялеў Бурцік.

— Дурань! — ціха паўтарыў Генка.

Бурцік ускіпеў і, пагрозліва наморшчыўшы лоб, пасунуўся быў да хлопца:

— Ах ты, смаркач! Я табе зараз...

Генка, не гледзячы на яго, падняў цагліну, што ва-лялася ля ног, здзьмухнуў з яе пясок. Бурцік, адразу спыніўшыся, злосна скасавурыўся на Крупкіна.

— Набраў у брыгаду падшывальцаў... Яны гульма гуляюць, а нам за іх наярвай...

— Ай, памаўчы ты,— незадаволена азваўся дзядзька Струк.— Хто-хто, а ты ўжо ніколі лішняга на пуп не возьмеш. Перапрацаваўся... Можа, і напраўду ён хварэў.

— Як жа, бачыў я, як ён учора зранння ў магазін за пляшкай цягнуўся.

— От жа, пень дубовы,— незласліва сказаў Генка.— Усіх па сабе раўняе. Алкаш...

— Што гэта такое?! — абурана і злосна закрычаў Бурцік.— Кожная плюгаўка тут будзе абражаць... Я во зараз з гэтага круглага трохвугольнік зраблю! Сімулянт!

Генка плюнуў і адышоў убок.

Крупкін паслаў яго да старшыні калгаса. Маўляў, ён цябе сюды накіраваў, няхай сам і разбіраецца.

Генка стаяў ля дзвярэй кабінета старшыні і чакаў, пакуль адтуль выйдзе дзед Арывон, што прыйшоў патрабаваць для свайго ўнука даведку на пашпарт. Начапіў усе свае ордэны і медалі і заявіўся ў кантору. Дзівак!

— Паглядзім, паглядзім,— усхваляваны Арывон вылецеў з дзвярэй.— Гэта нідзе такога няма, каб чалавека трымаць у вёсцы, пашпарт яму не даваць! Не за тое ваявалі і кроў лілі...— і пашкандыбаў на вуліцу.

Генка нявесела ўсміхнуўся і ўвайшоў.

— І ты па даведку? — Рыгор Сямёнавіч сумна зірнуў на яго. Было бачна, як яму непрыемна пасля размовы з дзедам Арывонам.

— Не.

— Чаму не працуеш?

Генка расказаў, чаму яго прыслалі сюды.

— Ну што, усё правільна,— сказаў Рыгор Сямёнавіч.— Даведку трэба. Нам жа невядома, ці хварэў ты, ці не.

— Я хварэў,— цвёрда прамовіў Генка.— Чэсна.

— Мог бы лісток узяць, бальніца вунь пад бокам. Свая, нікуды ехаць не трэба.

— У мяне ўчора тэмпература была. Нанач маліны з чаем выпіў, сёння ўжо добра. А чаму вам патрэбны гэты лісток ці даведка?

— Ведаеш такую прымаўку — давярай, ды правярай. Во табе мы паверым на слова, другому, трэцяму... А знойдуцца ж такія, што на нашым давер'і лайдачыць будуць. Зразумеў?

— Я вас падманваў хоць раз?

Старшыню здзіўляла, што Генка такі спакойны і нават абыякавы.

— Не, вы адкажыце. Я ўжо два гады ў калгасе працую. Маніў я ці не?

— Ну і што, калі не?

— А чаго вы не верыце? Я быў хворы.

Рыгору Сямёнавічу захацелася грымнуць кулаком па стале.

— Чаго ты тут расквахтаўся? «Не верыце — не верце, хварэў, хварэў...» Хворыя бяруць даведкі, а ты не ўзяў.

— Я не люблю па дактарах цягацца,— нечакана давёў Генка.

Старшыня ўздыхнуў. Генка няёмка таптаўся пасярод пакоя і чакаў. Чакаў, што будзе далей казаць старшыня.

— Ты сам жа робіш так, каб мы сумняваліся, праўду ты кажаш ці хлусіш. Прынёс бы даведку, і справа

канцом. А так мы маем поўнае права і не паверыць табе. Ты ж дарослы, разумець павінен.

Генку стала не па сабе. От жа людзі! Няўжо штонебудзь зменіцца ад таго, што ён прынясе гэты лісток непрацаздольнасці?

А так во глядзяць як на лайдака і абібока. Нават старшыня. А яго Генка паважаў, лічыў справядлівым і добрым. Ды вось і ён...

— А можа, ты пасля выхаднога... гэта? — раптам спытаў Рыгор Сямёнавіч і прыкра прыжмурыўся, акурат як Бурцік.

Генка спачатку хацеў павярнуцца і пайсці. Чамусьці вельмі-вельмі захацелася палаяцца.

Але стрымаўся.

— Вы Мікіту Лазняка ведалі? — спытаў ён.

— Якога?

— Ну, што гады чатыры назад памёр? Ён каля малочні жыў.

— Мяне тады яшчэ тут не было. А што?

І праўда. Чаму гэта Генку здалося, што Рыгор Сямёнавіч працуе ў іх старшынёй ужо даўным-даўно, а не ўсяго два гады?..

— Ён не такі ўжо і стары быў, а памёр. Усё казаў, што ў яго дзесьці ў грудзях асколак ад вайны. Усе смяяліся, бо Мікіта не выяваў нідзе — адкуль жа асколак? Той у лазні і месца нават паказваў, куды яго раніла. Усё адно ўсе смяяліся. Казалі, што гэта ён цвіком, пэўна.

— Ты гэта да чаго гаворыш? — старшыня зацікавіўся расказам.

— Дык вось. Бывала, не выйдзе на працу — брыгадзір абураецца. Зноў, кажа, наш сімулянт паранены лайдачыць. Не верылі людзі, што ў Мікіты што-небудзь баліць. Даведак не было. Смяяліся, смяяліся, а гэты сімулянт раптоўна: бэц! І памёр... Асколачак пад сэрцам усё ж такі быў! Быў... Ну, потым, вядома, усе

ўздыхалі журботна: а-ах, які быў чалавек чэсны, сумленны, праўдзівы... На хаўтурах урэшце паверылі яму, а быў жывы — думалі, што хлусіць.

— Дзеля чаго ты гэта? — ціха спытаў Рыгор Сямёнавіч.

— Так. Сорамна потым было і прыкра.

— Ты, хлопча, нешта не туды гнеш. Што ты раўняеш хвост з пальцам? Там гэта адно, а тут іншае...— Старшыня паляпаў далоняй па шкле на стале.— Тут праца, вытворчасць, і пара ўжо, брат, адвыкаць ад анархіі. Парадак трэба, зразумеў? Як у горадзе на заводзе. Там во паспрабуй прагуляць дзень... Такую прачуханку дадуць — доўга памятаць будзеш.

— У горадзе людзей процьма. Яны адзін аднаго не ведаюць, таму і не вераць. А вы ж у нас усіх ведаеце.

— Дзіўна ты разважаеш... Як малы дзіцёнак.

— Чаму?

— Ты ўжо не ў школе, а на працы. У нас хай і не завод, але ж таксама вытворчасць. Не ўсміхайся. Сельская гаспадарка цяпер становіцца на прамысловую аснову. Чуў такое?

— Ну...

— Значыць, і парадкі павінны быць не горш, чым на самым сапраўдным заводзе.

— Верыць на слова ўжо не будуць?

— От жа дэмагог! — з усмешкай сказаў старшыня, потым пасур'ёзнеў і дадаў з нейкай злоснай упартасцю: — Во ты, скажам к прыкладу, сумленны, а другі прайдзісвет... У душу кожнаму не зазірнеш.

— А каго больш?

— Што?

— Каго больш у нас — сумленных ці прайдзісветаў? — Генка чамусьці хваляваўся.

Рыгор Сямёнавіч задуменна паглядзеў за акно, паціснуў плячыма:

— Сумленных, пэўна... Вядома, іх намнога больш. А што?

— Чаго ж з-за прайдзісветаў заадно і тым не верыць, каго больш?

Рыгор Сяміонавіч неяк збянтэжана заморгаў вачыма.

— У нас пакуль што не камунізм. Во дойдзем да яго — тады і...

Генка глядзеў на сонную муху, што павольна паўзла па шыбіне, маўчаў і думаў.

— А во раней жа верылі... калі бальніцы не было. Захварэў — ну і захварэў. А цяпер...

Старшыня горка і стомлена ўздыхнуў.

— Хопіць! Ты зараз дагаворышся! — Ён пачаў штосьці гартаць і між іншым сказаў: — Ідзі працуй. Скажы Крупкіну, што я дазволіў. Будзе сход — разбяромся.— І, як бы тлумачачы, дадаў: — Прагул, дружа, ёсць прагул. Не магу ж я загадаць Крупкіну, каб ён паставіў табе гэты дзень у табелі. Ты ж, фактычна, не працаваў.

Генка пастаяў крыху, сумна ўсміхнуўшыся, правёў рукой па галаве, падышоў да стала.

— Ды ёсць у мяне лісток. Во,— і паклаў на шкло перад старшынёй акуратную сіненькую паперку.

Старшыня заклапочана і разгублена паглядзеў на хлапца, затым зазірнуў у паперку. Усё было ў парадку. Дыягназ, подпіс урача. Вызваленне ад працы на тры дні.

Рыгор Сяміонавіч ціха вылаяўся.

— Дык чаго ж ты мне тут лапшу на вушы вешаеш? Пустазвон ты чортаў! Столькі часу задарма на цябе ўходаў!

Ля дзвярэй Генка азірнуўся.

— Дык што мне, хварэць? — і ён па-заліхвацку закінуў сумку за плечы.

— Рабі, як трэба,— сказаў старшыня. Яму было

прыкра, што гэты хлапчук у нечым як бы ўзяў над ім верх.

— А як трэба? — спытаў хлапец.

Старшыня не адказаў.

Генка зайшоў па дарозе ў сталовую, купіў папярос, выпіў бутэльку піва і паволі пакрочыў дадому. Дзень прапаў.

# Макароў вір

Гэту навіну Алесь Лукашэвіч пачуў яшчэ да таго, як прыехаў у вёску. У горадзе, на аўтобуснай станцыі, у шумлівай чарзе па білеты спаткаў Пецьку Ломана — высокага, плячыстага хлапца, свайго аднагодка.

— Здароў, Лукаш,— засвяціўся Пецька, пазнаўшы былога аднакашніка. Моцна і ўзбуджана страсянуў руку Алесю.— Колькі ж мы не бачыліся?.. Дзе ты цяпер?

Не бачыліся даўно. Пэўна, аж з выпускнога.

— Вучуся памаленьку,— адказаў Алесь і абыякава дадаў: — У інстытуце.

— Малайчына! — шчыра ўзрадаваўшыся, пахваліў Пецька.— Я так і думаў, што з нашага класа адзін ты і будзеш чалавекам. А гэта... не ачалавечыўся яшчэ?

— Як, як?

— Не ажаніўся?

— Што ты! — стомлена ўсміхнуўся Алесь.— Мне і дыхнуць няма калі, не тое што...

— А я, браце, як кажуць, памыліўся ўжо.— Пецька весела вышчарыўся і сказаў з наўмыснай заклапочанасцю: — Да цешчы во еду. Вунь сяброўка з клункамі стаіць,— ён кінуў некуды за акно і, нібы апраўдваючыся, дадаў: — Матка на гэта сагітавала мяне. Жаніся, кажа, а то сап'ешся. І праўда... Пасля арміі я гудзеў на ўсю катушку. Надакучыла, спакою захацелася. Працую цяпер у саўгасе шафёрам, хату абяцалі даць...

— Правільна зрабіў,— падтрымаў яго Алесь і спытаўся: — Пра каго-небудзь з нашых ведаеш?

Пецька коратка расказаў тое, што ведаў пра хлопцаў і дзяўчат, з кім яны разам вучыліся,— у асноўным пра тых, хто хадзіў у школу з яго вёскі.

— А пра сваіх жа ты сам ведаеш. Чуў пра Каралеўну?

Гэта школьная мянушка Надзі Ладышавай, што жыла хат цераз пяць ад Алеся.

— Вучыцца ў тэхнікуме,— сказаў Алесь.— Я яе таксама ўжо з год не бачыў. Рэдка прыязджае дадому.— І, адчуўшы ў пытанні нешта больш значнае, чым звычайную цікаўнасць, спытаў: — Чаго гэта цябе яе лёс так турбуе?

Пецькавы вочы адразу пакруглелі.

— Ты нічога не ведаеш?! — радасць ад таго, што ён паведамляе першым, забегала па праставатым, адкрытым твары.— Эх ты! Сусед, называецца! Суседка, можна сказаць... гэта... а ён і не чуў нават... Значыць, не ведаеш?

— Замуж выйшла, ці што? Дык пара ўжо.

Пецька ўедліва прыжмурыўся.

— Ну, ты заляпіў! Як у сук. Выйшла! Без вэлюма і штампу. Гы! Дзіцем абзавялася. Мамачка без татачкі, можна сказаць.

Вось гэтага Алесь ужо ніяк не чакаў.

— Ды ты што? — уражана і ўсхвалявана прамовіў Алесь.

— Чаго ты так дзівішся? — наўмысна спакойна спытаў Пецька.— Думаеш, калі яна ў школе гордай курыцай хадзіла, дык і ўсё... на цэлае жыццё сціплай будзе?.. Г-э-э, браце... Жанчыны, як восеньскія грыбы,— не кажы, пакуль ножычкам не разрэжаш. То ў водпуск?

— На выхадныя.

Пецька смачна прыцмокнуў.

— Ну во. Зайдзі да яе ў госці. Усё ж, як-ніяк, аднакласнікі і суседзі. Гэта... з сынам пазабаўляешся.

Алесь прапусціў гэты нядобры жарт міма вушэй і сказаў па-ранейшаму здзіўлена:

— Калі яна паспела? Я ж месяц назад дома быў і нічога не чуў...

— Яна не паспявала. Гы-гы! Прывезла з сабой — і ўсё. Яму ўжо з месяц было. Матка выйшла сустракаць і ледзь не абамлела. У адной руцэ сумка, у другой — дзіця. Трымай, матухна, унучка!

— Тэхнікум, выходзіць, кінула?

— Якая там ужо вучоба, калі спінагрыз гарласты на руках. Дома зараз. Замест маткі іншы раз на працу выходзіць. Нядаўна са мной трасту ў Асінаўку вазіла.— Пецька змоўк, усміхаючыся, нешта прыгадаў.— Гордая.

Ён яшчэ хацеў штосьці расказаць больш падрабязна, але раптам недзе ля ўвахода пачуўся моцны і злосны голас:

— Пецяі Аўтобус жа зараз пойдзе... Чаго ты тут вісіш?

Ломан, страпянуўшыся, хуценька развітаўся, запрасіў Алеся ў госці і подбегам пусціўся за жонкай.

Немаведама чаму, Лукашэвічу было вельмі непрыемна тое, што ён толькі пачуў. Здавалася, што Надзіна бяда нейкім чынам зачапіла і яго. У Алеся было такое пачуццё, быццам ён у нечым расчараваўся. Не, не ў Надзі Ладышавай. Гэта ўжо яе клопат, як жыць і што рабіць, ён тут ні пры чым, бо яны нават і не сябры — хіба што ў школе разам вучыліся. Расчараванне было ў іншым. Нешта неакрэсленае, пра якое словамі і не скажаш, нешта далёкае, добрае і светлае раптам размылася, расплылося, знікла, і ад гэтага на душы стала пуста і нудліва.

А ў аўтобусе яшчэ ўспомніўся выпускны баль. Ціхая ліпеньская ноч, цёмны школьны сад, музыка з дзесятага «А», дзе круцілі пласцінкі, белыя кашулі хлоп-

цаў і высокія, спецыяльна для вечара, мудрагелістыя дзявочыя прычоскі.

Лукашэвіч не танцаваў. Ад выпітага віна трохі кружыла ў галаве, дык пайшоў пахадзіць па садзе. Яму не было весела. Не тое што школы было шкада — вучыцца яму надакучыла,— а так... У грудзях сядзела ціхая, мяккая самота, як гэта бывае звычайна ў апошнія дні лета.

На адзінай у садзе лавачцы, пад старой разгалістай антонаўкай, нехта сядзеў. Алесь не хацеў нікога сустракаць і таму збочыў са сцежкі і пайшоў паміж акуратных градак. Раптам пачуў, што нехта ўсхліпвае. Пад яблыняй плакалі. Прыгледзеўся ўважліва — і пазнаў Ладышаву Надзю. Яна была адна. Сядзела, падкурчыўшы пад сябе ногі і схіліўшы бялявую галаву на спінку лавачкі. На траве дзвюма плямамі бялелі яе прыгожыя туфлі. Алесь падышоў.

— Ты чаго румзаеш? — грубавата, не адразу спытаў ён.— Школьныя сшыткі шкада?

Тая, не ўзнімаючы галавы, зласліва кінула:

— Каціся адсюль...

— Туфлі мадняцкія, пэўна, ціснуць,— бы сам сабе спакойна сказаў Алесь і пакрочыў прэч.

— Дурань...— спыніла яго Надзя і выпрасталася.— Сумна, а ты туфлі...

Яна стала абувацца. Алесь прытуліўся спіной да шурпатага ствала і глядзеў некуды за нізкую агароджу. Гаварыць ён не ўмеў.

— У клас бы ішла, калі сумна. Там адразу павесялееш.— Алесь яшчэ хацеў дадаць пра тое, што яе там чакаюць Алег Лапіцкі і Валодзя Яцук, яе ўхажоры, але змоўчаў.

— Дурань,— яшчэ раз сказала яна і, папраўляючы пышныя валасы, дадала: — Лапша вараная.

Алесь заўсміхаўся. Добра было тое, што ён, ціхі, непрыкметны і непрыгожы, якім ён сам сябе лічыў, за

дзесяць год не закахаўся ў Надзю. Во было б пакут! Гордая, непрыступная, насмешлівая Надзя — першая прыгажуня ў школе — і ён, сарамлівы недарэка, што, не вывучыўшы ўрокі, заўжды чырванеў — хіба такое можна было ўявіць? Але яму заўжды падабалася, калі Надзя гаварыла жорстка. Неяк вельмі складна ў яе гэта выходзіла. Як цяпер. Алесю нават захацелася, каб яна засталася тут і не ішла ў клас, дзе музыка, духата і Алег з Валодзем.

— Цёплая сёння ноч,— не сваім голасам сказаў ён, калі заўважыў, што яна збіраецца пайсці.— І зорак шмат...

Надзя азірнулася. Вочы Алеся прызвычаіліся да цемры, і ён убачыў нават, як яна іранічна ўсміхаецца.

— Ты, мoжа, вершыкі мне пра каханне прачытаеш? — з крыўдным здзекам у голасе спытала Надзя.— Усе ж кажуць, што ты надта добрыя вершы пішаш. Прачытаў бы.

Алесь адчуў, як у яго загарэліся шчокі. Хацеў сказаць ёй у адказ таксама штосьці ўедлівае і нядобрае, але стрымаўся і ўздыхнуў:

— Ладна... ты ідзі, а то яшчэ шукаць кінуцца.

Пругка адштурхнуўся ад яблыні і пакрочыў у процілеглы бок.

— Лукаш! — гукнула яна, але Алесь не спыніўся і раптам пачуў за спіной хуткія крокі. Даганяла.

— Слухай, хадзем са мной,— гэтак жа абыякава, як і раней, сказала яна, аднак Алесь адчуў, што голас яе змяніўся.

— Куды ўжо мне танцаваць?.. Шчэ туфлі твае папсую...

— Згары яны, гэтыя танцы! — гучна выпаліла Надзя.— У мяне галава гудзе ці то ад віна, ці то ад шуму. Хадзем на рэчку.

— Навошта? — зусім па-дурному спытаў ён.

— Так. Тут сумна.— Здаецца, Надзя гаварыла сур'ёзна.

— Адны?

— Ну.

Алесь усхвалявана і разгублена глядзеў на яе.

— А як жа...— Ён ледзь-ледзь не спытаў пра Алега. Лічыў, што менавіта яму Надзя аддае перавагу.

— Што?

— Вечар жа яшчэ не скончыўся. Там усе...

— Я ўжо навесялілася. Ды і яны хутка туды пацягнуцца, хто цверазейшы. Сонца сустракаць...— Яна гаварыла парывіста і рашуча.

«Пэўна, некаму хоча насаліць,— мільганула думка.— Хоча, каб яе ўбачылі разам са мной».

Ад гэтае думкі стала нядобра на душы.

— Пасварыліся? — едка і непрыхільна спытаў Алесь.

Надзя зразумела, што ён меў на ўвазе.

— Во шчасце! — з лёгкім дакорам паківала яна галавой.— Во лапша! Галава ў цябе ці пусты збан? Дадумаўся... Ды, можа, мне з табой хоць раз захацелася паразмаўляць... Ты ж з першага класа як надзьмуўся, і да гэтага часу, як воўк, па кутках трымаешся.

— Не ўсім жа быць...— Ён не прыдумаў, кім быць, і змоўк.

— Можа, я і сапраўды хачу твае вершы паслухаць.

— Нашто табе?

Надзя ціха засмяялася.

— Ты, Лукаш, памылка граматычная, а не хлапец. Такі ўжо... Ну ды ладна — хадзем,— проста сказала яна, бы ён ужо даў згоду.

І яны пайшлі. Каб не трапіцца нікому на вочы, вылезлі з саду цераз дзірку ў агароджы і пакрочылі па цёмнай вёсцы.

— Пойдзем да Макаровага віру.

Алесь сказаў гэта знарок, ведаў, што туды ніхто

з выпускнікоў не пойдзе. Калі пойдуць, дык да Круглага, дзе купаюцца.

— Пойдзем,— сумнавата сказала Надзя. Яна ішла крыху наперадзе — высокая, стройная, прыгожая. Густыя светлыя валасы гарэзлівымі завіткамі ляжалі на плячах. Алеся ахапіла прыемнае хваляванне, якое змешвалася з падсвядомым недаверам. Чаго гэта яна з ім пайшла? Дзіўна...

Сядзелі, звесіўшы ногі, на шырокай кладцы перад прадаўгаватым вірам.

Цьмяна блішчала роўная вада, на якой ля левага берага ляжаў поўны месяц.

— Чаму ён так называецца? — загаварыла першай Надзя.

— Хто?

— Вір.

— Мой дзед казаў, што ў ім парабак адзін утапіўся. Кахаў дзяўчыну, а яе замуж сілком выдалі. Дык ён ноччу прыйшоў сюды і ў ваду кінуўся. Яго імем і назвалі вір... Тут глыбока.

Надзя сядзела, нізка апусціўшы галаву.

— Хлусня-а-а,— задуменна і працяжна прагаварыла яна.— Хлопцы ад кахання тапіцца не будуць.

Алесь губляўся, бо не ведаў, пра што яму з Надзяй гаварыць.

Добра яшчэ, калі тая пыталася, тады сяк-так размаўлялі, а калі раптам змаўкала, ён таксама не мог нічога з сябе выцягнуць. І да ўсяго іншага яго яшчэ не пакідала радаснае здзіўленне.

— Чаго ты надзьмуўся? Не маўчы, няшчасце. Скажы што-небудзь.

— Што?

— Во ўжо не ведаю. Што думаеш, тое і скажы.

— Нічога не думаю. Так... Бачыш, месяц вір разразае на дзве часткі? Адна большая, другая меншая. Праўда?

— Праўда,— засмяялася Надзя.— І зорак шмат на небе. Як цудоўна! Ціха, прасторна... Вой, якая чароўная прырода!

Алесь абурана адвярнуўся.

— Хадзем дадому,— праз зубы злосна прамовіў ён і памкнуўся ўзняцца.

Надзя смяшліва боўтала нагамі.

— Слухай, Лукаш,— не ўзнімаючы галавы, сказала яна,— а ты пра мяне вершы пісаў?

— Не пісаў,— тым жа тонам адказаў ён.

— Праўда? А чаму?

Алесь нічога не адказаў. Панура сядзеў, уважліва разглядаючы сцежку, што збягала з гары да кладкі.

— Зноў маўчыш? Табе трэба пастухом у калгас пайсці. З каровамі ты б хутка згаварыўся.

Ён маўчаў. Было крыўдна. Сама ж напрасілася сюды і во здзекуецца.

Нібы пачуўшы яго думкі, Надзя зрабілася раптам сур'ёзнай.

— Ладна.— Яна глядзела на ваду.— А хочаш, я табе нешта скажу?

— Ну?

— Толькі не смейся. Не будзеш?

— Не бойся, не буду.

Алесю здалося, што яна скажа пра тое, як ён ёй падабаецца. Унутры ўсё радасна сціснулася.

Надзя зіркнула на яго спадылба.

— Абдымі мяне, калі ласка. Холадна...

Не, ён не здзівіўся. Пэўна, проста не паспеў здзівіцца. Яго рука, адразу здранцвелая і непаслухмяная, лягла на яе плечы.

— Ды сядзь ты бліжэй! — з нейкім незразумелым нецярпеннем прашаптала яна і сама прысунулася да Алеся, узяла яго за руку.

— Лапша ты... Зразумеў? — І ўсміхнулася.

Нешта трэба было гаварыць. Толькі б не паказаць ёй, што ён разгубіўся, што гэта ўсё для яго дзіўнае і нечаканае.

— А-а... чаму ты з Алегам не пайшла? — недарэчна сур'ёзна і важна спытаў ён.

— Ідзі ты...— зусім ціха і задуменна сказала Надзя.

Яе валасы дакраналіся да яго пляча. Алесь бачыў амаль побач з сабой бледную ад святла месяца, поўную шчаку і тонкую, прыгожую шыю. Яму таксама стала холадна, нават пачаў дрыжаць.

— Прачытай вершы,—не звыклым для яе мяккім голасам папрасіла Надзея.

Алесь нахіліўся.

— Слухай,— прашаптаў ён, а потым раптоўна і хутка прыціснуўся да гэтай белай, высокай і гордай галавы. Алесь не зразумеў, пацалаваў ён Надзю ці не. Вусны толькі на кароткае імгненне датыкнуліся да яе вуха, а яго павекі кранулі светлыя завіткі. Штосьці незвычайна прыемнае і жаданае разлілося ў яго грудзях, перахапіла горла.

— Вой, матуля! — Надзя ўціснула галаву ў плечы, хітравата засмяялася, а потым рэзка павярнулася да яго тварам, і ён убачыў перад сабой яе вялікія, цёплыя вочы, пухманыя вусны і цемнаватыя валаскі над верхняй губкай.

— Зараз з кладкі звалімся, няшчасце.— Яе шэпт быў усхвалявана-дрыготкі.

— Не звалімся.— Алесь чамусьці не пачуў свайго голасу.— Чаму ты плакала ў садзе? Хто цябе пакрыўдзіў?

— Ніхто. Цяжка было...

Ён павольна і нясмела схіліў галаву да яе пляча. Адчуў, што пальцы Надзеі лёгка і пяшчотна ляглі на яго калматую чупрыну. Як яму было хораша!!

10 Зак. 1648

— Ты...— ён сам не ведаў, што хацеў казаць.
— Што, што? — узрушана пыталася яна.
— Нічога... Так... Не ведаю...
— Няшчасце.
— Не сварыся.
— Камса салёная.

Няўмела, баючыся і чырванеючы, ён цалаваў Надзю ў шчокі, у вочы, у лоб. Яго рукі блыталіся ў духмяных валасах. Ярка свяціў над рэчкай месяц. Здаецца, яна казала, што гэта цыганскае сонца... А ўнізе пад кладкай вясёлым жаўруком спявала вада.

А раніцой усё стала тым, чым і было раней. Калі сустрэліся ля школы — ён з хлопцамі выносіў сталы з класа, дзе праўлялі выпускны,— Надзя, як заўжды, абыякава і нават лянiва павіталася з ім, бы і не было гэтай радаснай і шчаслівай ночы, не было яе ціхіх слоў і яго няўклюдных пацалункаў. «Усё правільна,— горка падумаў ён тады,— з кім, як кажуць, на вяселлі не пацалуешся...»

Пасля раз'ехаліся і сустракаліся толькі зрэдку, калі наведвалі бацькоў, некалькі разоў размаўлялі. Але пра кладку ля Макаровага віру ні ён, ні яна ні разу не ўспомнілі.

Аўтобус спыніўся насупраць сельмага.

— Сашка! — гукнулі Лукашэвіча.

Ля дзвярэй магазіна стаяў Грышка Кулік. Ён скончыў школу на год пазней за Алеся і зараз працаваў у горадзе будаўніком. Таксама, пэўна, прыехаў на выхадныя.

Павіталіся. Спыталі адзін другога пра жыццё і справы.

— Можа, зойдзем у сталоўку і чарвівачку раздушым? — прапанаваў Грышка.— За сустрэчу...

Алесь адмовіўся. Сказаў, што вельмі стаміўся і галодны.

— Ну тады прыходзь вечарам у клуб. Можа, перад кіном што-небудзь згаблюем.

Алесь кіўнуў:

— Добра, прыйду.— І пайшоў.

— Гэй! — на ўсю вуліцу грымнуў Кулік.

Алесь азірнуўся і ўбачыў яго павесялелы, задаволены твар. І аднабокую ўсмешку.

— Ты пра Крулеву нашу чуў? — Грышкавы вочы гарэлі калючымі агеньчыкамі.

— Чуў,— буркнуў Алесь і адвярнуўся.

— Скажы... якая... А была ж — божухна ты мой...

«Пень»,— падумаў Алесь.

Праходзячы каля Надзінай хаты, паскорыў крок. Здавалася, што яна зараз выйдзе на ганак, убачыць яго, збянтэжана і сарамліва адвядзе позірк. Трохі прайшоў, азірнуўся. На дзвярах вісеў іржавы замок.

— Ну, здароўце.— Алесь паставіў сумку на лаўку, пацалаваў маці, паціснуў бацьку руку.

— А мы так і думалі, што ты прыбудзеш,— сказала матка.— Кот учора ўвесь дзень мыецца і мыецца. Я і сон сёння бачыла. Ой, малец, змарнеў ты ўвесь, не ясі, пэўна, там нічога.

— Як вы тут? — Алесь распрануўся, прысеў да стала.

— Ды хваліцца асабліва няма чым.— Бацька закурыў.— Скрыпім патрохі, як старыя калёсы. Я во на зіму кацельную магазіна са Струкам узяўся паліць. Усё ж паўсотня якая будзе.

Маці завіхалася ля газоўкі. Гатавала яешню.

— Ну, а ў вёсцы што новага? — спытаў Алесь.

— Дырэктара знялі. Дапіўся да ручкі.

Маці зазірнула з сенцаў, трымаючы ў руках шалупінне ад яек.

— Пра Рыгораву дачку хіба не чуў? — І вочы ў маці нядобра заіскрыліся. Чаму людзі так рады, калі хто-небудзь трапляе ў бяду?

10*

— Не, не чуў,— злуючы, схлусіў Алесь.

— Дзіця ж з горада прывезла! Вучобу кінула і да маткі з сынам прыджгала. Тут цяпер. А здаецца ж, такой дзеўкай была, такой дзеўкай! Во ён, гэты горад...

— Ну дык што? — абыякава сказаў Алесь.

— Як што? — сумелася маці. Яна ніяк не чакала гэткай спакойнай рэакцыі на такую навіну.

— Нагуляла ж дзіця,— пачаў тлумачыць бацька.— Гэта ж не ад святога духу. Дакруціла хвастом. Атрымала гасцінец... А ходзіць па вёсцы, брат ты мой, бы ўсё адно так і трэба.

— Што ж ёй, перад кожным на калені валіцца і прабачэння прасіць? Няма за што. Гэта яе справа. Дарослая ўжо.

— Зараз век такі,— сказала маці і пайшла да яешні.

— Твая праўда,— пажартаваў бацька.— Усю маладзёж любоўная нецярпячка разбірае.

Алесю стала прыкра ад яго слоў.

Адвячоркам ён пайшоў да калодзежа па ваду. Калонка была побач з хатай, цераз дарогу, але вада з яе — жаўтаватая і нясмачная. Для сябе бралі з калодзежа.

Асцярожна сыходзячы па слізкай сцежцы ў равок, Алесь і не заўважыў, як сутыкнуўся з Надзяй. Тая, у ватоўцы і ботах, цяжка ступаючы, несла на каромысле ваду.

Алесь палахліва і збянтэжана саступіў са сцежкі.

— Вечар добры.

Надзя ўсміхнулася. Яна, пэўна, здалёк яго прыкмеціла.

— Прывітанне студэнту,— весела сказала яна.— Не развучыўся яшчэ вёдры трымаць?

Алесь баяўся на яе глядзець. Здавалася яму, што Надзя абавязкова павінна яго саромецца, адчуваць за

сабой нейкую віну. А ён страшэнна не любіў, калі людзям было ніякавата з ім, бо самому вельмі часта, па нейкіх малаважных прычынах, даводзілася чырванець. Такі ў яго быў характар.

— Што ж ты з пустымі сустракаешся? Хочаш, каб мне не пашанцавала? — У яе голасе была ледзь прыкметная гарэзлівасць.

— Не ведаў, што сустрэнемся.— Ён паглядзеў на яе.— З поўнымі б пайшоў.

Твар яе быў спакойны і вясёлы, вочы чыстыя, без ценю засмучанасці. Ёй было проста прыемна, што яны сустрэліся.

«Во дурань! — падумаў з дакорам на сябе Алесь.— Чаму яна павінна мяне саромецца? Адкуль я гэта ўзяў?»

І ён адразу ж паспакайнеў.

— А ты з поўнымі? Мне абавязкова пашанцуе.

Надзя падправіла вольнай рукой валасы пад хустку.

— Завідушчы ты. Табе ж і так у жыцці шанцуе. Куды ўжо больш.

— І праўда. Мне шчасце само ў рукі лезе пасля аднаго выпадку...

— Якога гэта?

— Вір Макароў памятаеш?

На яе твар лягла цёплая задуменнасць.

— Успомніў...— Яна ўважліва зірнула на яго і адразу ж спахапілася: — Ну, пайду... а то плячо ўжо замлела...

І прайшла міма.

— У клуб прыходзь... У кіно! — крыкнуў ёй услед Алесь і пачырванеў. Добра, што было трохі цемнавата.

Надзя спынілася.

— Куды мне ў кіно... Сын у мяне маленькі. Я ўжо мама,— сказала гэта з задавальненнем, нават з гордасцю. Маўляў, можаш зайздросціць.

Алесь пайшоў уніз.

— Калі хочаш, можаш зайсці крыху пазней. Як упраўлюся па гаспадарцы. Мае да цёткі на хрэсьбіны паехалі... на два дні.

У Алеся закалацілася сэрца.

— Добра.

— Прыходзь,— амаль абыякава і ленавата сказала Надзя. Здаецца, такім голасам яна запрашала яго тады на рэчку.

Разы са два Алесь азірнуўся ёй услед. Незразумела, чаму хацелася глядзець на яе ногі і на тое, як яна ходзіць.

Ён пайшоў да Надзі, калі ўжо добра сцямнела. Ля яе ганка з асцярогай азірнуўся: яшчэ языкастыя суседкі ўбачаць, дык чорт ведае што наплесці могуць. Ціха ўвайшоў у сенцы, асцярожна пастукаў. Надзя адчыніла дзверы, прыклала палец да вуснаў:

— Гавары шэптам... Спіць.

— Хто? — не зразумеў Алесь.

— Як хто? Сын.

— А-а-а, я і забыўся... Як ты яго назвала?

— Бора. У гонар татачкі.

Алесь маўчаў. Надзя радасна і прыемна ўсміхалася.

— А ты, Сашка, культу-у-рны стаў. Нават пастукаў. Дзіўна, што ты па-гарадскому не размаўляеш. Не навучыўся яшчэ? Вунь Струкаў Коля тры месяцы ў горадзе пажыў, прыехаў дадому, бацьку з маткай на «вы» кліча і па-гарадскому шпарыць. «Элементарно»! Ладна, распранайся. Няшчасце...

Гэта слова прыемным смуткам адгукнулася ў грудзях Алеся. Ды і ўвогуле яму зрабілася добра і лёгка. Нейкая перашкода, што стаяла паміж імі ў час размовы каля калодзежа, з першымі яе словамі і ўсмешкай адразу знікла, і ён адчуў сябе свабодна і ўпэўнена.

Распрануўся, зняў чаравікі, прайшоў услед за Надзяй у другі пакой, дзе было светла. Там заглядзеўся

на яе. Прыгожая яна была заўжды, але цяпер у карот-кім, старэнькім дамашнім халацiку выглядала асабліва прывабна. Знікла некуды былая рэзкасць у рухах і сло-вах, з'явілася павольнасць і нават млявасць. Трохі схуд-нела, вочы сталі яшчэ большымі.

— Ты што мяне вывучаеш? — з задзірыстасцю спы-тала яна.

Алесь пацiснуў плячыма.

— Так... Не бачыліся даўно...

— Можаш не хваляваццa. Усё маё пры мне заста-лося. Ты сядай. Зараз чай з мёдам піць будзем.

Яна выйшла. Праз хвіліну прынесла шклянкі, чай-нік, спoдак з жаўтавата-празрыстым мёдам.

— Частуйся, студэнцік. Мёд з нашых старых ліп.— Яна села на канапу насупраць Алеся, наліла яму чаю: — Еш вясёлае лета!

За чаем гаворка пайшла весялей. Алесь шмат чаго расказваў пра інстытут, пра сябе. Гаварыў на дзіва складна і смешна. Надзя некалькі разоў прыцішана смяялася. Потым неяк адразу змоўклі. Яна падышла да стала і ўключыла тэлевізар. На экране ганялі шайбу.

— Ты вершы ўсё яшчэ пішаш? — нечакана Надзя перавяла гаворку на другое.

Алесь паблажліва скрывіўся.

— Я ўжо дарослы. Колькі можна дзяцініцца?

Надзя неяк асабліва ўважліва зірнула на яго.

— Глядзі ты, дарослы... Вырас... Гм. Маляўка ты! — І нечакана хутка выпаліла: — Хочаш на сына пагля-дзець?

Алесь адсунуў шклянку, падняўся з крэсла. Надзя прайшла за шырму ля шафы.

— Вось,— яна схілілася над маленькім ложкам,— мой барсучок. Прыгожы, праўда?

— Прыгожы. На цябе падобны.— Алесь жартам ускудлаціў ёй валасы.

Надзя рэзка закруціла галавой і паргразіла:

— Во падрасце, ён табе дасць. Ладна-ладна, не крыўдуй. Пайшлі адсюль. А то прачнецца яшчэ, дык і разам не супакоім.

Яны выйшлі з-за шырмы. Алесь сеў у крэсла глядзець хакей. Надзя ўзяла грабеньчык, падышла да люстэрка, пачала расчэсвацца. Алесь непрыкметна цікаваў за ёй.

— Ты вунь хакей глядзі. Хакей,— сказала яму ў люстэрка, а потым зморшчыла нос і паказала язык.

— Дык ты дражніцца будзеш! — Алесь усхапіўся з крэсла, хутка падышоў да яе, узяў ззаду за плечы.— Гэта як пакаранне,— і пацалаваў у гарачую шыю.

— Вой! — ён убачыў у люстэрку яе хітраватую ўсмешку.— Ну вось і ўспомнілі... Макароў вір.

Ён трымаў яе за плечы.

— Лёгка ўспомніць, калі памятаеш.

— Не шалей, а то заробіш! — Яна павярнулася і пагразіла пальцам: — Глядзі, студэнт...

— Надзя! — Алесь, п'яны ад яе ціхага голасу, пяшчотна абняў Надзю і прыціснуў да сябе.

— Не губляй таго, што не трэба губляць. Ясненька?

— А што не трэба?

— Розум. Вельмі патрэбная штука, ведаю па сабе.

Алесь нахіліўся бліжэй.

— Мой розум, пані Каралева, пайшоў на пясчанае дно Макаровага віру.

— Вой, які...— Яна не дагаварыла. Пякучы, доўгі пацалунак прымусіў яе маўчаць.

— Дурань! — смеючыся, з перасцярогай ціха загаварыла Надзя.— Цераз вокны ж відаць... Недарэкі ты кавалак!.. Ідзі сядзь.— А вочы яе гарэлі нейкім пяшчотным і калючым бляскам.

Алесь сеў на канапу, зачэрпнуў мёду. Сапраўды, ён пах ліпенем і сонцам.

Надзя падышла да акна, што выходзіла на вуліцу, зацягнула белую фіранку. Потым выключыла і святло.

— Хай ужо тэлевізар свеціць...— І села побач з ім. Яна была смелая, вельмі смелая. Сама, першая абшчаперыла Алеся за шыю, моцна прыціснулася тварам да яго шчакі.

— Лесь! Абдымі мяне яшчэ раз,— з самотнай бездапаможнасцю, як дзіця, папрасіла Надзея.

Лесь... Ніхто і ніколі не называў так Алеся. Ён нават не думаў, што яго можна так зваць. Ён абдымаў яе, цёплую, даверлівую — і яму здавалася, што ніколі ўжо ў жыцці ў яго не будзе такіх шчаслівых, нечаканых, па-добраму п'яных хвілін. Увесь перапоўнены бурлівай цеплынёй і бязмернай удзячнасцю, ён ласкава ўзяў яе твар у далоні і пацалаваў у лоб.

— Што ты робіш? — пужліва прашаптала яна.— Як нябожчыцу...

— Гэта я па-бацькоўску.— Алесь пагладзіў яе па валасах.— Адкажаш мне на адно пытанне?

— Хочаш ведаць пра бацьку майго сына? Так?

Алесь разгублена адхіснуўся.

— Ды ты што? Я не пра тое...

— А што? — Надзя зноў прытулілася да яго. Зразумела, што ён пра гэта і не думаў.

— Чаму ты тады пайшла са мной на рэчку? Пасля выпускнога...

— Не ведаю,— не адразу, але проста і шчыра сказала яна.— Праўда, не ведаю. Я і не думала пра гэта. Хіба так важна?

— Эх ты...

— Эх я...

Ён безупынна цалаваў яе, як і тады, на рэчцы. Далікатна і ласкава, але зусім упэўнена дакраналася яго рука да яе твару, плячэй, да вострага разрэзу халаціка. Раз-пораз з-за нейкай дурнаватай цікаўнасці ён пазіраў праз прыжмураныя павекі на яе твар. Надзіны вочы

былі закрыты, галава крыху адкінута назад, вусны ўсміхаліся задаволена — шчаслівай усмешкай.

Абдымаючы Надзю, Алесь думаў: «Усё жыццё мы чаго-небудзь шукаем, нешта выбіраем, ад нечага адмаўляемся. Усё наша, не такое ўжо доўгае, жыццё... Шчасце... Дзе ты, шчасце? Ты нам так патрэбна! А яно часам у нас перад вачыма — таму мы яго і не бачым, а калі і бачым, дык баімся ўзяць, таму што над намі вечна праклятае пытанне: а што скажуць людзі? Бедны чалавек!

Як ён баіцца быць шчаслівым! А вось Надзя, пэўна, не спалохалася.

Надзя, Надзейка!..»

— Надзя!..

Яна прыклала далонь да яго вуснаў.

— Маўчы, Лесік... Маўчы. Ты зараз пачнеш гаварыць і нагаворыш глупства. Я ведаю.

— Адкуль ты ведаеш, што я хачу сказаць?

— Ды ўжо ведаю.

— Ну што, скажы?

— Не трэба. Пацалуй мяне яшчэ. Вось так... Добрая песня, Лесь, толькі тая, у якой няма траскатні. Павер мне. Маўчы.

Доўга сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго. Маўчалі. Калі Алесь хацеў што-небудзь сказаць, толькі збіраўся, Надзя ўсміхалася краем вуснаў і гаварыла:

— Цішэй... ці-шэй... Я слухаю, як б'ецца тваё сэрца. Тук і тук...

Ён усміхнуўся. Надзя здавалася яму маленькай, дзікаватай дзяўчынкай.

— А я чую, як цурчыць вада ля Макаровага віру,— сказаў ён.

— Кладку нашу знесла веснавой паводкай у мінулым годзе. І паплыла яна да самага сіняга мора. Далёка — далёка...

Алесь нахіліўся да яе вуха.

— Хочаш, мы зробім новую. Прыгожую, як казачны мост? Добра?

Надзя маўчала. І ўжо не ўсміхалася.

— Чаго ты маўчыш? Скажы што-небудзь.

Яна ціха засмяялася.

— Я, здаецца, табе такое ж гаварыла тады, на кладцы. Памятаеш?

— Надзя,— настойліва сказаў ён,— ты не адказала на маё пытанне.

Яна правяла рукой па яго шчацэ.

— Ну я ж цябе прасіла. Не трэба. Чаму ты такі гарачы? Табе добра са мной?

— Вельмі. Я...

Надзя таропка перапыніла яго:

— Ну дык чаго ж ты тады?

— Я не хачу ніякай хлусні,— сказаў ён і ў наступны момант зразумеў, што сказаў не тое. Ён не думаў так, трэба было сказаць нейкае іншае, больш правільнае, слова.

Ён прыціснуў яе да сябе, зноў парывіста і пяшчотна пачаў цалаваць.

Надзіны рукі цяжка саслізнулі з яго плеч. Алесь убачыў яе вочы. Шырокія, разгубленыя і сумныя. У яго апусціліся рукі.

— Ты чаго?

— Божухна,— стомлена сказала яна,— ты нешта не тое думаеш...

— Надзя! — ён паспрабаваў яе абняць.

— Пачакай.— Яна паднялася з канапы, запаліла святло, папраўіла рукой валасы.— Я не хлушу табе, Алесь. Няўжо ты не разумееш гэтага?

Алесь жмурыўся ад святла і глядзеў у падлогу.

— Даруй,— сказаў ён,— я не хацеў цябе пакрыўдзіць. Я не тое сказаў...

Надзя села ў крэсла насупраць Алеся, сашчаперыла рукі на каленях.

— Разумееш,— сказала яна,— ты першы за ўвесь час, як я тут, паглядзеў на мяне добра, без усялякай задняй думкі. А ведаеш, як на мяне глядзяць ужо цэлы год: як п'яніцы на чарку гарэлкі. А ты не так. Таму я і... Ты... Я не хлушу...— Яна прыціснула рукі да вачэй. Заплакала.

Сэрца ў Алеся сціснулася ад жалю

— Надзя, я прашу цябе... не трэба... Ты не так мяне зразумела...

Яна падняла галаву, усміхнулася, хуценька выцерла слёзы.

— Вось дурніца! Усё ж такі заплакала, а думала, што ніколі не буду. Я жанчына, Алесь. Каб ты ведаў, як хочацца іншы раз, каб цябе пашкадавалі, прылашчылі. Каб дакрануліся да цябе душой, а не рукамі, каб усё было шчыра, ад сэрца. Тады нічога не страшна. Ніколі не будзеш саромецца сваіх учынкаў, слоў, свайго мінулага. Было ж ад сэрца, а сэрца благога ніколі-ніколі не падкажа.

— Я ўсё гэта разумею. Усё. Я толькі хацеў спытаць цябе...

— Не будзем пра гэта,— зноў неяк палахліва перасцігнула яго Надзя.— Добра? Давай пра што-небудзь іншае.

Яны размаўлялі, але чагосьці не хапала. Штосьці знікла ў яе голасе, нечага не было ў словах Алеся. Яму здавалася, што гэта «нешта», неакрэслена-цудоўнае, было ў іх паўгадзіны назад і што ён сам адным словам усё разбурыў.

Потым яна сказала:

— Позна ўжо, Алесь. Ідзі дадому.

— Надзя...— Голас яго задрыжаў.

— Што, Алесь?

— Нічога. Я так. Хадзем!

Калі апрануўся, узяў яе за рукі, прытуліў да сябе, пацалаваў.

— Ідзі,— ціха сказала яна.

На вуліцы яго ахінула з усіх бакоў мокрая, шчыльная цемра.

Алесь пачуў, як у сенцах глуха шчоўкнула засаўка. Вёска ціха спала.

На наступны дзень ён ад'язджаў.

Алесь стаяў на аўтобусным прыпынку і глядзеў на гразкую вуліцу, на голыя таполі ўздоўж яе, на пустыя, шэрыя гароды.

Глядзеў, нечага чакаючы. Не, не Надзю, не яе... а так...

Незразумела...

Невядома...

Не пачуў, як падышоў аўтобус.

## Змест

*Первая книга прозаика*

Алексей Ануфриевич Дудоров

СВЯТАЯ ПТИЦА

Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Я. І. Курто. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар Г. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар В. В. Шарамета.

ІБ № 316

Здадзена ў набор 27.10.78. Падп. да друку 23.02.79. АТ 01064. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 6,45. Ул.-выд. арк. 6,86. Тыраж 7000 экз. Зак. 1648. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Дудароў А.**

Д 81 Святая птушка: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 160 с.— (Першая кніга празаіка).

Месца дзеяння апавяданняў А. Дударова — сучасная вёска. У ёй жывуць цікавыя людзі. Добрыя гаспадары, непрымірымыя ворагі чэрстваcці і абыякавасці, яны служаць яскравым прыкладам для моладзі. Сустракаюцца ў апавяданнях і дзівакаватыя і крыху смешныя шукальнікі «прыгожага жыцця», якім само жыццё дае суровыя ўрокі.

Д $\frac{70303-049}{М\ 302(05)-79}$ 31—79 Бел 2



Дудароў Аляксей Ануфрыевіч нарадзіўся 6 чэрвеня 1950 года ў вёсцы Кляны Дубровенскага раёна на Віцебшчыне. Скончыў дзесяцігодку, працаваў на Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе, служыў у арміі. У 1976 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працуе ў Беларускім тэатры юнага гледача.

Апавяданні А. Дударова друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах і былі прыхільна сустрэты чытачом.

50 к.